ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

3 чэрвеня 1994 г. № 22 (3744) Кошт 150 руб.

# НЕ БЛІЗНЯТЫ, АЛЕ — БРАТЫ

***Герман АНДРЭЕЎ: «З пункту гледжання тэорыі таталітарызму, камунізм і фашызм — блізняты-браты. Светапоглядная аснова ў іх агульная: міфалагізацыя надасабовых структур нацыі, дзяржавы, класа, партыі; замена паняцця асабістай віны і асабістай адказнасці калектыўнымі («яўрэі вінаваты», «буржуі вінаваты»). Ствараемыя нацызмам і камунізмам сістэмы носяць відочна крымінальны характар. Нацызм і рэалізаваны камунізм знаходзяцца на роўнай аддаленасці ад дэмакратыі, права, гуманізму, духоўнасці...»***

5, 12

# БОЖАЯ ІСКРА

***Апавяданне Уладзіміра СЦЯПАНА***

8—11

# НІЧОГА, АПРОЧ ЦЯРПЕННЯ

***Васіль БЫКАЎ: «Наіўна меркаваць, што мы ўступілі ў посттаталітарны, перабудовачны час, што настае царства дэмакратыі. Настае царства парадоксаў, вяртаецца наша звыклае царства абсурду — гэта бясспрэчна. Дэмакратыя для нас па-ранейшаму terra incognita...»***

13

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

**Толькі пачаўшыся, падпісная кампанія ўжо заканчваецца. Засталося ўсяго 10 дзён. А таму, паважаныя прыхільнікі «ЛіМа», паспяшайцеся! Падпісацца на наш тыднёвік яшчэ можна ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.**

***Падпішыцеся на «ЛіМ» — ужо сёння!***
***Атрымлівайце «ЛіМ» — кожную пятніцу!***
***Чытайце «ЛіМ» — увесь тыдзень!***







# «СВЯТАЯ СПРАВА...»

Так адгукаліся артысты на прапанову ўзяць удзел у дабрачыннай акцыі «З надзеяй на міласэрнасць». Ладзіла яе Рэспубліканскае таварыства «Дзеці ў бядзе». Філармонію запоўнілі сем'і з дзеткамі, пацярпелымі ад наступстваў Чарнобыля, медработнікі, служкі царквы, замежныя госці, спонсары... Манашкі ўручалі прысутным «Новы запавет». У фае працавалі выстаўкі-продажы, былі абсталяваны скрыні для грашовых ахвяраванняў. Тры канцэртныя аддзяленні (рэжысура Н. Восіпавай, вядучая К. Ягорава): «Верасы», «Харошкі», «Песняры», «Вяселле», «Свята», «Чабарок», «Сябры» ды «Купалінка»; ансамбль танца, камерны хор, камерны аркестр; кампазітары А. Елісеенкаў, І. Лучанок; І. Алоўнікаў, А. Алоўнікаў ды Ю. Гільдзюк, А. Атаманаў, А. Саладуха, Я. Паплаўская і А. Ціхановіч ды інш. Выступленні праваслаўнай сястры Веры, прадпрымальніка У. Карагіна, які асабіста ахвяраваў 15 млн. руб. у фонд таварыства, ды сп. С. Шушкевіча, які перадаў набор каштоўных лекаў... Нямецкі доктар В. Герайн заўважыў: «Дзеці ў бядзе» — не звычайны фонд, а суполка пацярпелых, таму ніводная капейка не будзе тут змарнаваная». Вось папярэднія падлікі сродкаў, перададзеных спонсарамі і добраахвотнымі ахвяравальнікамі: 4146 долараў, 136 млн. 880 тыс.руб. На Беларусі зарэгістравана ўжо каля 2 тыс. сем'яў з анка- і гематалагічна хворымі дзецьмі, і ад чарнобыльскіх наступстваў не застрахаваны ніхто. Любоў, міласэрнасць, дабрачыннасць — наш доўг перад будучыняй...

*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*





# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***1 чэрвеня — Міжнародны дзень абароны дзяцей. Нехта дасціпна ўдакладніў: ад дарослых. У гэтым ёсць пэўны сэнс. Якія мы, дарослыя, сёння — такімі будуць і нашыя дзеці заўтра. Калі дарослыя абыякавыя да лёсу краіны, значыць, ім усё роўна, якая будучыня чакае іхніх дзяцей. Ад дарослых залежыць, будуць сённяшнія немаўляты грамадзянамі свабоднай і заможнай Беларусі альбо другараднымі падданымі апошняй у свеце імперыі.***

## НАРМАТЫЎ ТЫДНЯ

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва вызначыў набор прадуктаў харчавання на ўзроўні пражытачнага мінімуму для бедных слаёў насельніцтва, гэта значыць — для большасці грамадзян нашай краіны. На думку ўрадавых чыноўнікаў, сярэднестатыстычнаму беларусу хопіць на год 46,4 кілаграма мясных прадуктаў. Гадоў пятнаццаць-дваццаць назад лічылася, што савецкаму чалавеку неабходна 78 кілаграмаў мяса ў год. У 1982 годзе норму знізілі да 70 кілаграмаў. Але і гэта аказалася нерэальным. Тады ў паказчык «мяса» былі ўключаны субпрадукты першай і другой катэгорый, сала. І ўсё роўна не атрымлівалася болей 66—67 кілаграмаў на душу насельніцтва ў год. Але, як бачым, не спыніліся і на гэтым. Цікава, колькі пры гэтым урадзе пратрымаецца лічба 46,4?

## ЖАХ ТЫДНЯ

Згодна досведу, праведзенаму арганізацыяй «Салдацкія маці Расіі», Расійскае войска штогод у выніку так званых нестатутных адносін (інакш кажучы, «дзедаўшчыны») і ў збройных канфліктах за межамі Расіі губляе 40 тысяч чалавек. Больш, чым Савецкая Армія за ўвесь час Афганскай вайны. Генералаў у Расійскім войску сёння болей, чым было ў Савецкай Арміі. Гэтыя лічбы ўяўляюць для нас цікавасць, бо антынезалежніцкія сілы (СС «Белая Русь», мясцовыя камуністы і жырыноўцы, «Союз офицеров») распачалі прапаганду на карысць «аб'яднання» ўзброеных сіл Беларусі і Расіі.

## ПРЭТЭНЗІЯ ТЫДНЯ

Калісьці станцыя Беларускай чыгункі Гайдуцішкі, што на Гарадзеншчыне, была па просьбе жамойтаў пераведзена ў падпарадкаванне Прыбалтыйскай чыгункі. Рашэнне прымалася Масквою, зыходзячы з эканамічных інтарэсаў Жамойцкай ССР і агульнасаюзнага прамысловага комплексу: на тэрыторыі Жамойці знаходзіцца прамысловы аб'ект, які станцыя ў асноўным і абслугоўвала. Цяпер няма ні ўсесаюзнага прамысловага комплексу, ні вышэйшага арбітра ў асобе Масквы, ні Прыбалтыйскай чыгункі. А жамойты зараз патрабуюць Гайдуцішкі пад сваю юрысдыкцыю, бо, як яны сцвярджаюць, гэта іхняя спрадвеку зямля. На мінулым тыдні ў Гайдуцішках сустрэліся прадстаўнікі міністэрстваў замежных спраў Беларусі і Жамойці. Жамойты віталі беларускіх калег словамі: «Приветствуем вас на литовской земле!»

## ВЯРТАННЕ ТЫДНЯ

На радзіму, у Расію, вярнуўся лаўрэат Нобелеўскай прэміі Аляксандр Салжаніцын. Менавіта ён прапанаваў у часе гарбачоўскай «перабудовы» адпусціць на ўсе чатыры бакі 12 рэспублік СССР, а з Расійскай Федэрацыі, Украіны, Беларусі і часткі Казахстана, дзе дамінуе рускамоўнае насельніцтва, утварыць новую Расійскую імперыю. Зараз гэтая прапанова набыла статус амаль што афіцыйнай палітычнай дактрыны кіраўніцтва РФ.

## НОВАБУДОЎЛЯ ТЫДНЯ

Ваенна-касмічныя сілы (ВКС) Расіі распачалі практычную рэалізацыю ідэі стварэння новага касмадрома на Далёкім Усходзе. Ужо ў 1996 годзе адсюль павінен быць здзейснены першы запуск ракеты-носьбіта «Рокот». Абы не плаціць Казахстану за карыстанне Байканурам.

## ІМПЕРЫЯЛІЗМ ТЫДНЯ

У газеце «Московские новости» (N 19) надрукавана інтэрв'ю са старшынёю Кангрэса рускіх абшчын Дзмітрыем Рагозіным. У загаловак вынесены ягоныя словы: «Россия будет шире нынешних границ». Д. Рагозін сцвярджае, што «если Россия — правопреемница СССР, стало быть, и все бывшие граждане Советского Союза автоматически приобретают гражданство России»; мяркуе, што «настало время жесткой защиты национальных интересов, даже национального эгоизма. И я уверен, что Россия будет гораздо шире, чем в нынешних границах — с Беларусью, естественно, Крымом, Украиной и Казахстаном», «с Беларусью уже нет границ». І нарэшце: «Империя — это не проклятье, а форма существования крупных государств. Но, к сожалению, Россия никогда не была метрополией. Вот я и хочу, чтобы она ею стала, хотя бы и после парада суверенитетов».

## ПРЫСВАЕННЕ ТЫДНЯ

У друку з'явіўся ўказ Прэзідыума Вярхоўнага Савета, падпісаны М. Грыбам, аб прысваенні звання заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь У. Правалінскаму. Не паспела прамінуць неабходная, вызначаная законам, пяцігадовая дыстанцыя «ад звання да звання», а заслужанага работніка культуры У. Правалінскага, вядомага чытачу «ЛіМа» сваім судовым іскам да нашай газеты, памянёным указам увялі ў шэраг заслужаных артыстаў. Зразумелая рэакцыя прафесійных і афіцыйна не ганараваных музыкантаў, асабліва калі яны даведаліся, што прысваенне звання У. Правалінскаму адбылося... без неабходнага, паводле закона, удзелу Камісіі па народнай адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Віншуем У. Правалінскага і яго ўплывовых сяброў з гэтым прысваеннем!

## ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

У склад праўлення Нацыянальнага банка Беларусі накіраваны намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета І. Бамбіза і першы намеснік Старшыні Савета Міністраў М. Мясніковіч. Няйначай каб нейтралізаваць старшыню праўлення сп. Багданкевіча, які адкрыта супрацьстаіць сумніцельнай лініі Кебіча ў фінансавай сферы. Гэты гвалт над эканомікай яшчэ далей адштурхне ад Беларусі патэнцыяльных партнёраў у цывілізаваных краінах. Бо на Захадзе ўрадавы чыноўнік, перш чым заняць месца ў кіраўніцтве банка, завесці сваю справу ў галіне вытворчасці альбо камерцыі, павінен пайсці ў адстаўку. Мабыць, на сённяшні ўрад Беларусі цывілізаваныя нормы не распаўсюджваюцца.

## «ХВАЛАСПЕЎ» ТЫДНЯ

«Московские новости» за подпісам уласнага карэспандэнта ў Мінску пад назвай «Наследник Машерова» надрукавалі панегірык Вячаславу Кебічу. Аўтар, жадаючы пахваліць Кебіча за талерантнасць і шырыню поглядаў, фактычна выкрывае яго як прыстасаванца і беспрынцыпнага палітыка: «В Белоруссии он целует руку митрополиту Филарету, в Израиле носит ермолку, в Арабских Эмиратах наверняка бы принял мусульманский обряд под гарантированные поставки дешевой нефти».

Выбары

# ЗА КАГО І ЧАМУ?

***Пачалася кампанія па выбарах першага прэзідэнта Беларусі. Падзея сама па сабе неардынарная, а тут яшчэ такі вялікі выбар — вочы, можна сказаць, разбягаюцца... Большасць прэтэндэнтаў — не навічкі ў палітыцы, імёны іх нам знаёмыя, і кожны з грамадзян, бадай, ужо зрабіў свой выбар. Які і чаму? Менавіта з такім пытаннем мы вырашылі звярнуцца да некаторых нашых аўтараў і чытачоў. Пры гэтым мы менш за ўсё кіраваліся іх палітычнай арыентацыяй, тым болей, што не заўсёды нам яна вядомая.***

Рыгор БАРАДУЛІН, народны паэт Беларусі:

— Я галасую за Зянона Пазняка. Чаму? Таму, што толькі Пазняк, як стваральнік, кіраўнік БНФ, як выказоўца думак і надзей беларускага народа, якраз беларускага, ацалелага ад імперскай машыны гвалту й прымусу, мае канкрэтную праграму Адраджэння, уваскрэсення духоўнага, праграму палітычную й эканамічную.

Невыпадкова такі наступ вядуць на Пазняка камуністы ў законе, стукачы, не шкадуючы дзёгцю й памыяў. Але пракаў нельга ні запалохаць, ні засланіць пакорнымі спінамі, пакорнымі ўчарашняму дню й сённяшняй партыі Саўміна. Як заўсягды, слушна зазначыў нам вялікі Васіль Быкаў, час Пазняка яшчэ не надышоў, наш народ пакуль не дарос, каб зразумець прарока. Але час гэты надыдзе! Зянон Пазняк — заўтрашні дзень Беларусі. Галасуючы за Зянона Пазняка, галасую за Беларусь незалежную й заможную, за Беларусь, якую будуць паважаць ва ўсім свеце! Жыве Беларусь!

Сяргей ЗАКОННІКАЎ, паэт, галоўны рэдактар часопіса «Полымя»:

— З тых прэтэндэнтаў на пасаду першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якія выйшлі на фінішную прамую, аддаю перавагу двум: С. Шушкевічу і З. Пазняку. Чаму? Ды таму, што толькі з імі звязваю набыццё нашай дзяржаваю сапраўднай незалежнасці і суверэнітэту, і як вынік — структурную перабудову і стабілізацыю эканомікі, спыненне інфляцыі і росту цэн, забеспячэнне належных умоў для развіцця навукі, адукацыі, культуры, паступовае ўваходжанне Беларусі ў еўрапейскую супольнасць. Як бы ні заліваліся прыдворныя салаўі — філосафы, сацыёлагі, палітолагі, славячы свайго кандыдата, а час паказаў, што праводзімая цяперашнім урадам унутраная і знешняя палітыка вядзе наша грамадства да эканамічнай і сацыяльнай катастрофы, а саму Беларусь ператварае ў яшчэ больш занядбаную калонію Расіі, чымся гэта было ў савецкай імперыі.

На высокай пасадзе прэзідэнта павінен быць не радавы, шэры чыноўнік, а высокаінтэлектуальны чалавек, патрыёт сваёй Айчыны, асоба, якая бачыць маштабна перспектывы развіцця нашай незалежнай дзяржавы, якая можа аб'яднаць нацыю, стварыць з яе лепшых прадстаўнікоў мазгавы цэнтр і вывесці Беларусь і яе народ на належны цывілізаваны ўзровень.

І калі пэўная частка нашых грамадзян яшчэ не здольна прагаласаваць за З. Пазняка, то няхай яна падтрымае С. Шушкевіча. У сённяшняй сітуацыі гэта будзе самы правільны выбар.

Уладзімір КАЗБЯРУК, літаратуразнаўца:

— Шчыра кажучы, яшчэ не прыйшоў да канчатковай высновы, за каго галасаваць. Схіляюся да дзвюх кандыдатур: Станіслава Шушкевіча і Зянона Пазняка.

С. Шушкевіч — вопытны палітык, шмат чаго бачыць, ведае, яму неабыякавы суверэнітэт і незалежнасць нашай дзяржавы. Аднак, будучы на пасадзе Старшыні Вярхоўнага Савета, ён фактычна ўлады не меў, мо таму праявіць сябе як палітык і дзяржаўны дзеяч ён не меў магчымасці. Калі ж С. Шушкевічу ўдасца стаць прэзідэнтам, яго якасці палітыка змогуць знайсці рэальнае ўвасабленне. Акрамя ўсяго іншага, фігура Шушкевіча мне, як літаратару, сімпатычная тым, што ён паходзіць з сям'і паэта са шматпакутным лёсам С. П. Шушкевіча, якога я добра ведаў і паважаў.

Што датычыцца Пазняка, то ўсе мы ведаем, колькі ён зрабіў у імя адраджэння Бацькаўшчыны. Яшчэ прыцягвае ў ім рашучасць, чэснасць — ад казнакрадаў, несумленных людзей ён несумненна ачысціў бы апарат. І, разам з тым, калі быць шчырым да канца, я асабіста не прымаю залішняга экстрэмізму ў некаторых яго выказваннях.

Фёдар КАПУЦКІ, рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта:

— Якім я ўяўляю сабе прэзідэнта краіны? Якімі якасцямі ён павінен валодаць? Сёння вельмі складанае становішча ў нашай дзяржаве, складаная сітуацыя і ў эканоміцы, і ў прамысловасці, і ў сельскай гаспадарцы, і ў экалогіі, і ў культуры. Усе структуры нашага грамадства спрабуюць знайсці нейкае выйсце ці, па меншай меры, яго шукаюць. А будаўніцтва незалежнай беларускай дзяржавы — задача вельмі цяжкая і складаная, і, зразумела, выйсце з гэтай складанай сітуацыі будзе залежаць ад таго, якая сістэма кіравання запануе ў нас. Усё залежыць ад сістэмы і, у большасці сваёй, ад таго, які чалавек будзе ўзначальваць яе. Гэта павінен быць вельмі дзяржаўны чалавек, глыбокай прафесійнай падрыхтоўкі, які мае вялікі вопыт кіравання, бо сёння толькі пачынаць вучыцца кіраваць не выпадае. Гэты чалавек павінен разумець інфраструктуру грамадства, ведаць, якія рычагі кіравання ўвесці ў рух, за што ўхапіцца, каб знайсці выйсце, каб народ паверыў і пайшоў за ім, бо вельмі вялікая частка грамадства скептычна і насцярожана настроена.

Ёсць у нас усе ўмовы, каб адрадзіць сваю культуру, мову, усталяваць сваю незалежнасць. І гэты наш кіраўнік павінен ведаць галоўныя напрамкі руху наперад, у яго павінна быць канцэптуальная палітыка. Ён павінен памятаць, што квітнеючае грамадства могуць зрабіць толькі глыбокаадукаваныя, падрыхтаваныя людзі. Паспяхова рашыцца задача, калі будзе на гэта накіраваны ўвесь інтэлектуальны патэнцыял, а ён у нас вялікі. У нас добра наладжана падрыхтоўка спецыялістаў. Нашы вучоныя — зарука навукаёмкіх, канкурэнтна здольных вытворчасцей.

Кіраўнік дзяржавы павінен быць гуманным, добрапрыстойным, добразычлівым чалавекам. Падыходзіць да вырашэння спраў уважліва, узважліва, цаніць людзей, не быць экстрэмістам.

З шасці кандыдатаў я не ўсіх добра ведаю. Нічога не скажу, напрыклад, пра Дубко і Новікава, бо іх проста не ведаю. Астатнія паказалі сябе на справе, выступалі па радыё, тэлебачанні, у друку. Я ўпэўнены, што, падкрэсліваю, на сённяшні час узняць работу і павесці грамадства наперад, дасягнуць лепшых вынікаў і захаваць у нашай дзяржаве спакой, каб мы былі ўпэўненыя ў заўтрашнім дні, былі спакойныя за нашых дзяцей і ўнукаў, можа толькі сённяшні Старшыня Савета Міністраў В. Ф. Кебіч.

Алесь КРАЎЦЭВІЧ, гісторык:

— Я буду галасаваць за Пазняка. Гэта, лічу, адзіны з прэтэндэнтаў чалавек, які можа адэкватна ацаніць сітуацыю і не падмане свой народ. Гэта чалавек, які бачыць шляхі выхаду з крызісу. І, як недаверлівы беларус, я буду галасаваць за Пазняка яшчэ і таму, што асабіста ведаю яго, меў магчымасць кантактавацца. Гэтаму палітыку я веру.

Вельмі важна, што Зянон Пазняк — інтэлектуал у поўным значэнні слова. Досыць намі пакіравалі «кухарчыны дзеці». Сітуацыя ў Беларусі сёння блізкая да абвалу, і найперш у эканоміцы. Наш Гродзенскі універсітэт, напрыклад, бюджэтная арганізацыя, не атрымаў грошай на заробак. Пазняк адзіны, хто можа ўсё гэта спыніць.

*г. Гродна*

Пімен ПАНЧАНКА, народны паэт Беларусі:

— Я аддам свой голас за Станіслава Шушкевіча. Гэта вельмі інтэлігентны, разумны, далікатны чалавек, вопытны і глыбакадумны палітык. Як бы ні намагаліся абылгаць яго вядомыя палітолагі, ён дбаў найперш не пра сваё асабістае, а пра нашае, пра дзяржаву нашу, пра Беларусь. Яго паездкі за мяжу падымалі аўтарытэт нашай краіны ў свеце, праз яго народы іншых краін вызнавалі нашу Беларусь. Ён адзіны з усіх прэтэндэнтаў на такі высокі пост, ведае і клапоціцца пра нашу культуру, літаратуру, мову, бо Станіслаў Станіслававіч — сапраўдны беларус, патрыёт.

Іван ШТЭЙНЕР, літаратуразнаўца:

— Для мяне галоўнае, каб захавалася наша беларуская дзяржава, каб яе нікому не здалі. Толькі з З. Пазняком я звязваю ўвядзенне ўласнай валюты, стабілізацыю эканомікі, стварэнне сапраўднай еўрапейскай дзяржавы, у якой прадстаўнікі розных нацыянальнасцей будуць жыць у дружбе і згодзе. Таму я, натуральна, галасую за Зянона Пазняка.

*г. Гомель*

Леанід ШЧАМЯЛЁЎ, народны мастак Беларусі:

— Уся мая сям'я, цешча, жонка, дзеці — усе мы будзем галасаваць за Зянона Пазняка. Яго праграма бліжэй за ўсё нам, хто нарадзіўся на гэтай зямлі. Ён найпер руліцца пра тое, каб была ў нас свая дзяржава, свая мова, свая культура. Ягоная ўласная духоўнасць, разуменне палітычнай сітуацыі і стану дзяржаўнасці найбольш сярод усіх іншых прэтэндэнтаў адпавядаюць патрэбам дня. Менавіта гэтая асоба патрэбна нашай дзяржаве.

З нагоды

# НЕЗАЛЕЖНА АД ВЫНІКАЎ ВЫБАРАЎ

Кажуць, нашы людзі ў сваёй пераважнай большасці цалкам апалітычныя і не надта зважаюць на набліжэнне 23 чэрвеня. Мо гэта і праўда. Затое ўсё больш нервуецца сёй-той з кіраўнічых структур.

Вось, скажам, саўмінаўскі прэс-сакратар Замяталін. Мяркуючы па ягонай апошняй заяве адносна газеты «Свабода», нервы ў таварыша сапраўды разбэрсаліся. Прынамсі, даў ён поўную волю і эмоцыям, і словам, ажно да адкрытых пагроз дазаяўляўся.

Далейшыя ж падзеі паказалі, што некаму вельмі ж карціць ажыццявіць вядомы тэзіс «мы будем командовать прессой», прадэманстраваць сілу ўлады. І вось у выніку «рэарганізацыі» на радыё скасаваны рэдакцыі «Беларускай маладзёжнай» і «Крыніцы». А «БМ», між іншым, якраз збіралася запрасіць у студыю С. Багданкевіча, каб той выказаўся наконт «аб'яднання» грашовых сістэм і ўвогуле наконт палітыкі ўрада ў фінансавай сферы.

На прэс-канферэнцыі, што ладзілі журналісты «Беларускай маладзёжнай» і «Крыніцы» з нагоды чарговага свавольства ўрада, ад імя дэпутатаў апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце выступіў С. Навумчык. Ён зачытаў заяву, пад якой подпісы Пазняка, Беленькага, Голубева ды іншых дэпутатаў, і дадаў, што першае, што зробіць Пазняк, калі пераможа на прэзідэнцкіх выбарах, — гэта пазбавіць пасад чыноўнікаў, якія робяць гвалт над прэсай, над сродкамі масавай інфармацыі.

Ва ўладных колах Беларусі не заўважаюць, дакладней — спрабуюць ігнараваць тое, што змяніўся свет і змянілася Беларусь. Начальніцкае асяроддзе па-ранейшаму ва ўладзе калгасна-феадальных стэрэатыпаў. Яны мяркуюць, што самы лепшы аргумент у размове — грукнуць кулаком аб стол. Гэтак папростаму, па-«сямейнаму». Але ж Беларусь — у цэнтры Еўропы, і ўсё, што адбываецца ў нашай хаце, мае розгалас па ўсім свеце.

Пра гэта сведчыць і візіт на Беларусь Джорджа Сораса. Дарэчы, візіт стаў галаўным болем для сп. Кебіча. Спачатку прэм'ер-міністр нібыта дамовіўся аб сустрэчы з мільярдэрам і мецэнатам сп. Сорасам, потым перадумаў, потым зноў... Сустрэча так і не адбылася. А пасля, у часе аднаго са сваіх перадвыбарчых мітынгаў, Кебіч дазволіў сабе выказацца ад-

# НОВАЯ «КРЫНІЦА»

***Пад сярэдзіну года ў літаратурнай перыёдыцы Беларусі з'яўляецца адметнае выданне — культуралагічны часопіс. На базе вядомай «Крыніцы», якая перадае часопісу сваю назву і набывае новае жыццё ў новым абліччы і з новым зместам.***

Канцэпцыю часопіса будзе вызначаць модульны прынцып фармавання матэрыялаў, пры якім у цэнтр увагі ставіцца пэўная Постаць — гістарычная ці сучасная — літаратара, паэта, мысліцеля. Зыходзячы з гэтага, традыцыйныя жанравыя рубрыкі («проза», «паэзія», крытыка») змяняюцца на займеннікавыя («МЫ», «Я», «ЯНЫ», «ТЫ», «НАШ»), тым самым акцэнтуючы значнасць асобы, аўтара тэксту. Прычым постаці гістарычныя і постаці сучасныя будуць прачытвацца адначасова, як раўназначныя чыннікі культуры, складнікі беларускай і сусветнай культурнай традыцыі. Да прыкладу, у першым нумары часопіса пад рубрыкай «Я» выступае Кірыла Тураўскі, «ЁН» — гэта М. Бахцін і Ф. Рабле, «ЯНЫ» — С. Бэкет і С. Дагэрман, «НАШ» — Ю. Віцьбіч, «ТЫ» — Г. Булыка і так далей. Што да назапашанага змесціва наступных нумароў, то просты пералік імён (хай сабе і Ніцшэ, і Хайдэгер, і Камю, і Гесэ; Вярцінскі, Стральцоў, Мудроў, Купрэеў, Ластоўскі, Сматрыцкі...) наўрад ці пасобіць як след успрыняць матэрыю і драматургію новага выдання — раім яго чытаць.

Змена канцэпцыі запатрабавала ад галоўнага рэдактара «Крыніцы» Уладзіміра Някляева істотных арганізацыйных і структурных змен. Амаль цалкам змяніўся творчы склад рэдакцыі: намеснік галоўнага рэдактара — Алесь Разанаў, сурэдактары — Валянцін Акудовіч, Алесь Асташонак, Уладзімір Арлоў, Святлана Бартохава, Леанід Дранько-Майсюк, Юрась Залоска.

Былая «Крыніца» існавала не горш, а хутчэй лепш за іншыя перыядычныя выданні. Асобнае памяшканне ў цэнтры горада, вядомыя журналісцкія імёны (П. Якубовіч, Л. Екель, М. Кацюшэнка...), масавы тыраж, які ў лепшыя часы падымаўся да паўмільёна асобнікаў. Чым жа тады кіравалася рэдакцыя — і найперш галоўны рэдактар — у сваім знешне нелагічным радыкалізме?..

Адказ на гэта бадай найлепш прасвечваецца ў, так бы мовіць, павітальным слове Уладзіміра Някляева «Назваць і назвацца». ...Можна вагацца, добра яно ці не, але мы — вярбальная нацыя, нацыя Слова. Не названых нас няма. Цяпер, як раней у летапісах, пазней у «Нашай Ніве» і «Узвышшы», мусім назваць і назвацца. Менавіта ў відавочнай незапоўненасці нішы «ўзвышэнства» — задума ўзнаўлення часопіса. Гэтую задуму кожны ўзважваў паасобку — так акрэслілася кола людзей, што сталі на яе працаваць. Кола гэтае не замкнёнае. Торгала спакуса адрадзіць і саму назву, але там, за ёй — абарваныя галасы, недапісаныя рукапісы, незавершаныя лёсы... «Узвышша» належыць ім, няма чаго блытацца пад нагамі. Не рэхам лучыцца час.

У падмурку задумы новай «Крыніцы» — актуалізацыя спадчыны ў повязі з сённяшнім літаратурным жыццём, без чаго тэксты беларускай літаратуры ёсць і застануцца глуханямымі, неасэнсаванымі і незасвоенымі. Раскіданае павінна сабрацца, разрозненае — прыйсці ў сістэму. Тады і ўваскрэснуць **постаці**.

Кожнаму зразумела, што драматургія, проза, паэзія — гэта перш за ўсё тэксты. Аднак літаратура толькі тады не штосьці іншае, толькі ў тым выпадку мае сваё «аблічча і падабенства», калі ў ёй — і дзякуючы ёй — узнікаюць постаці. Тады ўзнікае нешта большае, чым сам тэкст, тады нават няўдачы і палосы маўчання постацяў для літаратуры істотныя. Сам жа тэкст — хай сабе нам невядома, хто яго творца, — істотны настолькі, наколькі ён постасны»... (Астатнюю частку тэксту гл. у N1 часопіса).

Варта таксама дадаць да гэтага словы Алеся Разанава: «З цягам часу задумы, якія вабілі і стымулявалі пошук, набываюць ахоўную абалонку-шкарлупіну. Яны здзейсніліся, яны ўвідавочніліся, але разам з гэтым замкнуліся на сваім варыянце адносін з рэчаіснасцю: час пайшоў наперад, а здзейсненае паўтарае свой варыянт.

І мабыць, самае простае і разумнае ў гэтых умовах не перабудоўваць здзейсненае, а пачаць як бы спачатку — так, як бы спачатку, штогод пачынаюцца і вясна, і лета.

Ставячы сябе ў новыя, «пачатковыя», умовы, вызначаючы новыя мэты і вызнаючы новыя прыярытэты, «Крыніца» нараджаецца другі раз. Шкарлупіны яшчэ няма, але яна, пэўна, будзе напрацоўвацца. Спадзяюся, яна акажацца не настолькі зацвярдзелай, каб не пачуць, калі прыйдзе на тое час, ціхага стуку знутры». («Шкарлупіна», таксама гл. N1).

**Юрась Л.**

**P. S.** Падпісны індэкс «Крыніцы» — 74824. Кошт падпіскі на тры месяцы — 15 тыс. рублёў, на адзін месяц — 5 тыс. рублёў. Наша парада: не прамініце магчымасці падпісацца на новы, «тоўсты» (прыкладны аб'ём — 14 аркушаў) — і, па ўсім відаць, адмысловы — часопіс з яго першага нумара.

**Ю. Л.**

---

носна сп. Сораса і ягонага візіту на Беларусь у абразлівым тоне. Маўляў, не трэба нам такія памочнікі і кансультанты, няма чаго ім тут рабіць, мы і самі разумныя. Цікаўнасць Захаду да Беларусі супярэчыць Кебічавай прамаскоўскай лініі, падводзіць беларусаў да думкі, што шлях на Усход — гэта не адзіна магчымы і далёка не самы лепшы шлях.

Дзякуючы палітыцы беларускага ўрада Фонд Сораса скараціў фінансаванне шэрагу праграм на Беларусі. Дж. Сорас умее лічыць грошы і таму не збіраецца даваць іх у кепскія рукі. Ён лічыць, што няма сэнсу кантактаваць з урадам, які збіраецца закрыць Беларусь ад свету, схаваць яе за маскоўскаю спіною. «Я не бачу сэнсу свайго ўдзелу ў нейкіх эканамічных праграмах у Беларусі. Замест таго, каб рабіць капіталаўкладанні ў планы, мы лічым за лепшае рабіць укладанні ў людзей», — сказаў амерыканскі госць.

1 ліпеня сталі вядомы імёны шасці кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Гэта — Пазняк, Шушкевіч, Кебіч, Лукашэнка, Дубко, Новікаў. Галасуючы за таго ці іншага кандыдата, мы таксама робім свайго роду ўкладанне капіталу. Маральнага капіталу, адкрываем крэдыт даверу. Асабіста я не давяраю таму, хто гандлюе Незалежнасцю краіны; хто кліча ў «светлае ўчора», дзе Курапаты і Чарнобыль; хто не заклікае да справядлівасці, але абуджае інстынкт помсты, абяцае (як калісь бальшавікі) усё забраць і падзяліць; хто, нарэшце, абражае Дзяржаўны герб і Дзяржаўны сцяг; хто збіраецца знішчыць праз «двуязычие» мову беларускага народа.

І яшчэ я ведаю: мой кандыдат пераможа, незалежна ад вынікаў выбараў. Бо 23 чэрвеня ўсё толькі пачынаецца...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

---

# ШТО ЧАКАЕ ПЕРШАГА ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ

***Пасля прыняцця новай Канстытуцыі ў Беларусі пачала раскручвацца перадвыбарчая машына. Пачалі заяўляць аб сабе як аб кандыдатах у прэзідэнты вядомыя палітычныя фігуры, паявіліся новыя імёны і новыя прэтэнзіі. Мяркуючы па наяўных матэрыялах, кандыдаты, іх каманды і выбаршчыкі не схільныя аддавацца развагам аб тым, з чым давядзецца мець справу будучаму прэзідэнту. Кандыдаты спяшаюцца ўступіць у бой, а выбаршчыкам іх мітуслівыя намаганні малацікавыя. Нам уяўляецца, што калі б кандыдаты задумаліся аб тым, што чакае іх наперадзе, іхні энтузіязм прыкметна б знізіўся. Паспрабуем намаляваць прыкладную карціну — не для таго, каб кагосьці напалохаць, а прапануючы паглядзець на свет цвярозымі вачыма.***

*Мне няма чаго прапанаваць вам, акрамя крыві, слёз, цяжкай працы і поту.*
*У. ЧЭРЧЫЛЬ.*

З такіх слоў пачынаў славуты брытанскі палітык сваю чарговую выбарчую кампанію. Прэтэндэнтам на прэзідэнцкі пост у Беларусі таксама няма чаго прапанаваць нацыі, акрамя поту, цяжкай працы і шокавай тэрапіі. Адзінае невыканальнае са «спісу Чэрчыля», што яны могуць паабяцаць — не дапусціць крыві. Справа не толькі ў тым, ці хопіць у каго-небудзь з кандыдатаў сумлення і смеласці заявіць такое свайму народу, але і ў тым, ці зможа народ прыняць гэтую заяву як адзіную сённяшнюю праўду. Можа здарыцца, што кандыдаты і выбаршчыкі захочуць узаемадзейнічаць у жанры «салодкіх казачак», узаемнага запабягання і лісліваcці.

Чэрчылямі не нараджаюцца. Але постаць лідэра нацыі павінна быць сувымернай з тымі гістарычнымі задачамі, што стаяць перад краінай. Да апошняга дня грамадская свядомасць у Беларусі аддавала перавагу страусавым адносінам да праблем і гістарычных задач: боязна? — хаваем галаву ў пясок, а раптам абыдзецца. Не абышлося. Усе былыя саюзныя рэспублікі выйшлі з СССР самі, а Беларусь аказалася «выкідашам» у суверэнітэт. Шушкевіч з Кебічам падпісалі Белавежскае пагадненне, каб удзельнічаць у стварэнні на руінах СССР новай агульнасці. Ужо паўсюль зразумелі, што СНД — мёртванароджанае дзіця, толькі ў Беларусі ўсё яшчэ наіўна на нешта спадзяюцца. Калі ўжо беларусы гэтак мараць жыць «у брацкай сям'і народаў», дык прапаноўвалі б новыя ідэі, праекты, як гэта робіць Казахстан і яго прэзідэнт. Але новых ідэй не прапаноўваецца, і вось чаму: ніхто не хоча новай «брацкай сям'і» — ні народ, ні наменклатура, ні сур'ёзныя палітыкі. Некалькі ар'ергардных груп, якія маюць голас і дапушчаны да СМІ, крычаць на ўсю краіну свае замшэлыя догмы, наменклатура цынічна робіць выгляд, што гэта і ёсць vox populi, несфармаваныя палітычныя партыі вяла змагаюцца з гэтымі «ветрыкамі», а самыя надзённыя задачы не рашаюцца і нават не ставяцца.

Пры інстытутах дзяржаўнага кіравання, якія нармальна функцыянуюць, і пры выразна акрэсленых перспектывах развіцця краіны задачы кіраўніка дзяржавы заключацца ў тым, каб проста «быць» ці «сядзець на троне», выяўляючы вышэйшы аўтарытэт і гарантуючы «рух па вызначаным курсе». Відавочна, што наша сітуацыя не такая. 23 чэрвеня прыйдзе не цар-прэзідэнт, а араты, перад якім непачаты край працы. Што б ні гаварыў кандыдат у прэзідэнты, што б ні абяцаў выбаршчыкам, задачы краіны паўстануць перад ім з фатальнай непазбежнасцю і аб'ектыўнай неабходнасцю. Яшчэ сёння кандыдат можа не бачыць і не разумець гэтых задач (калі ў яго інтэлектуальна слабая каманда), але, заступіўшы на пасаду, ён апынецца перад імі твар у твар. Задача аналітычнай групы і наогул інтэлектуалаў Беларусі заключаецца ў тым, каб даць выбаршчыкам магчымасць і сродкі параўнання патэнцыялу кандыдатаў у прэзідэнты па рашэнні задач, што стаяць перад краінай, прадставіць параўнаўчыя характарыстыкі кандыдатаў і іх каманд на палітычным экране.

Цяпер неабходна суаднесці між сабой змест трох мностваў: мноства задач; мноства крытэрыяў ацэнкі кандыдатаў у прэзідэнты і іх каманд; мноства кандыдатаў і іх каманд, што выйшлі на перадвыбарчую кампанію.

*Гэты артыкул быў надрукаваны ў «Белорусской деловой газете», N 18, якую, на жаль, пакуль мала чытаюць у творчых колах. А матэрыял, між тым, уяўляе несумненную цікавасць у часе выбарчай кампаніі.*

## МНОСТВА ЗАДАЧ

(Спіс адкрыты і можа быць дапоўнены і адкарэкціраваны іншымі аналітыкамі)

ДЭСАВЕТЫЗАЦЫЯ

СТВАРЭННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ГРАШОВАЙ СІСТЭМЫ

ДЭНАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ І ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

ДЭМІЛІТАРЫЗАЦЫЯ ГАСПАДАРКІ, ІДЭАЛОГІІ І СВЯДОМАСЦІ

АРГАНІЗАЦЫЯ І СТВАРЭННЕ ІНСТЫТУТАЎ ПРАВАВОГА ГРАМАДСТВА

СТРУКТУРНАЯ РЭАРГАНІЗАЦЫЯ ГАЛІН ГАСПАДАРКІ

ЗНЕШНЕПАЛІТЫЧНАЯ ДАКТРЫНА

КУЛЬТУРНА-ПАЛІТЫЧНАЯ ДАКТРЫНА

СТВАРЭННЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЙ ІНФРАСТРУКТУРЫ

БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ

## МНОСТВА КРЫТЭРЫЯЎ

(Спіс крытэраў можа быць зусім іншы, калі зыходзіць з іншых, чым у нас, рамак і грунтавацца на іншай метадалогіі і філасофіі; хай «іншыя зробяць лепш» — у гэтым заключаецца інтэлектуальная канкурэнцыя. Расплачвацца за інтэлектуальныя памылкі будзе будучы прэзідэнт і беларуская нацыя)

1. З якой дактрыны развіцця Беларусі зыходзяць кандыдаты ў прэзідэнты і іх каманды ў сваіх праграмах. Ці бачаць яны задачы, што стаяць перад краінай.

2. На колькі гадоў наперад кандыдаты ў прэзідэнты бачаць і вылічваюць сітуацыю. Якая часавая адзінка падліку.

3. Колькі абласцей і галін, якія падлягаюць дзяржкантролю, улічваюць кадыдаты ў прэзідэнты ў сваіх праграмах і колькі абласцей і галін выводзяць са сферы дзяржкантролю як «непад'ёмныя» для дзяржапарату.

4. Якія рэсурсы могуць мабілізаваць кандыдаты ў прэзідэнты для развіцця краіны.

4а. Крэдытаздольнасць у валютнафінансавай сферы;

4б. Інтэлектуальныя рэсурсы;

4в. Энергія і актыўнасць насельніцтва;

4г. Энергія і актыўнасць асобных сацыяльных пластоў і груп.

5. Якая здольнасць кандыдатаў у прэзідэнты і іх каманд уздзейнічаць на ідэалагічную сферу.

6. Міжнародны ўплыў. Якія значныя суб'екты сусветнай палітыкі здольныя задзейнічаць кандыдаты ў прэзідэнты.

7. Якія цвёрдасць і рашучасць кандыдатаў у прэзідэнты і іх каманд у рэалізацыі сваіх праграм і задумак.

8. Наколькі сучасныя ці архаічныя праграмы, якія прапаноўваюцца кандыдатамі ў прэзідэнты.

## МНОСТВА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ПЕРАДВЫБАРЧАЙ ГОНКІ

(на 23 красавіка 1994 г.)

Станіслаў ШУШКЕВІЧ (сацыял-дэмакраты, лібералы і ўмераныя нацыяналісты)

Зянон ПАЗНЯК (народны фронт, радыкальныя нацыяналісты, прагматыкі ў гаспадарчай сферы)

Генадзь КАРПЕНКА (цэнтрысты без палітычнай арыентацыі, прагматыкі, ніжкі эшалон наменклатуры ў рэгіёнах, дырэктарскі корпус)

Аляксандр ЛУКАШЭНКА (маючы шырокую падтрымку, не мае каманды з выразнай арыетанцыяй. Імя «папулізм» ні пра што не гаворыць)

Вечаслаў КЕБІЧ (апарат і наменклатура, прагматыкі з кампрадорскай буржуазіі)

Васіль НОВІКАЎ (камуністы, рускія нацыяналісты)

Спіс вымагае заўваг. Тое, што пазначана ў дужках, аніяк не можа характарызаваць падтрымку кандыдатаў насельніцтвам і асобнымі групамі. Мы ўказваем толькі тое, што можа разглядацца з пункту гледжання канцэптуальнага афармлення сродкаў вырашэння кандыдатамі і іх камандамі праблем і задач, якія стаяць перад краінай; тое, што з'яўляецца матэрыялам для аналізу іх магчымасцей і патэнцыялу. Альбо тое, што з'яўляецца аб'ектыўным у неакантыянскай версіі Gaistwisstnschaft.

Перш чым даць агульную параўнаўчую характарыстыку кандыдатаў і іх каманд, трошачкі шырэй раскрыем змест крытэрыяў ацэнкі і параўнання.

1. Першы крытэрый без істотнай страты зместу спрашчаецца да адказу на пытанне: Ці бачаць кандыдаты і іх каманды Беларусь як суверэнную дзяржаву, якая сама вырашае свае праблемы? Ці, наадварот, разглядаюць Беларусь як правінцыю не існуючай ужо імперыі?

Пытанне простае, але ў адказе на яго ёсць складанасці. Усе кандыдаты на словах за суверэнітэт (як з Новікавым? — незразумела) і не толькі на словах. Суверэнітэт для адных неабходны па перакананнях, для другіх ён проста выгадны, таму нават наменклатура Кебіча не адмовіцца ад суверэнітэту. Але ў наменклатурным варыянце суверэнітэт дазваляе нічога не рабіць самім, а толькі карыстацца яго выгодамі. Усе рашэнні ў такім выпадку ўсё роўна прымаюцца ў Маскве, як у часы СЭУ і ВД кіраўнікі краін Усходняй Еўропы ездзілі ў Маскву па інструкцыі. Па аналізе дзеянняў кандыдатаў на гэтае пытанне можна адказаць адназначна, але выбаршчыкі будуць меркаваць самі.

Па гэтым крытэрыі відавочныя ўвасабленні крайніх пазіцый: незалежнасць і калабарацыянізм, Зянон Пазняк і Вечаслаў Кебіч. Імкненне Кебіча да суверэнітэту настолькі шыта белымі ніткамі, што толькі ён сам можа ў яго верыць, ды і то толькі ў экстазе самападману. Толькі савецкі стэрэатып разгляду адносін паміж пасаднымі асобамі як бюракратычнай іерархіі (калі дэпутаты разглядаюцца як падначаленыя спікера парламента) не дазваляў бачыць ролю Кебіча ў супрацьстаянні Шушкевіча і ГКЧПісцкай большасці ў парламенце. Кебіч заўсёды прымаў бок мацнейшага. Ён марыянетка як ва ўнутранай палітыцы, так і ў знешняй.

Усе астатнія кандыдаты ў прэзідэнты размяркоўваюцца між полюсамі Пазняка і Кебіча. Пры гэтым пазіцыя Шушкевіча па гэтым крытэрыі амаль тоесная пазіцыі Пазняка, ён толькі больш асцярожны. Радыкальнейшага за Кебіча ў

*(Працяг на стар. 14-15)*

## «ДЕЛО» ВЕДАЕ... СПРАВУ

**Чацвёрты год выходзіць часопіс міжнароднага супрацоўніцтва «Дело (Восток + Запад)», заснавальнікам якога з'яўляецца выдавецтва «Беларусь». Зразумела, выданне гэтае спецыфічнае, у першую чаргу яго цікавяць пытанні эканамічнага плана ў самых розных іх аспектах. Тым не менш «Дело», ведаючы сваю справу, не абмінае і культуру, побыт беларусаў. Прынамсі, пра гэта сведчаць і нумары, што з'явіліся сёлета. У першым з іх, напрыклад, сталы аўтар «Дела» У. Арлоў выступае з нарысам «Дваранскія гнёзды», у якім расказвае, як жыла калісь беларуская шляхта. Дарэчы, гэты матэрыял апублікаваны пад традыцыйнай рубрыкай «Беларусы».**

**Яна прысутнічае і ў другім-трэцім нумары. Гэтым разам У. Арлоў знаёміць з вераваннямі нашых продкаў — «Ва ўладзе Перуна і Сварога». А вось у чацвёртым нумары У. Арлоў паведаў пра Сімяона Полацкага, які, як вядома, быў самым адукаваным з беларусаў у Маскве.**

## СПРАВАЗДАЧА «БЕЛАВЕЖЫ»

**У Доме літаратара ў Мінску на чарговай вечарыне справаздачу трымала літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Белавежа». Згаданая творчая суполка бярэ пачатак з 1958 года. Тады пры Беларускім грамадска-культурным таварыстве ў Польшчы аб'ядналіся аднадумцы, якія спрабавалі свае сілы ў літаратуры. Спачатку выходзілі калектыўныя зборнікі, потым — і аўтарскія. «Белавежцы» яшчэ ў 1973 годзе былі прадстаўлены «Мастацкай літаратурай». Іх кніга «Літаратурная Беласточчына», што даўно стала бібліяграфічнай рэдкасцю, упершыню так шырока прадставіла творцаў з Беласточчыны беларускаму чытачу.**

**І сённяшні дзень «Белавежы» — таксама не менш плённы. Пра тое, чым жывуць «белавежцы», расказаў на вечары Я. Максімюк. У. Гіламёдаў спыніўся на набытках беластоцкіх літаратараў. На вечары выступілі А. Гардзіцкі, А. Разанаў, С. Яновіч і іншыя.**

## КУПАЛА: СУЧАСНАЕ ПРАЧЫТАННЕ

**Адысці ад многіх колішніх ацэнак, зразумець Я. Купалу ва ўсёй глыбіні, шматзначнасці і складанасці яго таленту імкнецца Пятро Васючэнка ў кнізе «Драматычная спадчына Янкі Купалы», выпушчанай выдавецтвам «Навука і тэхніка». «Вопыт сучаснага прачытання» — за гэтым падзагалоўкам і жаданне адысці ад схем, створаных даўно, і гатоўнасць развіць тое лепшае, што ўжо назапашана купалазнаўцамі. П. Васючэнка дае сваё вытлумачэнне драматургічным творам Я. Купалы ў жанравых адносінах. Адпаведна ў кнізе з'явіліся асноўныя раздзелы: «Містэрыя («Адвечная песня»)», «Трагедыя («Сон на кургане»)», «Камедыя («Паўлінка», «Прымакі»)», «Драма («Раскіданае гняздо»)», «Трагікамедыя («Тутэйшыя»)».**

## «КРАЙ СМОЛЕНСКИЙ» ПРА БЕЛАРУСЬ

**Непасрэднае дачыненне да мінуўшчыны Беларусі мае шэраг публікацый, змешчаных у трох сшытках часопіса за другое паўгоддзе (NN7—8, NN9—10, NN11-12, 1993).**

**Хроніку гістарычных падзей на Смаленскай зямлі падае ў артыкуле «Смаленск і Вялікае княства Літоўскае ў XIII—XVI стагоддзях» Г. Ластоўскі (NN7—8). Тут жа А. Глазырына распавядае пра старадрукі Івана Фёдарава «Евангелле» і «Біблія», што пабачылі свет у 1580—1581 гадах у Астрозе, у маёнтку князя Канстанціна Астрожскага. Яшчэ адзін помнік старажытнасці, што звязаны з імем князя К. Астрожскага і захоўваецца ў Смаленскім музеі-запаведніку, падрабязна апісвае мастацтвазнаўца Д. Жураўлева ў артыкуле «Рукамый Астрожскага».**

**Супрацоўнік упраўлення Міністэрства бяспекі па Смаленскай вобласці Н. Ількевіч прысвячае артыкул «Максім Гарэцкі» 100-годдзю з дня нараджэння пісьменніка (NN9—10). Тут пратаколы допытаў М. Гарэцкага і сведкаў, лісты, заявы, іншыя архіўныя дакументы.**

**Пасля асады Смаленска ў 1654 годзе з ліку абаронцаў горада, перайшоўшых на бок маскоўскага войска, царом Аляксеем Міхайлавічам быў створаны асобны конны полк смаленскай шляхты. Пра яго лёс можна прачытаць у артыкуле А. Трафімава «Полк смаленскай шляхты» (NN11—12).**

**Міхась МАХНАЧ**
*г. Смаленск*

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ



ПРАКАПОВІЧ Ігар Міхайлавіч. Нарадзіўся ў 1960 годзе ў горадзе Паставы. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1985). Выкладае геаграфію ў пастаўскай СШ N 1.

Літаратурную працу пачаў у 1986 годзе.

Аўтар кнігі паэзіі «Рэха малітваў» (1993). Друкаваўся ў калектыўных зборніках «Дзень паэзіі», «Дзвіна», «Рунь», часопісах «Маладосць», «Роднае слова», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».

ПРАКОПЧЫК Леанід Цімафеевіч. Нарадзіўся ў 1933 годзе ў Мінску. Скончыў сельскагаспадарчую акадэмію імя Ціміразева ў Маскве (1958).

Літаратурную працу пачаў у 1958 годзе.

Аўтар кніг нарысаў «Даўгінаўскія вёрсты» (1977), «Ёсць у сэрцы запаветны куточак» (1979), «В краю Налибокской пущи» (1979), «Адкуль у вёскі імя» (1981) і іншых. Напісаў п'есы і кінасцэнарыі «Князь Наваградскі», «Крэўская вязніца», «Круіз на кані», «Навагрудак чытае Міцкевіча», «Налібоцкія пчаляры», «Беларускія ратушы».

САУЛІЧ Уладзімір Уладзіміравіч. Нарадзіўся ў 1951 годзе ў вёсцы Мацясы Глыбоцкага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1973).

Літаратурную працу пачаў у 1968 годзе.

Аўтар п'есы «Халімон камандуе парадам» (1986), «Адзін Гаўрыла ў Полацку» (1990), «Сабака з залатым зубам» (1992). Выйшла кніга «Халімон камандуе парадам» (1994).

ТРАФІМЧУК Мікола Мікалаевіч. Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Осаўцы Драгічынскага раёна. Скончыў Брэсцкі педагагічны інстытут (1975). Працуе ў рэдакцыі газеты «Наша доля».

Літаратурную працу пачаў у 1970 годзе.

Аўтар кніг паэзіі «Трыванне» (1990), «Фэст» (1994), друкаваўся ў калектыўных зборніках «Нашчадкі», «Дзень паэзіі», часопісах «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».

ХАТЭНКА Антаніна Яўгенаўна. Нарадзілася ў 1956 годзе ў вёсцы Зенькаўцы Зэльвенскага раёна. Скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт (1978). Старшы эксперт па фальклоры Беларускага фонду культуры.

Літаратурную працу пачала ў 1978 годзе.

Аўтар кнігі паэзіі ў прозе «Зніч крыжовых дарог» (1992), паэмы «Здзічэлае рэха вясны», цыкла нарысаў «Чалавек на далоні Сусвету».

ЧОБАТ Алесь Фёдаравіч. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў горадзе Скідзелі. Скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут (1981). Рэпарцёр газеты «Гродненская неделя».

Літаратурную працу пачаў у 1990 годзе.

Аўтар кніг паэзіі «Год» (1992), «Крэсавякі» (разам з Д. Бічэль-Загнетавай, 1993). З вершамі, нарысамі, эсэ выступаў у газетах «Ніва», «Свабода», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».

Пошта

# У ПАЛОНЕ САФІСТЫКІ

***27 красавіка ў «Народнай газеце» быў апублікаваны матэрыял пад загалоўкам «Вы не правы!» за подпісам Валянціна Сарокіна, нардэп РБ. Можа, і не варта было б звяртаць увагу на гэтую публікацыю, калі б ад яе не патыхала антыадраджэнскім духам і антыбеларушчынай.***

Генерал Сарокін беспадстаўна абрынуўся на Ніла Гілевіча, на ягоны артыкул «Найвялікшае злачынства — сеяць варажнечу паміж народамі», апублікаваны ў той жа «Народнай газеце» раней і з кар'еру, па-вайсковаму, кідаецца ў наступ на свайго калегу, сарданічна заяўляючы, што яго артыкул «...воспринимается мною, как открытое лицемерие». Прааналізаваўшы матэрыял «товарища» Сарокіна, варта паставіць контрпытанне: а ці не з'яўляецца ягоная публікацыя яўным крывадушшам?

Абвінавачыўшы Гілевіча і міністра Гайсёнка ў садзейнічанні міфічнай прапагандзе «антырускіх настрояў», Сарокін рынуўся тармашыць публікацыі У. Арлова на старонках часопіса «Пралеска» і абвінавачваць таго ў... «нацыянал-шавінізме»»: «Эти публикации вовсе не досадный случай, не бред одинокого историка с агрессивно-националистическим уклоном сознания. Это лишь одно из проявлений сознательно формируемой системы пропаганды крайне националистической идеологии, откровенно направленной на воспитание у детей вполне определенных представлений о зловещей роли России в истории нашей земли...» Бачыце, які стыль, дастойны часоў сталіншчыны! Калі б быў у жывых «шэры кардынал», абавязкова прадставіў бы аўтара публікацыі да ўзнагароды сталінскай прэміяй.

Праўда, Сарокіна можна зразумець па-чалавечы: выхаваны на засушаных догмах бальшавіцкай ідэалогіі ў духу «савецкага патрыятызму» і нянавісці да «нацдэмаўшчыны», ён не ў стане пазбавіцца ад міфічных напластаванняў і паталагічна не ўспрымае праўды аб гістарычных падзеях мінулага, якую адкрылі беларускаму народу сумленныя гісторыкі-навукоўцы, назваўшы заваёву — заваёвай, зло — злом, ісціну — ісцінай. Нельга атаясамляць паняцце «рускі народ» з паняццем вялікадзяржаўных валадароў Расіі, «собирателей русских земель», расійскіх цароў і крамлёўскіх бальшавіцкіх валадароў. Ад гэтага «собирания», у час якога тварыліся злачынствы расійскіх заваёўнікаў, рускі народ не меў ніякай карысці, не адчуваў свабоды, бо, як пісаў рускі філосаф Бярдзяеў, «свабода рускага народа знаходзіцца ў адваротна прапарцыянальнай залежнасці ад расшырэння тэрыторыі Расійскай імперыі і пашырэння яе ўплыву».

Беларускія прагрэсіўныя гісторыкі абапіраюцца ў сваіх навуковых працах на канкрэтныя гістарычныя факты, пачэрпнутыя з гістарычных летапісаў, розных хронік і іншых дакументаў старажытнасці, а не на высмактаныя з пальца міфы, як гэта рабілі фальсіфікатары «Гісторыі БССР» ва ўгоду сваім крамлёўскім бальшавіцкім самадзержцам. Сумленныя навукоўцы ў сваіх працах прытрымліваюцца парады Дэкарта: «Трэба давяраць фактам толькі дасканала выверaным, у якіх немагчыма памыліцца». Нельга не заўважыць засушанага нігілізму і «савецкага патрыятызму» ў поглядах Сарокіна на «Геаграфію Беларусі» Аркадзя Смоліча, якая ў свой час лічылася лепшай у Заходняй Еўропе. Генерал Сарокін, дзякуючы сваёй «патрыятычнай пільнасці», «адшукаў» у падручніку «нацдэмаўскую крамолу»: «На картах, помещенных в этой книге, в территорию не существующей тогда Белоруссии как государства (дзіўнае «адкрыццё» заскарузлага нігіліста!) включены: Смоленск, Брянск, Новозыбков, Дорогобуш, Невель, Себеж і другие русские города». Тут я мушу расчараваць «товарища» Сарокіна: геаграфічна-этнаграфічныя карты не складаў «нацдэм» Смоліч, а вядомы рускі вучоны, гісторык, этнограф, філолаг Яўхім Карскі і іншыя рускія этнографы, якія верна служылі Расійскай імперыі. Аднак, будучы сумленнымі навукоўцамі, прытрымліваліся ідэальнага правіла ў навуцы: Ісціна і Праўда засноўваюцца на дасканала выверaных фактах, а не на міфах, домыслах.

«Анатаміраванне» «Геаграфіі Беларусі» Аркадзя Смоліча, як і «100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі», штучнае выпукленне нейкага «адзінага кораня» ў паходжанні рускіх, беларусаў і ўкраінцаў выкрывае толькі дылетанцтва аўтара публікацыі, ягоныя сапраўдныя мроі аб «великом могучем государстве российском», у якім Беларусь зойме «подобающее» ёй месца правінцыі. Гэта факт, якога не абвергнеш нават пры дапамозе сафістыкі і казуістыкі.

Зусім заблытаўся «товарищ» Сарокін у гістарычных працэсах, што адбываліся на Беларусі пасля кастрычніцкага перавароту, і метадам падтасоўкі фактаў, дэзінфармацыі і маны, дасканала адшліфаваных бальшавіцкімі ідэолагамі, намагаецца «даказаць», што толькі бальшавікі «па-бацькоўску клапаціліся» аб дзяржаўнасці Беларусі, уваскрашэнні беларускай нацыі. Вось пастулат Сарокіна: «... Территория Белоруссии в момент ее образования (1 января 1919 года) ненамного превышала территорию нынешней Минской области. Национал-»демократы» забыли о том, что Россия добровольно передала в состав Белоруси значительные территории». Не, не забыліся пра тую колішнюю валтузню ці гульню з «добраахвотным падарункам». Гэта быў крок хітра прадуманай палітыкі бальшавіцкага кіраўніцтва. Той «падарунак» быў ні што іншае, як «дары данайцаў», бо ўжо тады ў глыбокай сакрэтнасці ў нетрах бальшавіцкіх кабінетаў распрацоўваўся злавесны план асіміляцыі беларускай нацыі, што выявілася ў практычным ажыццяўленні славутай тэорыі «зліцця нацый і іх моў».

Дэзінфармацыяй і яўнай маной вее ад наступных разважанняў генерала Сарокіна: «Не является ли насильственная сплошная белорусизация грубейшим нарушением прав человека — детей и их родителей, которых лишили прав свободного выбора языка обучения». Тут яўная мана адносна праўдзівасці тэксту дакумента, на які спасылаецца аўтар публікацыі. Ва «Усесаюзнай Дэкларацыі правоў чалавека» ў 26 артыкуле, пункт 3 запісана: «Бацькі маюць права прыярытэту ў выбары віду (падкрэслена мною. — **В. С.**) адукацыі». Калі нардэп Сарокін разумее паняцці «від» і «мова» як адэкватныя, то хай даруе мне за недасведчанасць у лінгвістыцы.

Зусім неінтэлігентна і непрыстойна з боку генерала Сарокіна папракаць Н. Гілевіча ў ягонай мінулай літаратурнай дзейнасці: «... Нил Гилевич в то время писал стишки («інтэлігентнае» слоўца?! — **В. С.**), в которых прославлял партию и ее вождей. Был доволен и ни на что не жаловался, скорее — наоборот». Цікава было б ведаць, каго ў той час праслаўляў сам генерал Сарокін? Ці не тую ж самую партыю і тых самых «вождей»? У сваёй кароценькай «споведзі» адносна былога Ніл Гілевіч сказаў шчыра: «Мне кажуць: я выракся кагосьці. Каго? Фальшывых ідалаў-святош, якім паверыў некалі? Ну, што ж, хай Бог даруе хібы маладосці». А вось штосьці наконт шчырай споведзі самога «товарища» Сарокіна адносна былога мы не чулі. Па ягоных прамовах у Вярхоўным Савеце і практычных дзеяннях можна зрабіць вывад радкамі калісьці папулярнай песенькі з лакіраванага кінафільма: «Каким ты был, таким ты и остался»...

Што датычыць ліквідацыі беларускамоўных школ на Беларусі, то «товарищ» Сарокін прыкідваецца такім наіўным, такім «нязнайкам», што дзіву даешся. Толькі паслухайце: «Но согласитесь, что в то время, когда не было школ белорусских, не было и русских. Была просто школа среднеобразовательная». Вось так, браткі-беларусы! А вы скардзіцеся, што не было школ з беларускай мовай навучання.

«Товарищ» Сарокін паталагічна ненавідзіць дэмакратычныя партыі і плыні, асабліва БНФ. У сваіх домыслах пры дапамозе хваравітых уяўленняў, не грэбуючы дыфамацыяй, генерал Сарокін спрабуе прыклеіць нацыянальна свядомым беларусам і кіраўнікам адраджэнскага руху ярлык міфічных «здраднікаў». Вось ягоная выснова: «... чьи же интересы защищает БНФ — своего народа или интересы заокеанских «доброжелателей»?» Адказ можа быць толькі адзін: БНФ, іншыя нацыянал-дэмакратычныя партыі і грамадскія плыні абараняюць толькі сваю нацыянальную годнасць, свой суверэнітэт, сваю будучыню. Што датычыць заакіянскіх «доброжелателей», то ў іх няма ніякіх «нацыянальных інтарэсаў» на Беларусі, яны не ўводзяць «адзінай рублёвай зоны», «адзінай эканамічнай прасторы», у іх няма скрытай задумы асіміляваць беларускую нацыю, далучыць РБ да Штатаў у якасці правінцыі «Паўночна-Заходні край», пазбавіць беларускі народ ягонай гістарычнай спадчыны, нацыянальнай культуры, навязваючы беларускаму народу сваю «Барыню».

І ўсё ж, усё ж, нягледзячы на патугі сарокіных, чыкіных, гайдукевічаў, розных «союзов», нельга загамаваць рух за нацыянальнае адраджэнне, ручаінкі якога зліваюцца ў адзіны магутны паток. Яго не перакрыць ніякімі «дамбамі» рэтраградаў. Надыдзе час, і Беларусь цалкам вызваліцца з абдымкаў чужакоў і стане такой, аб якой марыў, за якую змагаўся і загінуў нястомны змагар і ахвярнік Кастусь Каліноўскі. Ягоныя заклікі да беларускага народа ў пісьмах «З-пад шыбеніцы» жывуць у сэрцах свядомых беларусаў, клічуць на змаганне за сваю волю і долю...

**Васіль СОКАЛ**

Дарагія мае землякі — супрацоўнікі «ЛіМа», дабрыдзень! Калі ў першай палове 92-га года я мог чытаць «ЛіМ» на Урале, дык зараз нават не ведаю, ці жыве гэтае выданне. Калі б не верыў, то не пісаў бы вам. А пішу з надзеяй, што «ЛіМ» застаўся такім жа праўдзівым выданнем, якім і быў два гады назад, і дапаможа мне вярнуцца на радзіму. Роўна два гады назад я спакаваў у скрыні рэчы (адзенне, кнігі, посуд, рыштунак і г.д.), ледзь было не пагрузіў у «КамАЗ», але разумныя людзі параілі пачакаць. У ліпені 92-га года з'ездзіў у родную вёску (Клімавіцкі раён Магілёўскай вобласці) і пераканаўся, што мне там пакуль што не выжыць. Як не было волі для вясковага жыхара, так яе і зараз яшчэ няма. Як пісала Ларыса Геніюш, свабода — не тое, што «Свабодная ты!» скажуць, свабода — калі я свабоду адчую. Тут, на Урале, я свабоду не толькі адчуў, яна штодня ўва мне і вакол мяне. Маючы невялікую ферму за 30 кіламетраў ад Чэлябінска, дзе пішу гэты ліст, я жыву па сваіх правілах, я вольны ад дзяржавы, і дзяржаўная ўлада больш не вызначае мой лёс. Я сам сабе гаспадар. Аб тым, як я працую, можна прачытаць у часопісе «Новый фермер» (N1, 1994, стар. 6). Гэты вельмі карысны часопіс у Беларусь прыходзіць. Мая свабода ў тым, што летам я ўкалваю з саменькай раніцы да вечара без выхадных, а зімой мне не трэба ўладкоўвацца куды-небудзь на працу, як было раней, у мяне ёсць права купіць любую кнігу, выпісаць любы часопіс, ездзіць куды захачу і калі захачу. Мне не патрэбен блат, каб штосьці купіць. У продажы ёсць усё. Я плачу дзяржаве падатак і на гэтым нашы адносіны канчаюцца. Дзяржава больш мне не ўказчык, як раней было. Я магу планаваць любую пакупку, любую паездку (нават за мяжу), толькі былі б грошы. І пры жаданні іх можна зарабіць, вырошчваць грошы на зямлі.

Канкрэтны прыклад. У сярэдзіне лета мне трэба злятаць у Беларусь (на «разведку»), на гэта мне спатрэбіцца мінімум 0,5 мільёна рублёў. І гэтую суму я зараблю на шматку зямлі памерам 10x10 метраў. Ведаючы, што ў канцы чэрвеня маладая бульба будзе па цане не меней чым па 3 тысячы рублёў за кіло, мне трэба вырасціць к таму часу 200 кілаграмаў клубняў. Гэта прыкладна трэба пасадзіць не больш чым 500 кустоў. І хоць раніцай 4 красавіка на двары было -18 градусаў, 16 красавіка -4 градусы, а сёння, 19 красавіка, -2, бульбачка ў мяне вось-вось зацвіце. У мяне няма і думкі спасылацца на «неспрыяльныя ўмовы надвор'я», як гэта рабілася пры камуністычнай уладзе, я паставіў перад сабой мэту і пры любым надвор'і павінен яе ажыццявіць. Але на сваёй роднай зямлі ў Беларусі я яшчэ не магу так працаваць.

Упэўнены, што рэанімацыя беларускай нацыі можа пачацца толькі з вёскі, але пры ўмове, што там будзе воля. Ды пакуль што ў Беларусі захоўваецца таталітарны рэжым, які абапіраецца на камуністычную ідэалогію. І вельмі шкада, што просты народ (мяркую па лістах родных з Клімавіч) усё яшчэ ўздыхае па былым «парадку» на чале з парткамамі, райкамамі і ЦК. Нават С. Шушкевіч не ведаў, супраць чаго трэба змагацца. Ягонае інтэрв'ю ў «Дружбе народаў» (N2, стар. 128—139) здзіўляе сваёй аморфнасцю, адсутнасцю яснай думкі, каб яна была простай і зразумелай усяму народу. Хіба ў Аўстрыі, Швецыі ці ў Ізраілі людзі думаюць, пры якім ладзе яны жывуць — ці сацыялізм у іх, ці народны капіталізм, як С. Шушкевіч вызначыў беларускі шлях, затое там нават дзіця ведае, што яно жыве ў свабоднай краіне.

Стаць свабоднай дзяржавай — вось шлях Беларусі. А для гэтага трэба пакончыць з усімі формамі і відамі таталітарнага рэжыму. Вельмі цяжкая задача, але ажыццявімая. Для гэтага трэба штодзённа распавядаць у сродках масавай інфармацыі, што фашызм і камунізм — блізкія сваякі, што іх навуковай базай служыць аднолькавая філасофская канцэпцыя, якая сцвярджае, што можна пабудаваць такое грамадства, дзе нейкая частка людзей стане шчаслівай за кошт знішчэння нейкай другой часткі. І трэба распавядаць так, каб нават звычайны селянін разумеў гэта і ведаў прычыну сваёй беднасці. Праўда, пры фашысцкай уладзе германскі селянін жыў на некалькі парадкаў багацей, чым калгаснік, якому абяцана было шчасце праз класавую барацьбу, а немцу — праз расавую. Вось і ўся розніца.

Лічу, што палітычная асвета павінна быць самай галоўнай тэмай усіх сумленных журналістаў і пісьменнікаў. І пераканаўча прашу «ЛіМ» перакласці на беларускую мову і апублікаваць артыкул Германа Андрэева «Не блізняты, але — браты» з часопіса «Новый мир» (N4 за сёлетні год). Пра аўтара гэтага артыкула можна прачытаць у «Новом мире» (N2, 1994, стар. 144). Ён эміграваў з СССР у 1975 годзе. Па прафесіі настаўнік рускай мовы і літаратуры, быў намеснікам дырэктара маскоўскай школы N2, зачыненай гаркамам партыі. У Германіі выкладае ўва універсітэце Майнца (прайшоў па конкурсе). Надрукаваў шмат артыкулаў, кніг, заснаваў у Германіі Рускі вольны універсітэт імя Сахарава, часта друкуецца ў расійскіх часопісах.

Прашу зрабіць гэты перадрук з «Нового мира» па той прычыне, што зараз часопіс паступае ў Беларусь у вельмі абмежаванай колькасці і масаваму чытачу проста недаступны.

Мае вам самыя лепшыя пажаданні. Можна быць шчаслівым ад адной толькі думкі, што на нашых вачах рухнула гэтае страшыдла — СССР. Я веру ў Беларусь, скрыні з набыткам стаяць нераспакаваныя, мышы там пасяліліся, паедуць разам са мной у Беларусь.

**Былы член Саюза журналістаў СССР**
**Рыгор ЛЯВОНЦЬЕЎ,**
**фермер.**

# НЕ БЛІЗНЯТЫ, АЛЕ — БРАТЫ

## СПРЭЧКІ НЯМЕЦКІХ ГІСТОРЫКАЎ АБ НАЦЫЗМЕ І КАМУНІЗМЕ

***Мы вырашылі адгукнуцца на просьбу земляка і ўслед за ягоным лістом прапануем увазе чытачоў «ЛіМа» пераклад артыкула Г. Андрэева.***

Гісторыя — навука, якая наўрад ці павінна прэтэндаваць на канчатковыя, што не падлягаюць перагляду, адказы. Тое, што сёння здаецца неабвержаным, заўтра выяўляецца як свядомая («партыйнасць») ці несвядомая, абумоўленая непрафесіяналізмам, фальсіфікацыя. Але нярэдка бывае і так, што заўтра і не надыходзіць, а ўжо гісторыкі пра адну і тую ж з'яву, што адбылася не ў нейкія далёкія часіны, а пры жыцці гэтых самых гісторыкаў, мяркуюць зусім па-рознаму. Пры гэтым апаненты часта перакананы, што другі бок ці невукі, ці партыйны, ці падкуплены. Аўстрыйскі ж культуролаг Эган Фрыдэль, які наклаў на сябе рукі, калі фашысты ўвайшлі ў Вену, аніякага крыміналу ў разначытаннях гістарычных пісьмёнаў не бачыў: гісторыя, сцвярджаў ён, навука суб'ектыўная, і ў гэтым яе вабнасць. Аб'ектыўным гісторыкам, дададзім мы, мог бы быць толькі Бог, але ён дручыў пісаць гісторыю людзям. Крыху зменьваючы словы Пушкіна, можна сказаць: «Сачыць за думкамі разумнага гісторыка і яго апанентаў — занятак надзвычай захапляючы».

Асаблівая цікавасць да тых ці іншых гістарычных канцэпцый успыхвае тады, калі гісторыя раптам, нібыта і зусім нечакана, вяртаецца і робіцца сучаснасцю, прытым не ў выглядзе якіх-небудзь алюзій на сцэне Тэатра на Таганцы ў так званы застойны час, а ледзь ці не літаральна: у падвалах Белага дома маршыруюць ударныя групы рускіх нацыстаў, на Краснай плошчы ветэраны камунізму падымаюць чырвоныя сцягі і партрэты правадыра, на размаляваных свастыкамі сценах дамоў Масквы, яшчэ нядаўна сталіцы міжнароднага камуністычнага руху, можна прачытаць: «Бі жыдоў!», каля Музея Леніна прадаюць «Майн кампф», нямецкі «Шцюрмер» прадаецца пад назвай «Пульс Тушына», пясняр камуністычных экспансій заяўляе з экрана маскоўскага тэлевізара, што Расію можа ўратаваць толькі фашызм, на вуліцах усходнегерманскіх гарадоў нядаўнія піянеры і камсамольцы крычаць: «Германія немцам!»

У гэтых фантасмагарычных умовах зноў звяртаешся да так званай спрэчкі гісторыкаў, якая то ўспыхвае, то тлее на старонках нямецкіх навуковых і папулярных часопісаў. Сёлета споўнілася семдзесят гадоў Эрнсту Нольтэ, з-за прац якога і разгарэўся ўвесь сыр-бор: у сваіх шматлікіх даследаваннях аб камунізме і нацызме Э. Нольтэ даказвае, што гэтыя дзве палітычныя плыні (па сутнасці) аднолькавыя і адрозніваюцца толькі ў нюансах.

Спрэчка вакол прац Эрнста Нольтэ выклікана не толькі інтэрпрэтацыяй у іх навуковых фактаў, а перш за ўсё — яго метадалогіяй.

Не цытуючы пушкінскага Пімена, з маналогам якога з «Барыса Гадунова» нямецкі вучоны наўрад ці знаёмы, Нольтэ запэўнівае чытачоў, што ён «добру и злу внимает равнодушно, не ведая ни зависти, ни гнева». Ён называе сябе Geschichtsdenker (што ў вольным перакладзе з нямецкай азначае «чалавека, які думае, разважае над гісторыяй»), а свой метад — фенаменалагічным. Сутнасць гэтага метаду — у разглядзе даследуемага гістарычнага аб'екта, у канкрэтным выпадку — нацызму, знутры: не ўсвядоміўшы суб'ектыўных намераў нацыстаў, немагчыма, сцвярджае Эрнст Нольтэ, зразумець феномен нацыянал-сацыялізму.

Нольтэ схільны параўноўваць працэс гістарычнага даследавання з судовым разбіральніцтвам. А як вядома, дэмакратычны суд імкнецца знайсці ў дзеяннях злачынцы і змякчальныя абставіны. Свой фенаменалагічны метад Нольтэ прадэманстраваў у мностве кніг аб гісторыі, тэорыі і практыцы нацыянал-сацыялістаў: «Фашызм і яго эпоха», «Мінулае, якое не хоча адыходзіць», «Фашысцкія рухі», «Еўрапейская грамадзянская вайна» і ў іншых.

Нольтэ кожны раз літаральна ашаломлены тым шквалам абвінавачванняў, падчас нават у непарламенцкіх формах, які абрыньваецца на яго пасля выхаду кожнай з гэтых кніг. Менавіта аб'ектыўнасці, якую, як верыў Нольтэ, забяспечвае яго фенаменалагічны метад, і не знаходзілі ў ягоных працах калегі-гісторыкі: адзін з іх яшчэ ў 1963 годзе закляйміў яго ганебнай для Германіі мянушкай «абаронца фашызму». Нольтэ з тае пары ніяк не можа адмыцца. Ён упарта паўтарае: я не абаронца і не абвінаваўца фашызму, я хачу яго зразумець, а абвінаваўчая гісторыя — гэта варыянт бальшавіцкіх і нацысцкіх паказальных працэсаў; я ж хачу дэмакратычнага суда над нацызмам. «Ага! — абурана ўсклікае гісторык Аўгуст Вінклер у рэцэнзіі на кнігу Эрнста Нольтэ «Еўрапейская грамадзянская вайна», — Нольтэ хоча справядлівасці для Гітлера». Прыхільнікі Нольтэ, а яны ў меншасці сярод нямецкіх гісторыкаў, называюць пазіцыю Вінклера абывацельскай: гэта натоўп на судзе над страшным злачынцам лямантуе: «Якія там адвакаты, чаго з ім цацкацца — расстраляць ды ўсё!»

Думаецца, што фенаменалагічны метад учыніў з Эрнстам Нольтэ злы жарт. Адразу зазначым, што Нольтэ да нацызму і камунізму адносіцца з натуральнай агідай еўрапейца-гуманіста. У лісце ў ліберальную газету «Цайт» ён сказаў пра гэта з дастатковай пэўнасцю. Але будучы тыповым заходнім вучоным, Эрнст Нольтэ, як чорт крыжа, баіцца таго, што завецца тут ангажаванасцю, палымянай абаронай свайго светаўспрымання. Для заходніх вучоных непарушна максіма Спінозы: «Non ridere, non lugere, negue detestari, sed intellegere» («Не смяяцца, не сумаваць, не праклінаць, а толькі разумець»). Варта заўважыць, што гэтая боязь перад адкрытым выказваннем сваёй пазіцыі выявілася і ў часткі расійскай інтэлігенцыі, абуранай непадробнай радасцю, якую выказалі пераможцы нацыянал-бальшавіцкага мяцяжу пасля 4 кастрычніка. Увогуле, кожны гісторык, кожны філосаф стаіць перад выбарам паміж Бенедыктам Спінозам і рускім філосафам Львом Шастовым, які не верыў у магчымасць захоўваць спакой і абыякавасць пры даследаванні чалавечых трагедый і не вельмі давяраў інтэлектуальнай сумленнасці «аб'ектывістаў». І калі Аляксандр Няўзораў спяшаецца падзяліцца вычытаным з газеты фактам, вядома ж, дзеля аб'ектыўнасці, што Гітлер мог насвістаць па памяці ўсе оперы Вагнера, наўрад ці хто ўсумніцца ў тайных сімпатыях прапагандыста «нашых» да аднаго з самых страшных злачынцаў у гісторыі чалавецтва. Больш карэктнай была ўсё ж «ангажаваная» ацэнка, якую незадоўга да свайго пакарання даў гітлерызму адпеты бандыт, адзін з кіраўнікоў фашысцкай хеўры Ганс Франк: «І праз тысячу гадоў не забудуцца гэтыя злачынствы немцаў», — і не дадаў пры гэтым, што Гітлер любіў кветкі і сабак, баючыся, напэўна, што Гасподзь будзе яго правяраць не на аб'ектыўнасць, а на вернасць хрысціянскім запаведзям.

Неангажаваны, фенаменалагічны метад Эрнста Нольтэ не пераканаў вельмі многіх чытачоў ягоных кніг. Пры гэтым рэдка падвяргаецца сумненням кампетэнтнасць Нольтэ як гісторыка надзвычай дасведчанага. Сумненні выклікаюць яго асноўныя тэзісы. Усе свае намаганні па збіранні гістарычных фактаў Нольтэ скіроўвае на падтрыманне двух сваіх галоўных пастулатаў. Першы: нацызм — гэта рэакцыя на рускі бальшавізм. Другі: нацызм і бальшавізм — з'явы аднаго парадку, а злачынствы нацызму зусім не унікальныя, на сумленні бальшавікоў ахвяр не меней.

Калегі-гісторыкі не прыйшлі ў захапленне ад адкрыццяў Нольтэ. Амаль усе яны адкінулі ягоны першы тэзіс і толькі з вялікімі агаворкамі прынялі другі.

Палеміка вакол тэорый Эрнста Нольтэ праходзіла зусім не ў духу запавету Спінозы, часам яна больш нагадвала (у артыкулах левых гісторыкаў) стыль савецкіх ідэалагічных кампаній. Так, Юрген Габермас аб'явіў тэзісы Нольтэ «палітычна небяспечнымі». (Вядома ж, ён не чытаў артыкул Бярдзяева ў «Вехах», дзе той абвінавачваў **рускую** інтэлігенцыю ў тым, што яна шукае не ісціну, а палітычную карысць).

Больш стрымана гучыць крытыка з боку Вольфганга Мамзена, унука вялікага нямецкага гісторыка. Мамзен папракае Нольтэ ў тым, што той ігнаруе сацыяльныя прадпасылкі нацызму, створаныя канкрэтнымі абставінамі Веймарскай рэспублікі («нельга выводзіць нямецкі нацызм з гісторыі развіцця другой краіны — Расіі»).

Усё ж у таго, хто чытаў адносна раннюю працу Нольтэ «Фашысцкія рухі», не ўзнікае ўражання, што гісторык ігнаруе мясцовыя нацыянальныя прадпасылкі нацыяналістычных рухаў.

Аспрэчваючы тыя ці іншыя сапраўды сумніцельныя сцвярджэнні Эрнста Нольтэ, пасобныя яго апаненты высоўваюць меркаванні настолькі ж арыгінальныя, наколькі і амаральныя. Так, рэдактар леваліберальнага часопіса «Шпігель», адзін з самых папулярных журналістаў Германіі Аўгштэйн, даказваючы, што злачынствы нямецкіх нацыстаў былі унікальнымі, якія не маюць аналагаў ні ў сучасным свеце, ні ў гісторыі, аддае перавагу сталінскім злачынствам, якія, маўляў, былі «рэалістычнымі» ў адрозненне ад гітлераўскага вар'яцтва. Толькі той, хто знаёмы з імаралізмам заходніх інтэлектуалаў, разумее, што мае на ўвазе Аўгштэйн, называючы сталінскія злачынствы «рэалістычнымі»: яны спрыялі развіццю прагрэсу, руху ад жахлівага капіталізму да светлых вяршынь самага справядлівага камуністычнага грамадства. Наогул, левыя крытыкі Нольтэ выразаў не выбіраюць (тым расійскім публіцыстам, якія любяць азірацца на «ўзорны Захад», было б цікава прачытаць у досыць рэспектабельнай нямецкай газеце «Цайт» артыкул гісторыка Іекеля супраць Нольтэ «Вартая жалю тактыка фальсіфікатара»).

Але якімі б ні былі несправядлівымі асобныя наскокі калег на Эрнста Нольтэ, цяжка не прызнаць, што ён сам даў падставы для такога роду крытыкі.

Слабое месца Нольтэ — гэта логіка. Ён пагарджае папярэджаннем Арыстоцеля: «post hok» — гэта не заўсёды «propter hoc».

Да таго ж не ўсё падобнае — вынік перайманія. Яшчэ Арэст Міллер, буйнейшы рускі фальклярыст, заўважыў, што ў літаратурах розных народаў, якія нават не судакраналіся між сабою, узнікалі падобныя з'явы, натуральна, не ў выніку пераймання, а па прычыне падобнасці сацыяльных сітуацый і якіхсьці псіхалагічных рэакцый, агульных у самых розных народаў. Міллер гаворыць пра «самазараджэнне сюжэтаў».

Нольтэ кажа праўду: канцлагеры для палітычных праціўнікаў першы прыдумаў Ленін, а не Гітлер. Але, заўважае гісторык Фест, біёграф Гітлера, гэтага факта часавай паслядоўнасці яшчэ недастаткова, каб вынішчальную праграму Гітлера выводзіць з дзеянняў Леніна. Перанёсшы літаратуразнаўчы тэрмін на разглядаемы намі феномен, можна гаварыць пра «самазараджэнне сюжэта», які мае агульную аснову — абесчалавечанне еўрапейскага чалавека XX стагоддзя ў выніку першай сусветнай вайны, паразы лібералізму і перамогі калектывісцкіх вучэнняў, якія адкінулі прэч паняцці аб асабістай віне і асабістай адказнасці. Зразумець Нольтэ можна, апраўдаць як гісторыка, ды яшчэ фенаменаліста — наўрад ці: тэзіс аб пераймальнасці нацызму, аб вучнёўстве Гітлера ў Леніна, вядома ж, прыносіць палёгку душы немца-патрыёта. Рускія патрыёты таксама ніяк не могуць прызнаць бальшавікоў ініцыятарамі страшнейшых злачынстваў: гэтаму іх ці то жыды падвучылі, ці то людзі «каўказскай нацыянальнасці». Але пры чым тут аб'ектыўнасць, дзе тут месца «фенаменалізму»? Хоць Нольтэ і выдае сябе за суддзю на працэсе над нацызмам, ён нярэдка і, пэўна, непрыкметна для самога сябе выконвае функцыі ягонага адваката. Вядома ж, у любым цывілізаваным судзе хтосьці павінен прадстаўляць інтарэсы падсуднага, аднак самы сумленны абаронца, выгароджваючы свайго кліента, павінен адшукваць няхай нават і сумніцельныя аргументы на яго карысць. Але гэта наўрад ці задача суддзі альбо гісторыка. Толькі беспардонны адвакат мог бы заявіць, як гэта робіць Нольтэ, што яго падабаронны дзейнічаў ледзьве не ў сітуацыі неабходнай абароны: палітыка знішчэння яўрэяў стала, маўляў, рэакцыяй у адказ на заяву аднаго з кіраўнікоў Сусветнага яўрэйскага савета ў верасні 1939 года, што яўрэі будуць ваяваць на баку Англіі супраць Германіі. У

*(Працяг на стар. 12)*

## У СЛАВУТАЙ СМОЛЬНІ



**Пяты Рэспубліканскі фестываль юных музыкантаў «Сымон-музыка» прайшоў на радзіме Якуба Коласа. На другі дзень, як заўсёды, у славутай Смольні адбылося літаратурнае свята «Слова пра Коласа», Выступілі дырэктар музея народнага паэта З. Камароўская, пісьменнікі С. Грахоўскі і А. Вольскі, кампазітар, народны артыст Беларусі А. Багатыроў, сын Якуба Коласа Д. Міцкевіч, кампазітар М. Пратасаў і паэтка Н. Салаўёва (г. Масква), загадчык аддзела музея песняра І. Курбека, загадчык аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама А. Грэкаў, музычныя і танцавальныя калектывы.**

**На хаце, дзе ў 1912 годзе ўпершыню сустрэліся Якуб Колас і Янка Купала, была ўрачыста адкрыта памятная дошка (аўтар-скульптар Л. Гумілеўскі), якая сведчыць пра гэту знамянальную падзею.**

**На трэці дзень у Доме культуры калгаса «Нёман» сваё майстэрства дэманстравалі лаўрэаты і дыпламанты фестывалю.**

**У свяце ўдзел узялі госці з Масквы, з Калінінградскай і Уладзімірскай абласцей, з Украіны.**

**К. СЦЕПАНЮК**



*На здымках: З. Камароўская, С. Грахоўскі і Д. Міцкевіч на адкрыцці памятнай дошкі; момант свята.*

## ПОЗІРК НЕ ТОЛЬКІ Ў МІНУЛАЕ

**Часопіс «Спадчына» пачынае... прагназаваць будучыню. Прынамсі, другі нумар адкрываецца раздзелам «Футуралогія». У дзень заўтрашні нам дапамагаюць зазірнуць А. Трусаў, В. Быкаў, В. Тарас, В. Голубеў, І. Антановіч, айцы Георгій і Міхаіл.**

**У нумары — артыкул «Касцюшка: Парыж—Нью-Йорк», чарговыя раздзелы з кніг А. Глябовіча «Касцёл у няволі», Я. Германовіча «Кітай—Сібір—Масква», Ю. Вольфа «Князі на абшарах Вялікага княства Літоўскага да канца XIV ст.», Г. Сагановіча «Невядомая вайна (1654—1667)».**

**Сяргей Запрудскі выступае з артыкулам «Язэп Лёсік — мовазнаўца». Тут жа публікуецца даследаванне Я. Лёсіка «Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы». Прапануюцца раздзелы з кнігі калабаранта Я. Малецкага «Пад знакам Пагоні», выявы гербаў беларускай шляхты, малавядомыя штрыхі да біяграфіі А. Міцкевіча («І ксёндз прыехаў з Царына...» А. Кэмпфі), карэспандэнцыя І. Шарухі «Беларускія назовы ў Антарктыдзе», іншыя матэрыялы.**

## ПЕСЕННАЯ ВЕЧАРЫНА

**прайшла ў Доме літаратара, прысвечаная 75-годдзю з дня нараджэння А. Дзеружынскага. Юбіляр не толькі расказаў аб гісторыі напісання некаторых вершаў-песень, а і выканаў шэраг мелодый.**

**Гучалі песні кампазітараў М. Шуміліна, У. Галя, У. Казбанава, бардаў М. Трафімчука і К. Герашчанкі на вершы А. Дзеружынскага. Выступалі таксама бард А. Атаманаў, гурт мінскай СШ N 195. Акампаніравала дачка кампазітара І. Шуміліна.**

**Сяброўскае слова пра юбіляра сказалі вядучы вечара У. Паўлаў, А. Вольскі, М. Яфімава і іншыя.**

**П. ГАРДЗІЕНКА**

# ПАД ЗНАКАМ ОРУЭЛА

***«Прыгоды Піркса» С. Лема, «Більярд апалове дзесятай» Г. Бёля, «Стамбульскі экспрэс» Г. Грына, «Гронкі гневу» Д. Стэйнбека... Гэтыя і многія іншыя творы сусветна вядомых аўтараў выдала ў мінулым годзе па-беларуску «Мастацкая літаратура». У канцы 1992 г. пабачылі свет аповесць і раман Джорджа Оруэла «Ферма» і «1984». З перакладчыкам кнігі Сяргеем ШУПАМ гутарыць Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.***

**— Што было непасрэдным штуршком для перакладу Оруэла — творчы імпульс ці наяўнасць выдавецкай пазіцыі?**

— Пачну здалёк — з гадоў легкадумнага студэнцтва, калі мой сябар Шура Апановіч падчас адной з экзістэнцыяльных пагулянак на Татарскіх агародах падзяліўся ўражаннямі ад толькі што прачытанае кнігі, дзе ўсё наскрозь — пра нас, ды як! Адбылося гэта, як і ўсё іншае, у 1980-м. Кнігі Оруэла, завезеныя кантрабандна нашымі студэнтамі-стажорамі з Лондана і Парыжа, хадзілі ў заммове (інязе) па руках і чыталіся пад сталамі падчас лекцый. Гэткі быў першы кантакт. Вобразы, героі й цытаты з «Фермы» і «1984» увайшлі тады ў наша жыццё, стаўшы таемным знакам далучанасці. Памятаю, Шура сказаў тады: «Перевел бы задаром, если бы кто напечатал». Нам і ў галаве не было, што на той час існавала ажно тры расейскія пераклады.

Рэальны 1984-ы заспеў мяне ў Дрэздэне, дзе я з лейтэнанцкімі зорачкамі на плячах сплачваў колішняй дзяржаве свой канстытуцыйны абавязак. Год гэты, ясная справа, праходзіў ва ўсім свеце пад знакам Оруэла. Раман друкавалі з працягам сотні газет, радыёспектаклі перадаваліся дзесяткамі радыёстанцый. Ведаючы мае схільнасці, мой калега, якога пакінулі служыць у «сталічным» Вюнсдорфе, перапрацоўваючы горы газет, акуратна выцінаў мне ўрыўкі двух нямецкіх перакладаў «1984», адзін з Die Welt, другі — з Badisches Tagesblatt. Так, улетку таго самага года я і пачаў, кавалак за кавалкам, вечарамі пасля службы перакладаць гэты раман з двух нямецкіх (!) перакладаў. Першым чытачом і крытыкам была жонка.

Вярнуўшыся з войска ў Менск, здабыў я яшчэ адзін пераклад — французскі, і дарабіў адсутныя фрагменты тэксту. Арыгінал здолеў знайсці, калі ўвесь тэкст быў ужо перакладзены — давялося фактычна перапісаць яшчэ раз.

Пра выдавецкую пазіцыю тады, у 1986-м, нельга было і марыць. Так, нейкі час, у хаце ляжаў паўкандыцыйны тэкст перакладу — дарабіць яго не хапала стымулу. З хаты ён таксама амаль нікуды не выходзіў, калі не лічыць прэзентацыю і чытку фрагментаў на пасяджэнні «Вавілону», клуба перакладчыкаў з эпохі «неформальных объединений молодежи». Калі ў 1987 годзе «Тутэйшыя» рыхтавалі альманах, я быў падрыхтаваў да публікацыі першую частку, аднак неяк яна ў альманах не ўлезла.

Нарэшце адбылося непазбежнае — улетку 1988 года сталася ведама, што «Новый мир» з новага года пачне друкаваць раман. А як можна ў Маскве — дык і ў нас не пабаяцца надрукаваць! І вось я лячу на крылах да рэдактара літаратурнага часопіса — упершыню ў гісторыі мы можам абагнаць Маскву, і ў чым — раней за іх надрукаваць Оруэла! Якая нагода ўзняць наш гонар і прэстыж! Улесціць наша самалюбства! Рэдактар да маёй прапановы паставіўся спакойна — як з увагі на маю малую «вагавую катэгорыю», гэтак і дзеля таго, што ён *не ведаў гэтага твора*, хоць «прозвішча аўтара недзе чуў». Аднак усё ж дамовіліся, што ў верасні, калі будзе рыхтавацца N1 за 1989 год, я прынясу гатовы першы раздзел. Тады мінуў яшчэ месяц, і я, прыйшоўшы пацікавіцца лёсам публікацыі, даведаўся, што, на жаль, N1 прысвечаны юбілею БССР і ўжо напакаваны юбілейнымі матэрыяламі. Да таго ж, на гэты год ужо запланавана публікацыя перакладу рамана Грэма Грына — аўтара ўсім вядомага і вельмі папулярнага. Паставіць замест яго нікому невядомага... як там яго... Оруэла — рызыкоўна, бо ніхто не купіць часопіс.

Ад крыўды хацелася плакаць — зноў мы прайгралі Расеі. (Ясна, якасць перакладу, як і асоба перакладчыка, тут зусім ні пры чым — гэта ва ўсёй гэтай гісторыі апошняя справа. Тым болей, што і сам арыгінал з чыста літаратурнага гледзішча — не шэдэўр). Апошняй юнацкай надзеяй было папрасіць аб дапамозе вельмі паважанага пісьменніка — ён жа ведаў, хто такі Оруэл, ён жа маральны аўтарытэт, яго ж паслухаюць! Тым болей, што і ён друкуецца ў тым самым N1 — а ну ж, разумеючы важнасць сітуацыі, сам саступіць Оруэлу й ягонаму маладому прапагандысту! Аднак вельмі паважаны пісьменнік стомлена сказаў у тэлефонную трубку, што «хто ён такі, каб указваць рэдактару» і што «любы рэдактар пашле яго далёка».

А «Новый мир» пачаў друкаваць «1984» толькі ў лютаўскім нумары, які дайшоў да Менска толькі ў канцы сакавіка...

Была яшчэ амаль безнадзейная спроба «ўладзіць» пераклад у маладзёжны літаратурны часопіс. Ужо не дзіўна было, што і ягоны рэдактар *не ведаў*, хто такі Оруэл, а на ягонае пранiклівае пытанне: «Ну вось ты скажы, ён за нас ці не за нас?» я дальбог не ведаў, што адказаць. А ягоны намеснік, які сядзеў побач, сказаў, што ўвогуле іх часопіс друкуе маладых *беларускіх* літаратараў, мабыць, націскаючы на тое, што малады беларускі перакладчык у гэтую катэгорыю не лезе.

Першым, хто нічога не пытаўся, бо ўсё ведаў, і адразу сказаў: «Ну, нясі, што там у цябе ёсць» быў папярэдні гаспадар «ЛіМа» Анатоль Вярцінскі, за што я яму і дагэтуль шчыра ўдзячны. У лютым 1989-га ў «ЛіМе» быў надрукаваны невялікі ўрывак рамана — максімум, што можна было зрабіць, але ўсё ж раней за Маскву!

Праўда, яшчэ раней, адразу пасля майго фіяска ў літаратурным часопісе, раман запрапанаваў выдаць у «Мастацкай літаратуры» Барыс Сачанка, які таксама добра ведаў, хто такі Оруэл, бо яшчэ з глыбіні савецкіх часоў панадзіўся збіраць у сваю бібліятэку ўсякую распусту. Прапанова гэтая тады мала суцешыла, бо яна не ратавала палітычнага прэстыжу ў спаборніцтве з Масквой — час сплываў няўмольна, аднак, урэшце, было ясна, што якраз у «Мастацкай літаратуры» і самае месца для публікацыі рамана. Так і ўзнікла выдавецкая пазіцыя, згаданая ў вашым пытанні.

**— У працэсе працы з арыгіналам ці змяніліся вашы адносіны да рускага перакладу?**

— Мне давялося мець справу з рознымі перакладамі — двума нямецкімі, французскім, а калі тэкст зболышага быў гатовы — і з двума расейскімі. Трэба адзначыць, што раман Оруэла — не найлепшы матэрыял для ацэнкі перакладчыцкага майстэрства, гэта хутчэй палітычная публіцыстыка, чым мастацкая літаратура. І ўсё ж можна зрабіць некаторыя агульныя высновы, тым болей, што яны пацвярджаюцца і прыкладамі іншых твораў. З усіх тэкстаў раман (улучна з ангельскім) найбольш на ролю арыгінала пасаваў нямецкі пераклад з Die Welt, як бы парадаксальна гэта ні гучала. Яснасць і дакладнасць думкі, карэктнасць вобразаў, зграбнасць сінтаксічных канструкцый — усё гэта надавала тэксту нямецкая мова, як бы навёўшы парадак у ангельскім арыгінале, дзе часам аўтар дапускаў стылёвую размытасць і невыразнасць. Поўную супрацьлегласць уяўляе сабою французскі пераклад — сапраўдная квашаніна, што расплываецца ў неахайную слоўную слату амаль у кожным сказе. На гэтым фоне даволі добра выглядае расейскі пераклад Голышава ў «Новом мире» — няма да чаго прычапіцца. Затое першая дазволеная савецкая публікацыя па-расейску — у кішынёўскіх «Кодрах» (NN9—12, 1988 і N1, 1989), пераклад В. Недашывіна (Масква) — сапраўдны літаратурны кур'ёз. Гэты правінцыйны часопіс у сваім імкненні апярэдзіць усіх з прэстыжнай публікацыяй (вось бы нашым так!) неяк не заўважыў, што перакладчык не валодае на элементарным узроўні не толькі моваю арыгінала, але й моваю перакладу — столькі там навешана стылістычнай «развесистой клюквы»!

**— Як вядома, «1984» лічыцца найбольш значным творам пісьменніка. Чаму на першае месца вынесена «Ферма»?**

— Дарэчы, «Ферму» я пераклаў ужо пасля таго, як занёс «1984» у выдавецтва. Яе «замовіў» Барыс Сачанка — «бо не выдаваць жа пасля асобна».

Думаю, шмат хто згадзіўся б са мною, што «Ферма» з літаратурнага гледзішча стаіць вышэй за «1984», не саступаючы яму пры гэтым у палітычным зарадзе. «1984» — гэта, як я ўжо зазначыў, палітычная публіцыстыка, «пасаджаная» на меладраматычную фабулу, дарэчы, даволі банальную, да таго ж напісаная шэраю і невыразнаю моваю. Востры сацыяльна-палітычны аналіз і з'едлівы сарказм на добра нам знаёмую рэчаіснасць, з якой сам аўтар ніколі асабіста і не сутыкаўся, — вось неаспрэчныя вартасці рамана, аднак яны, так сказаўшы, — пазалітаратурнага паходжання. «Ферма» ў гэтым сэнсе відавочна выйграе — гэта зграбная, складная й дасціпная алегорыя, спараджэнне з'едлівага розуму й лёгкага пяра. (У нейкай віленскай відэатэцы я прачытаў такую анатацыю на зняты паводле гэтай казкі мультфільм: «Мультфильм из жизни домашних животных»).

Аднак у кнізе творы размешчаны проста храналагічна.

**— Перакладчык — не толькі чытач, але яшчэ нярэдка і крытык. Ці былі ў вас моманты, калі аўтара хацелася «паправіць»?**

— Адразу прыгадваюцца расейскія пераклады з «моў народаў СССР» — там творы нават не папраўлялі, а проста перапісвалі на свой густ і лад «на матыў» арыгінала, разумеючы той матыў вельмі па-расейску спецыфічна, адпаведна з традыцыйнымі стэрэатыпамі...

Я прынцыпова супраць «папраўлення» аўтара — пры перакладзе ў недасканаласці тэксту вінаваты не той, хто яго напісаў, а той, хто выбраў яго для перакладу. Што да Оруэла, дык яго й не было патрэбы папраўляць. Ягоныя тэксты цалкам адпавядаюць свядома выбранай жанрава-стылістычнай устаноўцы, іх «шэрасць», голая функцыянальнасць — зададзеныя прагматычным падыходам хранікёра.

І ўсё ж, мушу прызнацца, у некаторых мясцінах я не стрымаўся, каб не «саветызаваць» і без таго савецкія рэаліі — гэта датычыць і фразеалогіі, як грамадска-палітычнай, гэтак і побытавай, і лексікі, і нават... музыкі — тэкст гімна «пракляццем катаваных» жывёл у «Ферме» Алег Мінкін пераклаў, адмыслова дапасаваўшы яго да мелодыі «Інтэрнацыяналу», чаго не было ў Оруэла.

# ЧАРГОВАЯ КВЕТАЧКА «ПЕРШАЦВЕТУ»

Выйшаў чарговы, чацвёрты за сёлетні год нумар часопіса «Першацвет». Выданне гэтае, у якога, будзем шчырымі, ёсць не толькі прыхільнікі, а і праціўнікі (яны папракаюць галоўнага рэдактара Алеся Масарэнку ў тым, што, маўляў, дае самым маладым аўтарам палёгку, змяшчае ці не ўсё, што з'яўляецца ў іх з-пад пяра), тым не менш карыстаецца папулярнасцю ў тых, хто неабыякавы да літаратуры. А яшчэ ж вядома: нават і магутнае дрэва пачыналася калісь з самага кволага парастка.

Дык вось, красавіцкі нумар «Першацвету» лішні раз пераконвае: штомесячнік маладых літаратараў Беларусі — патрэбен. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова ўважліва прачытаць (а магчыма, і перачытаць) старонкі нумара.

З прозы вылучаецца апавяданне-прытча Святланы Казарынай «Бясконца-таямнічы шлях» (ёю нумар і адкрываецца).

Алесь Аляшкевіч у апавяданні «Пляма» гаворыць пра тое, якія беды беларускай зямлі прынёс Чарнобыль. Запамінальным атрымаўся вобраз галоўнага героя хлопчыка Янкі. Некалькі псіхалагічна-дакладных штрыхоў А. Аляшкевічу дастаткова, каб пераканаўча сказаць і пра яго сястрычку Марыльку. Праўда, апавяданне магло б быць больш сціслым, лаканічным. А. Аляшкевіч вельмі ж ужо прытрымліваецца фактаў, быццам баіцца, каб, барані Божа, штонебудзь упусціць, забываючы, што літаратура — не столькі сам аповяд, колькі даследаванне характараў, учынкаў, абставін.

Гэта ж можна, бадай, сказаць і пра апавяданні Міколы Сянкевіча «Дзядзькавы універсітэты» і «Штаны», у якіх дакументальная аснова па сутнасці не адпускае аўтара ад сябе.

Шмат лірычнай прасветленасці ў замалёўцы Ларысы Шувалавай «Кошык з кацянятамі».

Калі табе семнаццаць ці крыху болей, нельга не глядзець на акаляючы свет вачыма, поўнымі здзіўлення, і ва ўсім бачыць радасць і толькі радасць. Слова само рвецца з душы. А яшчэ калі пры гэтым з'яўляецца штуршок, які пераконвае — не пісаць проста нельга.

І Ірына Хадарэнка, думаецца, пакрысе пазбавіцца ў сваіх творах каструбаваных выразаў, якія не тое што паэзію, а і прозу не аздабляюць: «творчасцю займацца не даюць», «бясконца ламала бар'еры», «перамогу мець цяпер на сваім ліку».

Максім Капыловіч, можна сказаць, сталы аўтар «Першацвету». Радок яго досыць выверааны, запамінальны:

**Ходзяць цені над лугамі**
**і будуюць дом.**
**Срэбны месячык з рагамі**
**стукне ў ноч ілбом.**

Раю зазірнуць і ў раздзел «Крытыка». У ім Ірына Шаўлякова арыгінальна прачытвае «Скарбы жыцця» М. Гарэцкага. Таццяна Барысюк, па-мойму, здолела адчуць адметнасць паэзіі М. Лукшы, аналізуючы яе зборнік «Замовы». Ганна Бутырчык уважліва перачытвае дзіцячую кніжку А. Пісьмянкова «Заўзятары».

Я згадваю ўсё пра самых-самых маладых аўтараў. Калі ж гаварыць пра нумар у цэлым, дык ён атрымаўся не ў малой ступені дзякуючы і таму, што ў традыцыйным раздзеле «Гасцёўня» прадстаўлены Сяргей Панізнік і Алесь Масарэнка. Першы — вершамі, напісанымі апошнім часам, а А. Масарэнка — празаічнымі дыялогамі вяскоўцаў, чуйна ўлоўленымі пісьменніцкім слыхам. Дарэчы, гэта свайго роду працяг яго публікацыі ў газеце «Наша слова».

Карацей кажучы, я — за «Першацвет». Каб яго наступныя нумары былі гэткімі ж змястоўнымі, як апошні, красавіцкі, што для многіх дадаў майскім святам яшчэ больш святочнасці.

**А. М.**

Анкета

***1. Ці пішацца сёння, і, калі без прымхаў, то што іменна?***

***2. Ці ўзнікала жаданне перагледзець набыткі, памяняць арыенціры, звярнуцца да іншых тэм і жанраў?***

***3. Сфера вашых жыццёвых інтарэсаў (так званае хобі).***

Мар'ян ДУКСА

# АЛТАР ПАЭЗІІ

Адказваючы на першае пытанне, сцвярджу адназначна: пішацца сёння цяжка. Зрэшты, паэтычная творчасць ніколі не была забаўляльным заняткам, вясёлым шпацырам па белым аркушы паперы. Тым больш зараз — ва ўмовах татальнай дэмаралізаванасці грамадства, калі атмасфера вакол цябе проста пранізана адмоўнымі флюідамі страху, адчаю, няўпэўненасці. У такія крызісныя часы фізічнае самавыжыванне становіцца галоўнай праблемай, патрэба ў духоўна-эстэтычным забеспячэнні людзей рэзка звужаецца. Колькі апантанасці сёння трэба мець, каб ісці на завод, які вось-вось спыніцца, і ўзнёсла чытаць апанураным рабочым лірычныя вершы. А хадзілі ж не так даўно. І ў прынцыпе слухаў нас фабрычны люд, хай сабе і жуючы паралельна абеднія бутэрброды.

У гэтай сітуацыі само просіцца цяжкае пытанне — яно, вядома, і раней узнікала: дзеля чаго пісаць? Адказ трэба шукаць, бо ад гэтага залежаць і твае творчыя стымулы, і тваё «натхненне» — дажыліся, што прыстойнае слова патрабуе двукосся. Можа, пісаць проста для сябе? Каб матэрыялізаваць, праясніць нешта туманнае ў падсвядомасці, расшыфраваць сваё аморфнае «я», невыразныя імпульсы душыператварыць у асэнсаваныя радкі і страфы? Інакш кажучы, творчасць — самастойныя ўрокі самааналізу. Дзеля чаго? Пазнаць самога сябе?

Пісаць для людзей? Гэта традыцыя для нас найбольш блізкая. Трэба шчыра сказаць, што мы выхаваны на гэтым бясспрэчным, як заўсёды здавалася, пастулаце. Але хто нас чытае? Сёй-той: часам калега па пяры, аднакласнік-зямляк, аднакурснік, хто-небудзь з радні, рэдактар... Але ж не відаць нешта і чэргаў да імпартных твораў з зіхатлівымі вокладкамі, якімі забіты ўсе сталічныя кнігарні і кіёскі. Падобна, што нашым людзям ужо надакучылі эратычна-прыгодніцкія сюжэты, і яны адчуваюць нарэшце пэўную прыкрасць ад засілля голых прыгажунь на вокладках, іх празмернасці. Гіпертрафіраваная эстэтыка жаночага цела ўжо не робіць патрэбнага ўздзеяння на кніжнікаў, як аб тым думаюць нашы беларускія і небеларускія «сыціны». Гэта ўвогуле безгустоўна і ненармальна — увесь цэнтр сталіцы упрыгожваць «займальнымі» малюнкамі, нібы навокал усе літаральна будынкі аддадзены пад забаўляльныя ўстановы з пэўным ухілам... Вось пацяшаюцца недзе з нас прыезджыя еўрапейцы і супрацоўнікі замежных пасольстваў, праходзячы тут.

Так што нічога дзіўнага, калі і нашы сціплыя кніжкі ляжаць на прылаўках і не натхняюць нас на стварэнне новых. Іншая справа, што кнігагандаль нічога не робіць, а можа, свядома нічога не робіць, каб наша беларуская паэзія не залежвалася. Няўжо аўтар павінен пакаваць свае зборнікі ў мяшок і валачы іх на Камароўку? Хоць пры цяперашнім накладзе ў 700 асобнікаў за пару заходаў, глядзіш, і прадаў бы. Хоць такі паэт-гандляр быў бы варты жалю. У мяне заўсёды сціскаецца сэрца ад болю і спачування, калі на праспекце бачу дзесяткі пасінелых ад холаду мастакоў, якія спрабуюць як-небудзь выменяць свае любімыя карціны на нашы нікчэмныя «звярыныя паперкі».

А можа, трэба пісаць дзеля грошай? Распаўсюджвалі ж трохі раней партыйныя прапагандысты сярод народа плёткі, што пісьменнікі грошы «грабуць лапатай». Ужо як паэты азалаціліся за кошт сваіх вершаў — пра гэта проста смешна гаварыць. А на цяперашні час дык наогул лепей памаўчаць. Былі беднымі, а зараз сталі жабракамі. Можа, нам абвясціць страйк? На пацеху людзям. Пэўна б, узрадаваліся нашы галоўныя выдавецтвы, што перасталі мы пісаць. Здзіўляе, што з вышэйшых інстанцый адносна рэзкага збяднення творчага люду можна чуць і такое: маўляў, хлопцы, рынак, прыстасоўвайцеся, вучыцеся плаваць самастойна. Быццам мы нейкія фабрыкі па вырабе галантарэі. Ці вось рэдакцыям беларускіх часопісаў прапаноўваюць самім шукаць грошы на пакрыццё выдаткаў. Але ж як гэта зрабіць? Адправіць у Турцыю ці Польшчу аднаго свайго супрацоўніка за таварам, каб пасля, выгадна збыўшы гэты тавар на тутэйшых рынках, прыдбаць нейкую суму і папоўніць такім чынам рэдакцыйную касу? Але дзе ўзяць грошы на «камандзіроўку»? А можа, найлепш адпусціць адзін пакой рэдакцыі пад невялічкае казіно, запрасіўшы туды ў якасці абслугі сваіх пекных машыністак?

Відаць, уся справа ў тым, што свядома тармозіцца з боку пэўных дзяржаўных структур наша нацыянальнае адраджэнне. Інакш сродкі для беларускамоўных выданняў заўсёды знайшліся б — нейкія прывілеі для іх можна стварыць за кошт дадатковага падатку на шматлікія іншамоўныя кнігі, якія прывозяцца з-за межаў Беларусі. Упэўнены, існуе мноства сродкаў, каб падтрымаць нацыянальныя выданні. Толькі нашым службоўцам трэба думаць і варушыцца, а на гэта, відаць, здольныя толькі сапраўдныя патрыёты. Але дзе яны?

Не будзе вялікім сакрэтам тое, што многія пісьменнікі, асабліва старэйшыя, зараз знаходзяцца ў стане творчай дэпрэсіі. Пенсіі малыя, кнігі выходзяць з цяжкасцю, ганарары мізэрныя, грашовыя зберажэнні «згарэлі». Адносная матэрыяльная стабільнасць усё-ткі неяк падтрымлівала душэўны статус-кво творцаў. Дарэчы, тое, што адбылося з грашовымі ўкладамі ўсяго насельніцтва, якія ніхто і не збіраецца індэксаваць, — гэта вельмі жорстка і па-бальшавіцку бесчалавечна. Гэта нейкая манія саноўнай наменклатуры, выхаванай у камуністычным духу, — адбіраць чужое. Як можна сёння гаварыць з усіх трыбун аб прававой дзяржаве, калі адначасова чыніцца такі несусветны гвалт. Вялікае мноства людзей гадамі, а то і ўсё жыццё збірала сабе нейкіх пару тысяч на чорны дзень ці на тое ж пахаванне, а зараз дзяржава-злодзей кажа: прабачце, казна пустая, а дадаткова надрукаваць разліковых білетаў і аддаць вам доўг — не можам, бо выклічам яшчэ большую інфляцыю... Гэта вашы праблемы, даражэнькія з верхніх эшалонаў улады, дзе знайсці грошы. Прадавайце дзяржаўную маёмасць, скарачайце наменклатурныя штаты, урэшце, замарозьце на колькі год праіндэксаваныя ўклады, калі такі страх, што будзе інфляцыя. Але аддавайце людзям іхняе! Выходзіць, замежныя крэдыты, эфект ад якіх пакуль што ніякі, вяртаць трэба абавязкова, а са сваімі людзьмі разлічвацца — як прыйдзецца... Выцерпяць паслухмяныя авечкі!

Некалі таталітарызму вельмі патрэбны былі «майстры пяра і пэндзля»: ён нядрэнна ўсведамляў, што толькі з дапамогай эмацыянальнага ўздзеяння іх твораў можна ўкладваць у душы людзей і замацоўваць там патрэбныя ідэі. Ролю мастацтва і літаратуры ў выхаванні «новага» чалавека сістэма добра разумела і не шкадавала сродкаў на ўзнагароду тых, хто памагаў ёй ачмурыць народ. Зараз гэта сістэма (а яна на Беларусі фактычна захавалася) адчула, што народ адбіўся ад рук. І адпала патрэба ў памагатых. Пішыце і выдавайцеся, але мы тут ні пры чым!..

Што ж, многім зараз цяжка. Але, ведаеце, на сённяшні вэрхал, гэты крымінальны эканамічны шабаш я пачынаю глядзець спакойна. На падыходзе новыя людзі, якія ўсяму гэтаму павінны пакласці канец. І па-другое: роўнае, закалыханае, безмяцежнае жыццё — усё-ткі ілюзія, самаашуканства. Жыццё — гэта заўсёды вялікая драма, толькі не заўсёды намі ўсвядомленая. Яна — фатальная, непазбежная, і ці варта нам упадаць у чорную меланхолію з нагоды бесталковага рынку, які тайфунам зруйнаваў наш спакой? Затое мы набылі волю, хоць пакуль у нечым і абмежаваную. Воля — гэта галоўная дамінанта чалавечай сутнасці. Воля — самы фундаментальны дар Божы. Найвялікшы эксперымент Усявышняга заключаецца ў тым, што Ён прадугледзеў чалавека вольным, даўшы яму маральныя накірункі ў выглядзе запаветаў, што ішлі на зямлю праз пракракаў і, нарэшце, праз Ісуса Хрыста. Рабі, што хочаш, але ты, чалавек, у прынцыпе ведаеш, дзе дабро і дзе зло... Таталітарныя рэжымы былі анамальнымі, д'ябальскімі таму, што яны адмаўлялі, перакрэслівалі гэты эксперымент Бога.

Не адпавядае сапраўднасці тое, што творцу абавязкова павінны загубіць матэрыяльная нястача, бытавыя цяжкасці. Талент заўсёды здольны зрабіць выклік лёсу, пры любых стасунках ісці да сваёй мэты, хоць і прыходзіць часам адчуванне, што робіш сізіфаву справу.

Пакуль бурліць жыццё — будзе жыць і паэзія, бо незалежна ад знешніх абставін існуе ў асобных людзей **інстынкт асэнсавання** гэтага жыцця. Паэзія і ёсць эмацыянальна-духоўнае асэнсаванне таго, што творыцца навокал. Чым мацнейшы гэты інстынкт, тым большы талент.

Калі гаварыць пра сябе больш канкрэтна, зазначу, што мне як паэту зараз даволі складана ў тым плане, што паэзія засталася маёй сталай прафесіяй. І цяпер, калі з яе не толькі не пражывеш, але наогул здаецца, што яна нікому непатрэбна, надыходзяць часам хвіліны з поўным душэўным дыскамфортам. Некалі мы бясконца паўтаралі фразу, народжаную ў асяроддзі маскоўскай літаратурнай арыстакратыі, што «паэзія — гэта не прафесія, а стан душы». Вельмі прыгожа гучыць, але логіка тут спрэчная. Паэзія можа быць прафесіяй! Ганяць мяч па футбольным полі — гэта прафесія. Урэшце, быць настаўнікам літаратуры і чытаць вучням гатовыя вершы — яшчэ якая прафесія! А ствараць арыгінальныя творы і дарыць іх чытачам — гэта, выходзіць, не прафесія?

Вядома, не ад добрага жыцця паэты сёння пільна трымаюцца службы. Але скажу шчыра: гэта вельмі няўдзячная доля — быць паэтам і недзе служыць, стаяць «навыцяжку» перад не заўжды інтэлігентным шэфам, якому часам вельмі хочацца паздзекавацца з «любімца муз», пафарсіць сваёй маленькай уладай. Служба ўсё-ткі дэфармуе душэўны стан творцы, замацоўвае там рэфлексы няшчырасці, фарысейства, раздваення, а гэта ўсё негатыўна ўплывае на працэс творчасці. Урэшце, каб пісаць, патрэбен час. На службе гэтым займацца не будзеш, а спадзявацца на ноч — асуджаць сябе на творчую катаргу. Я нічога не прапаноўваю, але падсумую сказанае: паэзія, увогуле творчасць — вельмі сур'ёзная справа, каб залічваць яе у ранг аматарскай. Пагэтаму дзяржава павінна нейкім чынам падтрымліваць і творчыя саюзы, і персанальна творцаў — яны патрэбныя грамадству, бо сваімі творамі ўзмацняюць святло нацыянальнай культуры.

Я згодзен, што паэзія — гэта лёс. Ёсць такое мудрае выказванне: «Пасееш учынак — пажнеш прывычку, пасееш прывычку — пажнеш характар, пасееш характар — пажнеш лёс». Выпадкова пасеяўшы некалі ў сёмым класе яшчэ зусім кволае зерне першага верша, я пажынаю сёння свой лёс. Не кар'еру, не службовыя пасады, а якраз сваю творчую долю з усімі яе радасцямі і перажываннямі. Ці не шкадую зараз, што некалі здзейсніў свой легкадумны ўчынак? Не хачу спяшацца з адказам, лепш памаўчу, а падтэкст майго маўчання хай чытач спасцігае сам.

Што пішацца сёння? Што набяжыць... Паэт звычайна не ведае, пра што ён будзе пісаць заўтра ці нават праз хвіліну, калі прыйдуць у душу нейкія раптоўныя імпульсы. Вядома, існуюць схільнасці да пэўных тэм і прынцыпаў. Хочацца, напрыклад, быць больш натуральным у сваіх вершах, выразна сцвердзіць менталітэт беларускай душы. Я заўсёды быў супраць вызначэнняў характару беларусаў як рахманага, занадта баязлівага, бязмежна цярплівага, уседаравальнага. Шмат тут няпраўды. Я не супраць таго, што стагоддзі прыгнёту, здзеку, гвалту над беларускім народам пакінулі ў ім пэўны след. Але гэта павярхоўны след. Генны фундамент нашай душы іншы, і ён сведчыць не толькі аб яе сумленнасці, разважлівасці, шчырасці, спагадлівасці, але і высокай годнасці. Перачытайце «Песню пра зубра» Гусоўскага, і вы гэта адчуеце. Байка аб бесхарактарнасці, нехлямяжасці, наіўнасці беларусаў патрэбна была акупантам усіх часоў, а таксама цяперашнім манкуртам, каб стварыць уражанне, што беларускі люд непаўнацэнны і патрабуе бацькоўскай апекі з боку разумнейшых і больш жыццяздольных нацый. Урэшце, прыкіньце вы, сённяшнія спадары беларусы: ці такія мы? Ну, вядома ж, не такія! Але комплексы прыжыліся, і яны нам дужа шкодзяць. Наша нясмеласць, няўпэўненасць, закамплексаванасць адчуваецца ўсюды — у прыёмнай нейкага начальніка, у замежным магазіне, на здымачнай пляцоўцы... Вы паглядзіце, як натуральна, спакойна, годна трымаюцца амерыканцы-кінагероі. І параўнайце іх з нашымі. Таму і цягнемся мы да амерыканскага кіно: прыемна бачыць нармальных людзей — без самаедства і фальшу.

Мой адказ на першае пытанне анкеты атрымаўся мо залішне мнагаслоўным, бо выклікаў розныя асацыяцыі. Паводле наступных двух пытанняў буду выказвацца больш сціслa.

Ці ўзнікала ў мяне жаданне перагледзець набыткі, памяняць арыенціры, звярнуцца да іншых тэм і жанраў?

У так званую эпоху «танных тавараў» я ніколі не шукаў кан'юнктурных тэм, да іх заставаўся халодным, як і вяскоўцы, сярод якіх я вырас, былі заўсёды абыякавымі да сацыялістычных святынь. Большасць маіх вершаў — гэта пэўная рэакцыя душы ў розных жыццёвых стасунках. Яны — сведчанне таго, чым я жыў. Іншая справа, што часам гэтыя вершы былі звычайным «пачуццёвым піскам», не напоўненым сэнсавай значнасцю. Гэта зусім не гаворыць аб тым, што мяне не займала жыццёвая глыбіня, проста сістэма нас старанна садзіла ў ідэалагічную бочку Дыягена — нам дазвалялася бачыць не шырэй дыяметра абруча. Чаму мы ў гэтым выпадку не пісалі ці мала пісалі «ў стол»? Не буду тут шмат мудрыць, скажу толькі, што ўсім нам хацелася друкавацца, тым больш, што без друкаванага слова паэт у большасці выпадкаў творча чахне. Потым — надрукаваць штосьці за мяжой было безнадзейнай справай, паколькі кантакты нашых пісьменнікаў з прадстаўнікамі культурнага замежжа былі абмежаваныя, чаго не скажаш пра маскоўскіх літаратараў, якія таму і пісалі «ў стол», бо спадзяваліся, што іх «крамольны» твор можа апынуцца «там». Успомніце гісторыю з першым выданнем рамана Пастэрнака «Доктар Жывага» ці «антысавецкіх» кніг Салжаніцына. Папрокі маладзейшых, што маё і старэйшае пакаленні хварэлі канфармізмам, слушныя, але занадта максімалісцкія. Абвінавачваць нас у тым, што мы атрымлівалі бясплатныя кватэры за «добрыя паводзіны», не зусім карэктна. Каб набыць жыллёвую плошчу, майму пакаленню яшчэ як хапала «блуканняў па пакутах». Дарэчы, мне так і не далі кватэры ў Мінску, хоць і пісаў заяву у Літфонд з просьбай выдзеліць «квадратныя метры»... А ведаеце, што я вам скажу: калі б нашы маладзейшыя крытыкі апынуліся ў «тым» часе, яны б вялі сябе аналагічна. Адна ў нас ментальнасць, нашы смялейшыя калегі не ўпалі з планеты Уран, яны раслі на той жа самай беларускай зямельцы. З другога боку, не магу пагадзіцца з тым, што мы не сыгралі станоўчую ролю ў абароне праўды, чалавечнасці, у абуджэнні нацыянальнай самасвядомасці. Беларускія пісьменнікі ў 60—70-я гады былі тым культурным асяродкам, які аказваў значнае супраціўленне таталітарызму, уплываючы пэўным чынам на грамадскі тонус. Іншая справа, што мы, ратуючыся ад відушчага вока цэнзуры, усяляк пашыраючы і паглыбляючы вобразную структуру радка, не змаглі дабіцца поўнай творчай самарэалізацыі. І гэта наша драма.

А што тычыцца іншых жанраў, то тут я саграшыў двойчы. На маім рахунку адна надрукаваная рэцэнзія і некалькі апавяданняў, дасланых у «Маладосць» паважанаму мной Вечаславу Адамчыку, які спачувальна аднёсся да маіх марных патуг стаць празаікам, сказаўшы, што апавяданні трохі недацягваюць да часопіснага ўзроўню, і параіў далей штурмаваць гэты слынны жанр. Вось і ўсе спробы вырвацца з абдымкаў паэзіі. Не, проза не для мяне. Нечага не хапае для гэтага ў натуры — грунтоўнасці, любові да матэрыяльнай фактуры жыцця ці чаго іншага... Можа, не тая біяграфія, зашмат душэўных надломаў... Я рэфлексійны, больш прыслухоўваюся не да таго, што навокал, а што ўнутры мяне, а такі тып характару больш стасуецца да паэзіі.

Сфера маіх жыццёвых інтарэсаў?

Пра свае жыццёвыя інтарэсы я ўжо, здаецца, сёе-тое гаварыў. Як і ў іншых людзей, яны самыя розныя, і ці ёсць патрэба іх пералічваць на газетнай плошчы? Яны мяняюцца, як і само жыццё. Акрамя паэзіі, мяне сур'ёзна цікавіць рэлігія (я каталік па веравызнанні). У ранг хобі магу аднесці сваё нязменнае захапленне прыродай, пастаянны кантакт з ёй. Яна падлітвае мяне ў самыя неспрыяльныя хвіліны — фізічна, маральна, духоўна. На маю думку, у прыродзе існуе і гармонія, і мараль, і духоўнасць. Наша чалавечая культура — толькі дэфармаваная копія культуры, якая была і ёсць у прыродзе.

На заключэнне зноў хачу нагадаць паэзію. Яна мне ўяўляецца тым алтаром, куды, як і да алтара хрысціянскага, прыходзілі і будуць прыходзіць людзі. Не ведаю, можа, зараз там гарыць толькі адна ахвярная лампадка, але я ўпэўнены, што праз колькі часу алтар беларускай паэзіі заззяе нашмат ярчэй, чым сёння, — я веру ў шматлікіх прыхільнікаў яго агню.

## У «БІБЛІЯТЭЦЫ ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ»

з'явілася сямідзесятая па ліку кніжка. Ёй стаў зборнік вершаў Кастуся Цыбульскага «Ноч маладзіка». Малады паэт закончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, жыве ў Слуцку, працуе інспектарам па справах непаўналетніх пры Слуцкім ГРАУС. Лірыка К. Цыбульскага, як гаворыць у прадмове «Шчаслівай хады» Казімір Камейша, «шчырая, заземленая і некрыклівая». І на самай справе, прыхільнік пісьма традыцыйнага, К. Цыбульскі проста і задушэўна расказвае пра тое, што хвалюе і непакоіць.

## СВЯТАР І ПАЭТ

Імя паэта Андрэя Зязюлі малавядома грамадскасці Беларусі. А між тым адметны ён не толькі сваім паэтычным голасам. Ксёндз Аляксандр Астрамовіч быў у ліку тых, хто стаяў ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці, растаптанай бальшавікамі ў 1918 годзе, хто сваімі вершамі і малітвамі будзіў нацыянальную свядомасць.

Ён пражыў усяго 42 гады. Апошнія — у Сянно. Тут, у мясцовым касцёле, ён вёў набажэнствы, тут пісаў вершы, тут знайшла спачын яго душа.

Дакладна месца пахавання айца Аляксандра пакуль не ўстаноўлена. Па некаторых звестках прах яго пакоіцца на мясцовых могілках. Не выключана, што пахаванне адбылося на дзядзінцы касцёла, разбуранага ў 1962 годзе.

Так, няшмат ведаюць аб гэтым чалавеку сенненцы. Толькі ў апошнія гады высілкамі мясцовага краязнаўцы В. Бандарэвіча ўдалося сабраць які-ніякі матэрыял аб жыцці і творчасці паэта і святара. У прыватнасці, набыта факсімільнае выданне аднаго са зборнікаў Андрэя Зязюлі «З роднага загону», выдадзенага ў 1931 годзе ў Вільні да дзесятых угодкаў смерці паэта. Кніжка пабачыла свет на сродкі мінскай каталіцкай грамады.

У сенненскай раённай газеце змяшчаўся шэраг вершаў, якія ў свой час друкаваліся ў беларускіх часопісах «Шлях моладзі», «Наша Ніва», «Беларусь». Нядаўна ўдалося звязацца і абмяняцца матэрыяламі з Э. Корзунам. Ён выкладае гісторыю ў сярэдняй школе Гальшан і таксама збірае матэрыялы пра земляка. Копія прыходскага спісу Гальшанскага рымска-каталіцкага за 1884 год, дасланая Корзунам, на 53 старонцы сведчыць: «д. Новосяды, двор N 821. Стэфан Астрамович, 31 год, жена Анна из Михалевичей, 30 лет, дети Александр, 4 лет, Иосиф, 2 года, Зофья, 6 лет».

Зыходзячы з гэтага запісу, няцяжка падлічыць, што Аляксандр Астрамовіч нарадзіўся ў 1880 годзе, у той час, як афіцыйна ўсюды даецца 1878 год нараджэння. Магчыма, у спісе дапушчана памылка? Як бы там ні было, такі факт дакументальна занатаваны.

Але, бадай што, самым цікавым экспанатам у калекцыі дакументаў В. Бандарэвіча з'яўляецца копія фотаздымка Андрэя Зязюлі. Здымак быў зроблены ў Вільні, год — невядомы. Арыгінал захоўваецца ў фондзе неразабраных фотаздымкаў Мінскага архіва літаратуры і мастацтва, куды ён трапіў з архіва Віленскага беларускага музея Луцкевіча. На зваротным баку маецца надпіс: «Кс. Астрамовічъ». Хутчэй за ўсё, у перыядычным друку здымак не друкаваўся.

**Аляксандр ЛАЗЮК,**
супрацоўнік раённай газеты
*г. Сянно*

## А З П'ЕСАМІ... ЗАВОЗНА

І не дзе-небудзь, а ў рэдакцыі часопіса «Тэатральная Беларусь». І гэта нягледзячы на тое, што ў кожным нумары гэтага выдання друкуецца адзін, два, а то і тры творы. Больш таго: рэдакцыя «ТБ» выйшла з прапановай рыхтаваць і выдаваць рэпертуарныя зборнікі драматургіі. Гэтую прапанову ўхвалілі ў рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі колішняга Міністэрства культуры, яно узяло на сябе выдаткі. І вось першы выпуск зборніка «Беларуская драматургія» пабачыў свет у выдавецтве «Навука і тэхніка».

Адкрываецца кніга прадмовай галоўнага рэдактара «Тэатральнай Беларусі» А. Сабалеўскага «Так яно пачало дзеецца...». Асноўны раздзел — «П'есы сучасных аўтараў». Друкуюцца «Дагарэла свечачка» А. Петрашкевіча, «Пеўчая сорак першага года» Г. Марчука, «Улюбёнцы лёсу» А. Паповай (пераклад на беларускую мову Р. Баравіковай), «Хохлік» С. Кавалёва. У раздзеле «Творы са спадчыны» — камедыя Ф. Аляхновіча «Пан міністр».

На падыходзе — другі выпуск «Беларускай драматургіі». У ім мяркуецца змясціць новыя творы М. Матукоўскага, А. Дударава, А. Махнача, Г. Марчука, а таксама маладых драматургаў.

Паэзія

**Уладзімір СКАРЫНКІН**



## БО ВЫСПЕЛА ДУША

*Сыну АНДРЭЮ*

Ніякі вузел я сякерай
Ужо, відаць, не рассяку,
Хоць і жыву дагэтуль з верай,
Што ўсё асілю на вяку.

Хацеў знайсці на ўсё адказы,
Але ўсвядоміў,
што грашу.
Сусветнай злосці метастазы
Памілуюць маю душу.

Аднак у храм Гасподні ўшэсце,
Хоць і хачу,
не здзейсню я,
Таму што зразумеў,
нарэшце,
што вера ў кожнага —
свая.

Я слухаць перастаў папрокі,
Зважаць на ўласную тугу.
Не набіваюся ў прарокі,
Быць бессмяротным не магу.

І боль,
што ранай незагойнай
Душу вярэдзіў,
змог суняць,
Бо выспела душа спакойна
Наканаванае прыняць.

## МЯНЕ НЯБЁСЫ ПРЫМУШАЮЦЬ

*Міколу АЎРАМЧЫКУ*

Зацягнуць успаміны,
як віры,
І зноўку сэрца захлынецца болем...
Жылі з Грачанікавым Анатолем
Мы некалі ў адным двары.

І бачыў я не раз,
як дацямна —
Задумлівы,
маўклівы і натхнёны —
На арабінкі сумныя і клёны
Глядзеў ён са свайго акна.

А Ваш і мой някідкія дамы
Стаялі на канцах дыяганалі
Вайсковага кладзішча,
дзе ганялі
Не сок і не гарбату мы.

У спёку невыносную і ў золь,
Апоўдні і вячэрняю парою
На могілкі з чырвонаю царквою
Любіў прыходзіць Анатоль.

Нябёсаў надакучлівы прымус
Яго душа заўсёды адчувала
Пайсці туды,
дзе Колас і Купала,
Або туды,
дзе спачывае Трус...

На змізарнелы і няўтульны свет
Паглядвае з мемарыяльнай дошкі
Задумліва і асуджальна трошкі
Навек сусцішаны паэт.

У сцюжу невыносную і ў золь,
Калі вятры абсяг агалашаюць,
Мяне цяпер нябёсы прымушаюць
Пайсці туды,
дзе Анатоль...

## ЛЯ КРЫНІЦ ХРЫСЦІЯНСКАЙ РУСІ

Стаяць маўкліва ўздоўж ракі
Высакавольтныя апоры.
Нібыта віцязі ў дазоры,
Глядзяць удалеч з-пад рукі.

Аберагаюць мой спакой,
Прэч гоняць горкія ўспаміны.
Я ў самым цэнтры Украіны,
Да Кіева падаць рукой.

Паклонам нізкім —
да зямлі —
Я волатаў аддзячу зоркіх.
На жаль,
ад успамінаў горкіх
Яны мяне не ўберaглі.

Свае паганскія мячы
Тут у крыві мачылі продкі.
Тут набівалі прагна глоткі
Людскою плоццю крумкачы.

І побліз гэтага сяла,
Што ззяе белізною хатак,
З крыніц крывавых свой пачатак
Русь хрысціянская ўзяла.

## ВЯДУЦЬ РАДАВОД УКРАІНКІ

*Ганне ЧУБАЧ*

Вядуць радавод украінкі
Ад зорных каляднных начэй.
Прапаляць,
што хочаш,
іскрынкі.
Што з іх вылятаюць вачэй.

Хоць іншая зараз эпоха
І звычкі не тыя, але
З іх кожная, мабыць, Салоха
І ўмее лятаць на мятле.

Магчыма, і мне падміргнула б
Адна з чарнабровых салох,
Калі б асядлаць,
як Вакула,
Я чорта рагатага мог.

## ЕДУ НА КАНІ Я ПА ПРАСЁЛКУ

Не відаць больш роднага прасёлка...
Мой стары разбіты панарад
Коціцца наперад нетаропка,
А ўспаміны коцяцца назад.

Ярка ззяе афарбоўкай новай
Дзіўны час,
які даўно мінуў...
Вось такою ж раніцай вясновай
Грымнуў гром —
і дождж сек секануў.

Дождж улёгся —
запаліў вясёлку
Над зямлёю гаспадар нябёс.
Я з айчымам еду па прасёлку,
Звесіў ногі босыя з калёс.

Да ракі імкнуцца ручаіны,
Пахне луг травою маладой.
Жаўранак спявае,
каліны
Дажджавой напоўнены вадой.

У айчыма клопатаў багата.
Як-ніяк —
ён гаспадар зямлі.
А ў мяне, хлапца, сягоння свята,
Гнёзды ў сэрцы салаўі звілі.

А ў мяне, хлапца, адзіны клопат —
Назіраць,
як веселае сад,
Як ваду ўгару ўздымае вобад,
А яна ўсё коціцца назад.

## НЕ ШКАДУЙ ТЫ ЛІСЦЕ

*Не шкадуй ты лісце, не шкадуй*
*Мікалай РУБЦОЎ*

Дзьмухнуў сівер —
люты і суровы.
Стала больш у свеце чарнаты.
Адубелыя
дубы
дубровы
Скінулі на дол свае лісты.

Не шкадуй ты лісце беспадстаўна,
А спыніся лепш —
і памаўчы,
Бо лісты апалыя нядаўна
Гаманілі з зорамі ўначы.

Проза

*Мы верылі ў талент,*
*Як вераць у Бога...*
*З верша.*

*— Ненавіджу гэты горад і сябе за тое, што жыву тут. Мне гідка выходзіць на вуліцу, некуды ісці, гідка ехаць у аўтобусе, чуць галасы, дыхаць гэтым смуродам... — спавядалася знаёмая.*

*А я пазіраў у вакно і спрабаваў адшукаць хоць кроплю нянавісці да горада, да людзей, да аўтобуса, прапахлага бензінам і дажджом.*

*— З'еду пры першай магчымасці... Нават успамінаць забараню сабе гэты Менск... — кінула на развітанне знаёмая і выйшла на сваім прыпынку.*

*Аўтобус каціўся па праспекце, а ў мяне з'явілася жаданне выцягнуць з кішэні новы нататнік і закрэсліць прозвішча і тэлефон той жанчыны.*

*З нататніка*

Будынак інтэрната архітэктурнага тэхнікума, дзе мастацкая вучэльня арандавала палову чацвёртага паверха, выглядаў значна. Вышэзны шурпаты цокаль, шырокія карнізы, пілястры з капітэлямі, груваста-ўрачыстыя партал, упрыгожаны ампірнай геральдыкай, вялікія філянговыя дзверы з бліскучымі бронзавымі ручкамі рабілі інтэрнат больш падобным да афіцыйнай установы, чым да часовага жытла навучэнцаў з розных куткоў Беларусі ды іншых рэспублік.

Калі знешні выгляд уражваў сваёй урачыстасцю, то нетры здзіўлялі занядбанасцю і недагледжанасцю...

Пакой, у якім мы жылі ўчатырох, быў пры канцы доўгага і цёмнага, як цягнік-таварняк, калідора. Вакно глядзела ў засмечаны і маўклівы двор. Сонца трапляла да нас ранiцай, і яго промні клаліся на сцяну і ложак Толіка Віраб'я. Хоць сонца і грэла паўгадзіны плечы майго суседа і сцяну, яно не магло высушыць вялізную, як геаграфічная мапа, пляму вільгаці.

Вечарамі мы любілі адзначаць змены, якія адбываліся на сцяне, абводзілі алоўкам, нажом ці цвіком няпэўныя абрысы цвілі і гэткім чынам паступова ўдасканальвалі сцэнапіс вільгаці і сонца на зліняла-жаўтлявай тынкоўцы.

Блыталіся, перакрыжоўваліся, узнікалі, губляліся і суіснавалі на шурпатай плоскасці профілі і фасы, пачвары і прыгажуні, кажаны і кветкі, краявіды і літары... Гэта была карціна, якая мянялася разам з надвор'ем і святлом, разам з настроем жыхароў пакоя.

Калі нас абакралі, у Толіка Віраб'я не ўзялі нічога, бо нічога вартага ўвагі злодзеяў у яго не было. Толік не меў нават чамадана, а ўся яго маёмасць месцілася ў невялікім брызентавым пляцаку, зашморгнутым кавалкам растрапанага шпагату. Худы пляцак развязалі, але так і кінулі на непрыбраны ложак гаспадара...

Першымі ў той вечар вярнуліся з вучэльні ў пакой я і Генусь Чаховіч. Шчоўкнуў выключальнік, высока пад столлю ўспыхнула моцная лямпачка — мы знерухомелі на парозе...

Шкапчыкі, чамаданы, шуфлядкі, начынне чамаданаў было параскіданае на падлозе, крэслах, на стале сярод бруднага посуду. Мы хадзілі сярод пакамечанага адзення, разгорнутых кніжак, раскіданых сшыткаў... Рухаліся асцярожна, баяліся скрануць што-небудзь з месца.

— Што тут было? — спытаў Генусь, прысеў і зазірнуў у свой шкапчык. — Мае альбомы...

— Нас абакралі, — вымавіў я і прычыніў дзверы.

— Відаць, нешта шукалі.

— Цікава, знайшлі ці не?

— Хто выходзіў апошнім? Хто не зачыніў дзверы?

— Ты ж сам іх адчыніў... — заўважыў я і пачаў збіраць свае рэчы.

Калі вярнуўся Хведар Грымко, я і Генусь сядзелі перад сваімі чамаданамі і спрабавалі падлічыць, што ж знікла.

Хведар Грымко адразу кінуўся да свайго вялікага, з металічнымі вугалкамі і бліскучымі зашчапкамі чамадана. Ён хутка перабраў яго начынне, а потым спалохана і панура апусціўся на ложак. Панцырная сетка завішчэла і прагнулася да падлогі. Хведар падхапіўся, стаў на каленкі, зазірнуў пад ложак, потым у шафу, потым пад падушку. Ён хваляваўся, наш маленькі чарнявы Хве-

Уладзімір СЦЯПАН

# БОЖАЯ ІСКРА

КАРОТКАЯ АПОВЕСЦЬ



дар, нервова цёр кулаком шчаку, нешта мармытаў і лаяўся.

Мы з Генусем супакоіліся і цяпер моўчкі назіралі за суседам.

— Калі я сыходзіў на заняткі. Толік яшчэ спаў... Я ж хацеў узяць фотаапарат, але рукі былі занятыя. — Хведар паглядзеў на растапыраныя пальцы-каўбаскі.

Вільготна-карычневыя вочкі Хведара мітусліва бегалі, абмацвалі аскетычны інтэр'ер.

— Я і шапку збіраўся надзець, але паглядзеў — сонца... Навюткая шапка, палову зімы адхадзіў, і на табе... — Хведар падняў века чамадана і пачаў парадкаваць сваю маёмасць.

Ён складаў кашулі, выкалочваў пыл, разглядаў брудныя каўняры, падняў спартовыя нагавіцы з адвіслымі каленямі, якія ляжалі на сметніцы. Потым параспіхваў па шуфлядах падручнікі і канспекты, і ўвесь час нешта шукаў і не знаходзіў... Нарэшце закрыў чамадан, зашчапіў замочкі, а маленькі ключык схаваў у кішэню.

Мы доўга не садзіліся вячэраць, абмяркоўвалі здарэнне, спрабавалі здагадацца, хто ж злодзей. Было відаць, што кожны думаў і падазраваў Толіка Віраб'я, але вымавіць яго імя не адважваліся, бо Толік быў дыпломнік, а мы толькі першакурснікі.

Першым падняўся Хведар. Ён схадзіў на кухню, памыў посуд, нагрэў чайнік, раскроіў сала, нарэзаў хлеба і выцягнуў з шафы распачаты трохлітровы слоікварэння, якое пачало «хадзіць», а калі яго зачэрпвалі — сіпела і варушылася, як патрывожаная багна. Хведар аблупіў некалькі цыбулін. На яго вачах заблішчэлі слёзы, а твар зрабіўся пакрыўджаным і дзіцячым.

Толік Вірабей прыйшоў з майстэрні, калі мы павячэралі. Перапыняючы, блытана і нервова кожны з нас паспрабаваў пераказаць сумную падзею. Толік сцепануў худымі плячамі, агледзеў пакой, хмыкнуў, зняў са свайго ложка пляцак, зашморгнуў і нагой запхнуў пад ложак. Потым ён стомлена сеў да стала, наліў кубак кіпеню, накідаў варэння і пачаў грэць брудныя ад графіту і фарбы далоні.

— Нікуды заяўляць не трэба і казаць нікому не варта... Міліцыя зацягае. Давядзецца пісаць тлумачальныя, складаць пратаколы, хадзіць на допыты і ўвогуле гэта толькі змарнаваць час. Міліцыя тут не дапаможа, а час будзе страчаны. Трэба займацца мастацтвам і не думаць пра шмоткі.

Пасля сваёй нечакана доўгай прамовы ён пачаў хутка і з апетытам есці ёлкае жаўтлявае сала і хрубасцець цыбуляй. Ён еў і пазіраў на пляму цвілі, жмурыў вочы, нахіляў галаву то ў адзін, то ў другі бок. На худой доўгай шыі хутка хадзіў востры кадык.

Дзіўна, але маленькі Хведар таксама выказаўся супраць міліцыі. Ён цьмяна і блытана пачаў тлумачыць:

— Бог з імі, фотаапаратам і шапкай, усе адно не знойдуць, а клопату не абярэшся... Грошы ж не знайшлі...

Мне яго тлумачэнні падаліся падазронымі. Толькі потым ён выказаў слушную думку, але і яна прагучала неяк не зусім цвёрда.

— Трэба, можа, набыць новы замок і ўрэзаць.

Я і Генусь з такой прапановай пагадзіліся.

А Толік скептычна паглядзеў на Хведара, выцер брудным ручніком рукі і сказаў:

— А мне ніякай розніцы, будзе новы замок ці застанецца стары... Грошы на яго я даваць не збіраюся... Трэба думаць адно пра мастацтва, а не пра нейкія шмоткі... Я не напісаў яшчэ такую карціну, якую трэба захоўваць за замкамі... А вы тым больш...

Толік хутка распрануўся, залез пад коўдру і павярнуўся да сцяны.

Дзіўна, але дзве кніжкі Толіка Віраб'я, а іх у яго і было толькі дзве — абтрапаная пластычная анатомія і зашмальцаваныя «малюнкі старых майстроў» — не ўзялі, яны засталіся ляжаць на падваконні. Прынамсі, я лічыў тыя кніжкі самымі каштоўнымі, бо штодня Толік уважліва разглядаў малюнкі, моршчыў лоб, крывіў тонкія бяскроўныя вусны і на кавалках шчыльнай абгортачнай паперы рабіў накіды ці праз шаматкую празрыстую кальку нешта перамалёўваў... Калі б злодзеем быў я, то абавязкова знёс бы гэтыя кніжкі, бо наіўна верыў, што з іх дапамогай змагу стаць геніяльным мастаком. На меншае я тады быў нязгодны.

Мы яшчэ доўга сядзелі б на ложках, каб з калідора не пачуліся лаянка і тупат. Гэта было б звыклым, калі б пасля імгненняў цішыні інтэрнат не здрыгануўся ад жахлівага крыку.

У самым канцы вузкага і доўгага, як шахта, калідора, які ўпіраўся ў дзверы пакоя дыпломнікаў, курчыўся хлопец у белай спартовай майцы. Пад яго далонямі, на белай тканіне, расплывалася цёмная пляма. Каля нашых дзвярэй ляжаў паўчаравік з абрэзаным заднікам. Другі паўчаравік быў на назе хлопца, які павольна асядаў на падлогу.

Усе, хто выскачыў на калідор, як загіпнатызаваныя не краналіся з месца.

Нарэшце хлопец сеў на брудную падлогу, а потым павольна паваліўся на бок. Ён спрабаваў падняцца, хапаўся за дзвярную ручку, пэцкаў крывёй сцяну, а потым ізноў прыціскаў далоні да жывата і глядзеў вялікімі круглымі вачамі ў столь, на жоўтую лямпачку.

А другі хлопец шалёна круціўся на месцы, размахваў доўгім нажом, лязо якога было бліскучым і сухім. Яго вялікі рот адкрываўся, і хлопец, як рыба, хапаў паветра.

— Ёд! Ёд! — раптам закрычаў ён. — Дайце хто-небудзь ёд! Я вас апошні раз прашу! Прынясіце! Дайце!

Прысутныя спалохана маўчалі, баяліся скрануцца і зрабіць крок.

А хлопец кідаўся ад сцяны да сцяны, стагнаў, размахваў нажом і крычаў, каб ніхто не набліжаўся да яго сябра.

Басанож, у сіняй падранай майцы і чорных плаўках, худы і ўскудлачаны, зусім з выгляду дробненькі, рассунуў прысутных і спакойна пайшоў на хлопца з нажом Толік Вірабей.

— Дай! — амаль шэптам загадаў Толік. — Не дуры, мужык, дай нож!

Хлопец паслухаўся, войкнуў і пакорліва аддаў нож, а Толік нетаропка ўзяў, павярнуўся і пайшоў.

Толікаў твар, пабіты воспай, быў белы, як перапэцканы крэйдай, а можа, гэта так падалося, бо асвятленне рабіла ўсё халаднейшым і нежывым. Толік з нажом, прыціснутым да жывата, ішоў вельмі ціха, ступаў асцярожна, нібыта нёс перад сабой кубак з кіпенем, а калі мы расступіліся — пачулі сухі шчаўчок замка.

Хлопца звязалі па руках і нагах ручнікамі...

Ён курчыўся ў куце, яго ванітавала проста на грудзі і ногі. Прысутныя гідліва адварочваліся, а хлопец выкрыкваў, енчыў, лаяўся і спрабаваў тлумачыць, што мае медыцынскую даведку, і яму нічога не будзе, а калі што, дык дзядзька Міхась яго ўратуе ад пакарання.

Міліцыя і «хуткая» прыехалі амаль адначасова.

Парэзанага паклалі на доўгія насілкі і подбегам панеслі. Маладая доктарка бегла побач, прытрымлівала хлопцаву акрываўленую руку і незадаволена хітала галавой.

У нас была магчымасць расказаць міліцыі пра тое, што нас абакралі, але нешта стрымала. Лейтэнант забраў нож, загарнуў яго ў пластыкавы пакет і перадаў мажному сяржанту. Яны запісалі прозвішча Толіка, а разам і нашы. На Толіка чырванатвары ўспатнелы сяржант паглядзеў са здзіўленнем, бо наш сусед нават не падняўся з ложка.

А калі Хведар замкнуў дзверы, Толік сумна заўважыў, што калі б дыпломнікі не перапіліся і адчынілі свае дзверы, хлопца, магчыма, і не парэзалі б... Падумаў і дадаў, што дзверы зачыняць не варта.

Потым Толік узяў з падваконня кніжку, пагладзеў некалькі малюнкаў, павярнуўся да сцяны і заснуў.

А мне не спалася. Ложак здаваўся мулкім і цесным. Перад вачамі з'яўляліся то лязо нажа, то паўчаравік з абрэзаным заднікам, то лямпачка над звязаным белымі ручнікамі хлопцам...

Сярод ночы я прахапіўся. Толік Вірабей пераміналўся з нагі на нагу на халоднай падлозе і еў сала з хлебам. На гадзінніку была палова на чацвёртую.

— Нешта есці захацеў, — сказаў ён нейкім занадта будзённым голасам, быццам прачынаецца кожную ноч, каб падсілкавацца.

Я ўзяў чайнік і з носіка пачаў смактаць нясмачную рудую ваду.

Толік сеў на ложак, выцягнуў з-пад яго брызентавы пляцак. З майго ложка было відаць, як ён корпаецца ў ім. Яшчэ я бачыў худыя Толікавы ногі, брудныя шкарпэткі, пыл, паламаны эцюднік у накарэлай фарбе і стаптаныя чаравікі. Яны былі такія стаптаныя і старыя, што нават у сметніках побач з абутковымі крамамі пакінуць іх у новай кардонцы было б сорамна.

Вірабей басанож пратупаў праз увесь пакой. Я зрабіў выгляд, што сплю. Шчоўкнуў выключальнік, і яркая лямпачка згасла. Я расплюшчыў вочы. Колькі імгненняў пад столлю чырванела нітка накальвання, падобная да літары «М», але цемра сцерла і гэты знак.

На раніцу, калі мы падняліся, Толіка не было. Каля стала стаяў завязаны пляцак. Ложак, як заўжды, быў непрыбраным.

У вучэльні цэлы дзень гаварылі адно пра забойства ў інтэрнаце. Мы хадзілі героямі і былі ў цэнтры ўвагі. Нават хлопцы са старэйшых курсаў і выкладчыкі падыходзілі і распытвалі. Я з задавальненнем расказваў, бо быў сведкам амаль усёй падзеі.

Дыпломнікі, якія не адчынілі дзверы, даводзілі, што бойка пачалася з-за дзяўчыны, якую запрасіў адзін, а перапаў з ёй другі, бо той, які запрасіў, спаў п'яны на суседнім ложку, а потым прачнуўся...

Казалі, што сварка ўсчалася пра тое, што адзін змаляваў у другога цікавы праект і выставіў на нейкі конкурс. Прыдумаў ідэю той, які бегаў з нажом, а змаляваў парэзаны. Шкадавалі аўтара праекта, спачувалі і падкрэслівалі, што ён вельмі таленавіты...

Казалі, што хлопцы былі стрыечнымі братамі і не падзялілі грошы, заробленыя на нейкай хаўтуры...

А яшчэ былі чуткі, што той, з нажом, — сапраўды беларус, а другі аднекуль з Казані і з нашага здзекаваўся. Даводзілі, што наш правільна зрабіў, шкадавалі і абзывалі дурнем...

Хлопец, якому аднакурснік прапароў бок, праз месяц вярнуўся з бальніцы і быў самым славутым чалавекам у інтэрнаце. Кожнаму, хто жадаў, ён паказваў з задавальненнем левы бок з доўгім чырвоным шнарам...

Другога завезлі ў вар'ятню, дзе і сапраўды высветлілася, што ён хворы.

Каменданта, высокага п'яніцу з азызлым тварам, звольнілі з працы, што прыемна здзівіла ўсіх жыхароў інтэрната.

Пасля заняткаў, на апошнія грошы, Генусь набыў самы танны замок, і мы адразу яго ўрэзалі.

Цяпер на кожнага быў свой ключ. А стары я занёс і павесіў у зашклёную скрыню побач з вахцёркай.

«Няхай прыходзяць з праверкамі, калі ім так цікава, як мы жывём», — падумаў я і задаволены вярнуўся ў пакой.

Генусь сядзеў на ложку і маляваў. Я добра памятаю яго кампазіцыю — шызую, празрыстую і выразную. Па рыштаваннях, з вялізным мехам на спіне, крочыць змрочны грузчык. На мяху літары «Г. Ч.» і лічба 7591. Генусь намаляваў свае ініцыялы і год нараджэння. Пад нагамі грузчыка быў пахмурны гарадскі краявід. Лілова-чорныя коміны выдыхвалі шэры дым, і ён закручваўся, звіваўся ў незразумелыя фігуры. Дым нагадваў таемную карціну цвілі над ложкам Толіка Віраб'я.

Генусь быў на паўтара года старэйшы за мяне. Засяроджаны, немітуслівы, фанатычна адданы мастацтву. Ён любіў спакой і добрыя кніжкі. Альбомы па мастацтве, якія ўкралі, былі яго. Ён аддаў за іх некалькі стыпендый і вельмі ганарыўся, калі каму паказваў. Часам паводзіны Генуся мне падаваліся дзіўнымі і невытлумачальнымі. Ён, напрыклад, крыўдаваў, калі я распытваў пра маці, не любіў, калі яго хвалілі.

Мы моўчкі займаліся сваімі справамі, калі ў пакой заскочыў Іван Булат — аднакурснік Толіка Віраб'я. У яго на шыі вісеў доўгі вышываны ручнік. На барадатым твары паблісквалі тоўстымі шкельцамі акуляры.

— Пайшлі мыцца, мне аднаму сумна, — загадаў Іван і пытальна паглядзеў на нас.

— Мы занятыя, — адказаў я.

— Кідайце ўсё гэта, бо мастацтва нікому не трэба. Грошы, вось што мае сэнс! Грошы і жанчыны! — ён пагладзіў шыкоўную рудую бараду.

У парозе Іван прыпыніўся і сказаў, што на нас кепска ўплывае Толік Вірабей.

— Ён вар'ят, паверце, я ў гэтым разбіраюся. У яго паехаў дах, і ён лічыць сябе геніем... Не мыецца, не паліць, не п'е, з жанчынамі не спіць — вар'ят... І вы будзеце такімі ж... Прыдуркі, — бяскрыўдна кінуў ён і ляпнуў дзвярамі.

Нас яго словы не ўразілі, бо мы і на самай справе лічылі Толіка геніем, сапраўдным мастаком і шмат у чым пераймалі яго паводзіны.

Праз чвэрць гадзіны, са страшэннай лаянкай, амаль голы, у пакой уляцеў Іван Булат. Яго твар быў заліты крывёй, барада зліплася. Ён лыпаў блакітнымі блізарукімі вачамі, прыкладаў да твара мокры ручнік і разрублена азіраўся.

Калі кроў сунялася, Іван супакоіўся і расказаў пра сваю прыгоду.

Ён сышоў у сутарэнне, дзе месціўся душ, распрануўся, схаваў у кішэнь нагавіцаў акуляры і з распраналкі падаўся ў душ. У душы было парна, і Іван навобмацак зайшоў у першую кабіну. Там закрычалі, адштурхнулі, і давялося ісці далей.

Лямантавалі перапалоханыя дзяўчаты. Падслепаваты Іван пачаў нешта тлумачыць, прасіць прабачэння, але яму не далі дагаварыць — стукнулі па галаве металічнай шайкай...

Мы шкадавалі, смяяліся, суцяшалі, бо дыпломнік з суседняга пакоя ставіўся да першакурснікаў без пагарды, паблажліва і стрымана...

(Працяг на стар. 10-11)

ЛіМ ЧАСАПІС

## ЁСЦЬ БЕЛАРУСКІ БАЛЕТНЫ ЧАСОПІС

**І называецца ён — «Веснік», а выдаецца (пачынаючы са снежня 1993 года) Дзяржаўным харэаграфічным вучылішчам Рэспублікі Беларусь (перыядычнасць — раз у вучэбны квартал). Спачатку было задумана выпусціць зборнік матэрыялаў творчага семінара, што праходзіў на базе вучылішча 15—16 красавіка 1993 года і прысвячаўся адкрыццю новага яго будынка.**

**Але гаворка, што адбылася тады, выйшла за межы першапачатковай павесткі дня — «Праблемы прафесійнага навучання». Тым больш, што ў ёй прынялі ўдзел многія знакамітыя артысты балета, балетазнаўцы з Санкт-Пецярбурга, Масквы, іншых вядомых балетных цэнтраў колішняга Савецкага Саюза.**

**Сама сабой і ўзнікла неабходнасць спецыяльнага часопіса. І яна стала своечасовай, калі ўлічыць, што беларускі балет вядомы ўсім, а нацыянальная балетная школа мае вялікія набыткі, традыцыі, якім не грэшна павучыцца і іншым.**

**Першы нумар «Весніка», пазначаны 1993 годам, з'явіўся ў самым пачатку сёлетняга. «Праз прыгажосць — да згоды!» — стала дэвізам часопіса. Ахоп матэрыялаў — шырокі. Тут — і фрагменты з рукапісу славутай В. Мэй «Яшчэ раз пра азбуку класічнага танца», і артыкул Э. Каралёвай «Балетмайстар. Час. Стыль», і вяртанне ў гісторыю балета — «50-гадовы бенефіс Феліксa Кшэсінскага» Й. Сібільскай. І, безумоўна, большую частку нумара заняла стэнаграма згаданага ўжо семінара «Праблемы прафесійнага навучання».**

**Багаты на публікацыі і другі нумар (студзень — сакавік 1994 года). А. Гасудараў («Нараджэнне балета з духу контррэфармацыі») вяртае да вытокаў гэтага унікальнага віду мастацтва. А. Максаў («Багіня танца») расказвае пра Мары-Мадлен Гімар. Тут жа — умовы конкурсу «Мая-94» у гонар Маі Плісецкай, чыё 50-годдзе творчай дзейнасці адзначалася летась у многіх краінах свету. «Развітваючыся, мы гаварылі «Да пабачэння» — А. Максаў знаёміць з паездкай выхаванцаў Беларускага харэаграфічнага вучылішча ў Шчэцінскую балетную школу...**

**На падыходзе — трэці нумар «Весніка». Дарэчы, тыраж часопіса невялікі, усяго 200 экземпляраў. Мінчане змогуць набыць гэты нумар непасрэдна ў вучылішчы, а каб атрымаць яго накладным плацяжом, неабходна выслаць заяўку на паштоўцы з дакладным указаннем паштовага індэкса, адраса, прозвішча, імя і імя па бацьку: 220092, Рэспубліка Беларусь, Мінск, вул. Прытыцкага, 35. Нумар абыдзецца ў 900 рублёў плюс кошт паштовых выдаткаў.**

## НЯЗВЫКЛАЕ Ў ЗВЫЧАЙНЫМ

**бачыць у характарах сваіх герояў П. Кармунін. Менавіта так называюцца і штрыхі да творчага партрэта знакамітага акцёра, напісаныя Б. Бур'янам, якімі адкрываецца чацвёрты нумар часопіса «Мастацтва». Ж. Лашкевіч дзеліцца ўражаннямі ад двух спектакляў рэжысёра У. Савіцкага («Таксама вінаваты»). У. Конан («Адзіны і шматлікі») гаворыць слова пра З. Пазняка — мастака, даследчыка, палітыка. А. Мацієвіч («Суладна духоўнаму стану») уводзіць у свет вобразаў загінуўшай мастачкі І. Сержанінай. Ёй жа прысвечаны і матэрыял «Свабода — усвядомленая каштоўнасць», падпісаны «Я. Н.». Ю. Піскун («Дарога да роднага дому») запрашае прайсціся заламі, дзе дэманстравалася персанальная выстаўка У. Уродніча. Я. Шунейка («Смілавіцкі настальгізм») знаёміць з мастаком Х. Суціным.**

**Роздум аб станаўленні традыцый міжнародных фестываляў сучаснай музыкі ў Беларусі ў артыкуле Р. Аладавай «Ад Стравінскага да Лыбіна». Ю. Чурко («Харэаграфічны мадэрн заваёўвае рубяжы») падводзіць вынікі Міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі, які летась прайшоў у Віцебску. «Конкурсная мітусня, альбо Які кошт перамогі» — чарговыя раздзелы з нявыдадзенай кнігі па гісторыі музычнага шоў-бізнесу Д. Падбярэзскага. Д. Мароз («Прымножыў славу суседа») падрабязна гаворыць пра дзейнасць славутага сына зямлі беларускай І. Капіевіча.**

## У ДАДАТАК ДА «СПАДЧЫНЫ»

**«Беларускай мінуўшчыны», «Беларускага гістарычнага часопіса» з'явілася яшчэ адно выданне. І не ў стольным Мінску, а ў абласным горадзе — «Магілёўская даўніна». Аб'ём «МД» — больш за сто старонак. І матэрыялы аматараў даўніны не пакінуць абыякавымі. Дастаткова назваць хоць бы два з іх. У. Ліўшыц у артыкуле «Справа N 1065» даследуе абставіны, звязаныя з арыштам і смерцю класіка нацыянальнай літаратуры М. Гарэцкага. Ю. Васілеўскі («Вядомы даследчык Усходняй Беларусі») прасочвае лёс Данілы Васілеўскага — краязнаўцы, гісторыка, публіцыста, педагога.**

Кіно

# Я ПРЫЙШОЎ У РОДНУЮ ВЁСКУ ЧАКАЛАВІЧЫ...

Зняць фільм пра мастака, які быў бы непадобны на звычайнае інтэрв'ю ці тэматычна-сюжэтны ролік (а гаворка пойдзе пра дакументальнае кіно), дужа складана. І каларытная знешняя постаць, і нестандартнасць развbooжанняў творчага чалавека не гарантуюць, што будзе схоплена сутнасць майстра, што на экране застанецца жыццё, а не акцёрская ігра. За мяжой даўно і паспяхова існуе індустрыя фільмаў пра мастацтва. У Мінску праходзіць ужо не першы фестываль такой дакументалістыкі. Жанр, так і названы «фільм пра мастацтва», узнік досыць позна, але ўжо мае сваю гісторыю ўнутры гісторыі дакументальнага кіно, свае шляхі да гледача: учора — кароткаметражкі і кінаклубы, сёння — тэлебачанне і спецыяльныя фестывалі. Па сутнасці, у сусвеце фільмы пра мастацтва даволі хутка адышлі ад умоўных мадэляў дакументальнага кіно і сталі складанымі і эксперыментальнымі. Але, здаецца, мы тут далёка не плагіятары, найперш у знаходжанні ўнутранага вобраза асобы, у стварэнні паэтычных кіназсэ.

Так думалася, калі ішла ў Беларускую акадэмію мастацтваў на прагляд двух невялікіх дакументальных фільмаў пра народнага мастака Беларусі, прафесара Гаўрылу Вашчанку (рэжысёр С. Лук'янчыкаў, студыя «Летапіс»).

«Адлучэнне», фільм першы, звязаў перажыванні мастака з трагедыяй роднай вёскі, з якой гадзіна хады да АЭС. Выяўленчы шэраг — пустэча, вецер, спелыя яблыкі, іржавае калодзежнае вядро, калючы дрот — шэраг апавядальнага жывапісу. Словы мастака, што ідуць цітрамі. І музыка, трывожная, увабраўшая ў сябе цішыню апусцелага месца (аўтар В. Капыцька). Яе рэзкія дысанансныя пераходы нагадалі самому герою фільма крык палескай птушкі ківіка, якой у дзяцінстве палохалі дзяцей. А як скончыліся здымкі, мастак захварэў душою: ці не пабачыў ён радзіму апошні раз? Так нарадзіўся другі фільм — «Смутак». Той, дзе гавораць яго чарнобыльскія работы. І не спатрэбіўся рэжысёру мастацтвазнаўчы аналіз ды бездань слоў-разважанняў. Вобраз склаўся спакваля, без нацяжкі, праз перспектывы, кадры, колеры, вобразы, нязмушаную драматургію «сёмага мастацтва».

Як хацелася б адназначна сказаць, што фільм гэты мае ў нас акрэсленую будучыню. Але не сакрэт, што дасюль дзейнічае старая «апрабаваная» сістэма «закрытай» тэмы, з якой складана прабіцца на экраны нават вядомаму рэжысёру. А Сяргея Лук'янчыкава дастаткова характарызуюць яго больш за пяцьдзесят дакументальных фільмаў, многія з якіх не проста сюжэтныя ролікі, а сапраўдныя маленькія шэдэўры (напрыклад, афганскі цыкл), зробленыя пры поўнай нерэнтабельнасці дакументальнага кіно, зведзенага да ўзроўню аматарскага. Фільмы пра Г. Вашчанку былі скончаны для пракату яшчэ летась. Іх біяграфія толькі пачынаецца, і пачынаецца, на жаль, на элітных замежных фестывалях. Хоць справа тут далёка не ў колькасці гледачоў, так лічыць сам рэжысёр, ды і фільмы здымаліся загадзя не для масавага пракату. Дакументальнае кіно перажывае ў нас складаны час неразумення і занядбання — як матэрыяльнага, так і грамадскага. І тое, што ўсё-такі з'яўляецца някасавае кіно — раскоша ўладкаванай нацыі, — толькі даказвае, што і ў нас дакументалістыка пачынае ўсведамляць сябе мастацтвам.

**Н. ШАРАНГОВІЧ**





*На здымку: кадры з фільма «Адлучэнне».*

# БОЖАЯ ІСКРА

*(Пачатак на стар. 8-9)*

Яму не пашанцавала — пераблытаў жаночыя і мужчынскія дні. Мы завязалі яму лоб ручніком, а ён працягваў тлумачыць:

— Ведаеце, я адразу адчуў, што нешта не тое, там віселі махровыя халаты... Але я падумаў, што гэта мыюцца негры з другога паверха...

Неграў у інтэрнаце не любілі.

— І вось праз іх мне ледзь не раскалолі краніўм!

— Што? — перапытаў я.

— Краніўм — ёсць чэрап! — Іван прыклаў палец да скроні.

У вучэльні мяне пераконвалі — мастак абавязкова павінен ведаць анатомію. Толькі той, хто дасканала будзе яе ведаць, зможа зрабіцца сапраўдным мастаком. Выкладчыкі прыводзілі прыклады — доўгія спісы гучных імёнаў, назовы твораў... Яны казалі, што без ведання костак, сухажылляў, скуры сапраўдных твораў не зрабіць.

Цяпер я ўпэўнены ў адваротным. Лацінскія найменні захаваліся ў памяці адно як гучныя словы: краніўм, атлант, мадзібуля, супінацыя, пранацыя... Я разумею, што мастацтва і навука не заўсёды ідуць поруч. Найчасцей яны абвяргаюць і спрачаюцца між сабой. Я магу прывесці доўгі спіс імёнаў мастакоў, якія анатоміі не ведалі і нават не імкнуліся, але іх творы мяне ўражваюць.

Яшчэ, каб давесці слушнасць сваіх разваг, настаўнікі параўноўвалі веданне анатоміі з веданнем граматыкі для пісьменнага чалавека.

Цяпер я разумею глупства, схаванае ў такім параўнанні, а тады...

А тады я ўзяў рыдлёўку ды й рушыў на старыя яўрэйскія могілкі, каб выкапаць чэрап і па ім вывучаць анатомію чалавека... Тых могілак цяпер няма, а тыя, каму сёння гадоў па дваццаць, і не ведаюць, што за Юбілейным пляцам раслі старыя дрэвы, а пад імі ляжалі шэрыя камяні ў разматіых надпісах.

Архітэктары выпраўлялі шкілет горада, спрамлялі крывыя вуліцы і знішчылі могілкі. Горад, зразумела, змяніўся пасля такой хірургічнай аперацыі, але я не ўпэўнены, што хоць на каліва ён зрабіўся прыгажэйшым...

А чэрап я выкапаў і па ім вучыўся маляваць...

Калі Іван Булат пайшоў, у Генуся з'явілася версія, і ён яе расказаў.

— Нас у пакоі чацвёра. Мы з табой пайшлі і вярнуліся разам. Засталіся Хведар і Толік... Ключ вахцёркі даюць толькі тым, каго ведаюць, з рук у рукі. Рэчы прыхапілі, каб зрабіць выгляд, што злодзей не мастак. У Толіка не ўзялі нічога, бо ведалі, што нічога няма... А ведаць гэта мог толькі Хведар... Ён і ў міліцыю заяўляць баяўся.

Я добра памятаю, што не адчуў сораму, калі нажніцамі адкрыў замочкі, калі перабіраў брудную вопратку, касеты з фотастужкамі, купэрты з лістамі ад бацькоў...

Мы не паспелі схаваць чамадан, як у дзверы пагрукаў Хведар.

— Вось твой ключ, — сказаў Генусь. — Я вырашыў заявіць у міліцыю, няхай шукаюць.

Хведаравы вочкі забегалі. Ён сеў на ложак, падхапіўся.

— Я ўсё растлумачу, не трэба заяўляць... Мяне ж выключаць з вучэльні, — папрасіў Хведар.

Мы не чакалі такога эфекту і напружана суцішыліся.

— Там, у цыратавай торбе, — Хведар абцасам паказаў на чамадан пад ложкам, — былі фотакарткі...

— Там былі карткі? Якія? — Генусь падхапіўся з ложка.

— Разумееце... Ну, гэта... Парнаграфія — сто лістоў... Ведаеце, іх укралі. Мне зямляк прадаў, а раптам, калі іх знойдуць, зловяць злодзея, і ён скажа... Бацькі мне не даруюць...

Першым засмяяўся Генусь. Ён тыцкаў пальцам у маленькага прышчавага Хведара, ляпаў па плячах, прысядаў...

— А чаму нам не паказаў? — спытаў я.

— У мяне ёсць стужка, — апраўдваўся Хведар. — Можна здрукаваць, толькі трэба кантрастная папера, каб было якасна.

Стужка захоўвалася ў кардоннай скрыначцы, на якой быў надпіс: «Мама. Тата. Сястрычка. Лета 1972 г.».

Стужка была шэрая, у доўгіх драпінах і плямах ад пальцаў.

За вячэрай, калі мы хрубасцелі цыбуляй, елі сала і пілі кіпень з вінным варэннем, маленькі Хведар прапанаваў сваю версію:

— У Толіка заўсёды няма грошай... — Хведар паглядзеў на пляму цвілі на сцяне.

Па карнізе барабаніў дождж — першы красавіцкі. На вуліцы раставаў снег, і пляма за дзень змяніла свае абрысы.

— Ён месяц, як пазычыў у мяне сем рублёў, і дасюль не аддаў. Мне няёмка нагадваць, а ён, відаць, забыўся... Апранаецца Толік, як той жабрак, і мыцца не мыецца... Заўсёды брудны і смярдзючы... Калі я ішоў на заняткі, ён рабіў выгляд, што спіць. Вярнуўся я пасля вас. Ён мог усё забраць, знесці ў майстэрню, а потым прадаць. Гэта ён, я ўпэўнены, — Хведар даеў сала, выцер рукавом рот і лёг на спіну.

— Так! Новы замок паставілі, — скептычна кінуў Вірабей і зачыніў дзверы.

Хведар прыўзняўся і заміргаў цёмнымі вочкамі. Генусь адышоў ад стала, паставіў на крэсла планшэт і схаваўся за ім. Я сеў на свой ложак.

— Стаміўся, — Толік скінуў пано-

Васіль БЫКАЎ

# НІЧОГА, АПРОЧ ЦЯРПЕННЯ

Наіўна меркаваць, што мы ўступілі ў посттаталітарны, перабудовачны час, што настае царства дэмакратыі. Настае царства парадоксаў, вяртаецца наша звыклае царства абсурду — гэта бясспрэчна. Дэмакратыя для нас па-ранейшаму terra incognita — каму яна патрэбна?

На Захадзе — іншая справа, там яна патрэбна ўсім. Дэмакратыя толькі там і функцыянуе, дзе яна патрэбна ўсім. Дзе грамадства не можа існаваць без дэмакратычнай атмасферы, дзе без яе яно ператвараецца ў сваю процілегласць.

У нас жа ўсё наадварот.

Больш за 70 год мы жылі ў алагічным, перавернутым, прывідным свеце ілюзій, і як ні дзіўна, перасталі яго заўважаць, мы да яго прызвычаіліся, прыстасаваліся да яго фізічна і маральна. Ён быў нам чужы, страшны, звыродлівы, але іншага мы не ведалі. Ад іншага мы былі адгароджаны жалезнай ракетна-ядзернай заслонай. Але галоўнае — той лад нас карміў. Не надта каб сытна, але для галодных хапала. І не адбіраў надзеі. На тое, што калі-небудзь ён скончыцца, перародзіцца і вызваліць нас ад сваёй нявол, якая была дэмагагічна названа «развітым сацыялізмам». Надзея — вялікая рэч, як вядома, яна таіць у сабе асаблівую наркатычную спакусу, якая аднолькава можа служыць і Богу, і Д'яблу. Нашу цярплівую надзею ахвотна падтрымлівала марксісцкая ідэалогія, гуманістычнае мастацтва і нават пагарджаная Хрыстова вера. Але вось час прабіў. І ўсё развеялася ў дым, растала, бы ранішні туман. Эканоміка ў руінах, суверэннасць прададзена, дэмакратыя збанкрутавана. Камуністычны монстр нядоўгага уік-энду прыступае да свае руціннае працы — умацавання таталітарызму. Чарговая спадзяванка, якую ён нам прапануе цяпер — інкарпарацыя ў імперыю і агульная рублёвая зона. Зноў «зона». Слова, што мае розныя адценні, але заўсёды аднолькавы сэнс.

Ва ўсходніх баявых двубоях ёсць прыём: выпаду саперніка прыдаць напрамак працягу і нейтралізаваць яго. Пасля жорсткай барацьбы з ворагамі, паміж сабой і грамадзянамі — барацьбы, якая хоць і прынесла ім перамогу, але, мабыць, не дала поўнага задавальнення, яны прынялі іншую тактыку. Навошта вынаходзіць таталітарны веласіпед, калі можна перасесці на веласіпед дэмакратычны? І яны пераселі. У мэтах стабілізацыі і нацыянальнай згоды. Мабыць, няма ў сучаснай дэмакратыі такіх максімаў, якія нельга было б ператварыць у іх процілегласць. У тым ліку і самае папулярнае — правы нацыі на самавызначэнне, нязрушнасць сучасных межаў, правы чалавека. Людзі краіны, дзе дзесяткі год тыя правы былі нічога не вартыя і валяліся пад нагамі, раптам зайшліся ў лямансе аб абароне тых правоў у чужых дзяржавах. Як нядаўна яшчэ лямантавалі аб дыскрымінацыі чарнаскурых на далёкіх чужых кантынентах. Па-ранейшаму яны поўныя рашучасці не аддаць ні пядзі ўласнай закінутай зямлі, але не супроць пры выпадку адцяпаць колькі-заўгодна чужой. І ўсё пад прыкрыццём самых дэмакратычных прынцыпаў, ад міратворчых да святога права нацыі на самавызначэнне. Драпежныя антычалавечыя пастулаты зрабілася модным выводзіць з евангельскіх запаветаў Хрыста, прагматычна браць напракат у царквы, да вяшчай радасці царкоўных іерархаў, якія ўспрымаюць тое ўсур'ёз. І ўсё старанна канстатуецца. Яны зрабіліся зайздроснымі прыхільнікамі законнасці, якую самі для сябе і ствараюць, як правілы для гульні ў сваю карысць. І з сапраўды паліцэйскім спрытам будуюць жалезабетонную «прававую» дзяржаву. Здаецца, пры адпаведнай згодзе сусветнай супольнасці, якая канечне ж не будзе пярэчыць супраць «дэмакратычных» пераўтварэнняў.

У такіх умовах што можа літаратура, гэтая марная словатворчасць, пазбаўленая друкарскага станка, з эканамічнай пятлёй на схуднелай плебейскай шыі? І Гутэнберг з Марконі, разам з Паповым і Фёдаравым, перастаюць ёй служыць — яны служаць іншым. Тым, каму звыкла служыць навука, эканоміка і палітыка. Мабыць, тое надта прагматычна, бо ў іхніх руках не толькі казна, права і паліцыя, але і шматгадовая картатэка КДБ, якая, бы алмазны фонд, старанна беражэцца ў маскоўскіх сейфах. З яе дапамогай вельмі эфектыўна рэгулююцца палітычныя працэсы ў краінах блізкага зарубежжа.

Мы працягваем жыць у посттаталітарным грамадстве, па ранейшай таталітарнай мадэлі і яго абсурднай маралі. Іншае мы не ведаем. Хрысціянская мараль адаптавана, перакручана і скампраметавана імі. Зрэшты, да гэтай кампраметацыі прыклалі руку і дэмакраты, г. зн. тыя ж перафарбаваныя камуністы. Хоць шмат якія з іх і не перафарбоўваліся, трошкі перайначылі свае абрэвіятуры. Сыдзе і так. Народ наш талерантны, ён усё прыме.

Але што рабіць тым, што на зыходзе XX стагоддзя памкнуліся людзьмі назвацца? Рэвалюцыі, путчы і кроў — здаецца, гэта сапраўды кепская справа. Але што ж добра? Як быць з сапраўднай дэмакратыяй, без якой няма шляху ў будучыню? Ужо зразумела, што ў барацьбе з таталітарызмам дэмакратыя — дужа слабы сродак. Сродак неадэкватны. Але які сродак адэкватны? Нацыяналізм нават самы ўмераны абылганы імі і выклікае вялікі сумнеў. Не ва ўсіх, зразумела. Тыя, што яго абылгалі, цяпер самі кінуліся ў яго выратоўчыя абдымкі. Але самім можна, яны заслужылі. Іх крыўдзілі, і ў іх скончылася цярпенне. А вядома, калі канчаецца цярпенне, тады ўсё можна. Можна ўводзіць войскі (калі тыя яшчэ не ўведзены) альбо ніяк іх не выводзіць, штурмаваць танкамі нацыянальнае тэлебачанне, секчы сапёрнымі лапаткамі жанчын. Інспіраваць «самавызначэнне» ў складзе трох карлікавых раёнаў ці аднаго камфортнага паўвострава ля цёплага мора. Некалі ў вядомага нецярпліўца скончылася цярпенне, і ён распачаў Другую сусветную вайну. Чым гэтыя горш?

Але як быць, калі, апроч бясконца доўгага цярпення, нічога болей няма? Ні энерганосьбітаў (на якія пакрыўдзіў нас Бог), ні ўласнай палітыкі ў нашага камуністычнага кіраўніцтва, ні нават маралі, якую адабралі і спаганілі тыя ж. Адзін толькі таталітарна-імперскі беспрыдзел над дзесяцімільённым народам. Атручаным камуністычнай ідэалогіяй, з абрабаванай культурай, амаль без роднае мовы, з ампутаванай нацыянальнай самасвядомасцю. І да таго ж густа пасыпаныя радыяцыйным чарнобыльскім попелам. Ці да дэмакратыі тут? Яму б неяк выжыць...

Іван ДРАЧ

# НЕПАЛІТЫЧНАЙ ЛІТАРАТУРЫ НІКОЛІ НЕ БЫЛО...

Я не падзяляю смелага меркавання, быццам літаратурная праца — найгалоўная ў грамадстве, а літаратары — свяшчэнныя каровы, аднак упэўнены, што няма нічога болей важнага для самога пісьменніка, чым яго творчасць. Можа быць, нехта з рэжысёраў тэатра ці кіно на самай справе ўмее паміраць у акцёры, але зусім дакладна, што сапраўдны пісьменнік памірае ў кожным сваім творы. І ў той жа час толькі і жыве, пакуль яго кнігі жывуць у людзях. І нават пытанне аб тым, ці большы, чым проста пісьменнік, у сваёй краіне паэт, празаік, драматург — залежыць, па-мойму, усё ж не ад яго пабочных заняткаў (палітычных ці якіх іншых), а найперш ад узроўню пісьменніцкага рамяства. Той, хто ўсур'ёз успрымае краснае слоўца: «Паэтам можаш ты не быць, ды грамадзянінам быць абавязаны», — рызыкуе ажыццявіць толькі першую частку гэтага патрабавання.

Дантэ мог аддаваць даўгі з мячом у руках; пяром ён валодаў непараўнальна лепей, але работа, зробленая мячом, здавалася яму, сыну свайго веку, куды больш пераканальнай. У гэтым ён цалкам, хоць і досыць адмыслова, быў падтрыманы — пяць стагоддзяў пазней — лордам Байранам: «Хто ўзяўся б за пісьменніцтва, калі б у яго была магчымасць заняцца чымсьці болей важным?

Дзеянне, дзеянне, дзеянне! — казаў Дэмасфен.

Дзеянне, дзеянне, — кажу я, — а не пісаніна, тым болей — у вершах. Толькі паглядзіце, якое гэта сумотнае марненне, поўнае адвечнае жальбы, на якую аддала сябе пісьменніцкая брація, як яны ўсе пустыя і нікчэмныя — за выняткам Сервантэса, Таса, Дантэ, Арыёста, Клейста (якія былі доблеснымі і чыннымі грамадзянамі), Эсхіла, Сафіла і некалькі іншых старажытных» («Дзённік Байрана»).

Але хто з нас, сучаснікаў Чарнобыля, ведае, да якое партыі (да гвельфаў ці гібелінаў?!) належаў Аліг'еры Дантэ?!

І тым не менш мне ўяўляецца, што адвечная спрэчка аб ангажаванасці пісьменніка не ёсць схаластыкай альбо самаапраўданнем таленту, чаму, маўляў, я такі, а не іншы — проста кожнае пакаленне спасцігае па-свойму ісціну, што непалітычнай літаратуры ніколі і нідзе не было, і пакуль што не бачна прыкмет яе з'яўлення, і чарговая хваля навабранцаў жыцця і літаратуры толькі імкнецца вызначыць у гэтых бясконцых спрэчках, якая палітыка ратавальная ці згубная для іх саміх і іх сучаснікаў і выбірае тую ці іншую палітыку.

Можа быць, сама жывучасць дыскусій аб апалітычнасці альбо спалітызаванасці мастакоў слова залежыць толькі ад ступені разумення і таленту, г. зн: ці адрозніваць карані палітыкі толькі ў выніковых матэрыяльных фактарах, у г. зв. вытворчых адносінах, ці бачыць іх ва ўсіх без выключэння ўласцівасцях чалавечай прыроды, ва ўсім суплёце жыццёвага цыкла асобы, нацыі, народа, чалавецтва.

Што датычыць маёй краіны, дык украінскім пісьменнікам, кожнаму іх пакаленню, ніколі не выпадаў лёс вырашаць толькі выключна свае прафесійныя ці пабытавыя праблемы, што варта жалю, ды разам з тым яны мелі тую перавагу, што іх не абцяжарваў місіянерскі цяжар выпрацоўваць духоўныя каштоўнасці неадменна і абавязкова на экспарт для ўсяго чалавецтва, каб потым палітыкі і палкаводцы сілай зброі і паняволення, з пачуццём перавагі навязвалі іх іншым народам у якасці вышэйшай культуры. Як ні дзіўна, у гэтым нехта па-за Украінай, нават у ёй самой, схільны сёння бачыць нашы абмежаванасць і правінцыялізм, г. зн. тое, што мала цікавіць «вялікі свет». Несумненна, сусветны рынак агульначалавечых каштоўнасцей — аўтарытэтны экспарт і суддзя ў вызначэнні ўзроўню духоўнасці і культуры кожнага народа. Але і ў нас узнікаюць некаторыя пытанні з нагоды каціровак на гэтым рынку: а па якім індэксе ацэньваецца ўкраінскае «розстріляне відродження», г. зн. зліквідаванне некалькі соцень, г. зн. амаль усіх спрэс украінскіх пісьменнікаў у 30-я гады XX стагоддзя? Не дай Бог, каб здарылася такое ў Англіі, Францыі, Італіі, Германіі, Японіі, ЗША, — якую б карту сусветнай літаратуры мела б сучаснае чалавецтва? Калі адзін з аўтарытэтаў сусветнай літаратуры XX стагоддзя пытаўся еўрапейскіх калег: «З кім вы, майстры культуры?», ён прадчуваў будучыя ахвяры Другой сусветнай вайны, але яго вялікі гуманізм не распаўсюджваўся на ўжо паморaных голадам на яго вачах і вачах усяго свету 9 мільёнаў украінскіх сялян — носьбітаў болей чым тысячагадовай культуры і духоўнасці аднаго з народаў у цэнтры Еўропы. Я зусім не хачу гэтымі прыкладамі клікаць да спачування ўкраінцам ці нават да разумення іх. Мне толькі ўяўляецца, што без уліку названых рэалій самыя шчырыя пошукі аб'ядноўваючых духоўных і маральных узораў сучаснага свету могуць стацца, як кажуць, дарэмнымі словамі, «виньетками ложной сути».

Мае сумлевы тычацца не толькі мінулага. Калі сёння мы бачым, як інтэлігентныя падпальшчыкі ўжо, дзякуй Богу, не сусветнага пажару, а «адно толькі» шырокамаштабнай калатнечы ў межах былога СССР, уручаюць ашалелым галаварэзам не адно толькі сцяг з сярпом, молатам і пяціканцовай зоркай, але і харугвы з абразамі класікаў сваёй літаратуры — маўляў, рыхтуйцеся ісці забіваць іншародцаў, з вамі Пушкін, Дастаеўскі і Талстой, ваюйце ў імя вялікай літаратуры і яе мовы (як гэта адбываецца, напрыклад, у Крыме), міжволі задаешся пытаннем, а ці на справе старая тэма «літаратура і жыццё» вычарпана і дадумана да канца?

Асабліва для мяне гэта не адцягненыя пытанні. Некалькі гадоў мне давялося сумяшчаць абавязкі першага сакратара кіеўскай пісьменніцкай суполкі і старшыні Народнага Руху Украіны і выслухаць нямала затурбочаных меркаванняў на тэму «паэт і палітыка». Дагэтуль застаецца модным здзіўляцца, што Рух, які прывёў Украіну да дзяржаўнай незалежнасці, узнік менавіта ў сценах нашай суполкі пісьменнікаў. Паміж вопыту венгерскіх, чэшскіх, славацкіх, прыбалтыйскіх калег у нас было дзеля гэтага дастаткова ўласных падстаў. І раней, і дагэтуль я, у сваю чаргу, таксама здзіўляюся: гэта ж так натуральна. Калі да таго, як патрабуе паэта да свяшчэннай ахвяры Апалон, украінец павінен быў здзяйсняць штодзённы і штоночны подзвіг, адно толькі размаўляючы на мове свайго народа, і адно з-за гэтага набываў пагалоску антыкамуніста і антысаветчыка, руйнавальніка «асноў». Агульнавядома, што Украіна і Беларусь былі самымі каштоўнымі алмазамі ў кароне імперыі, а вастрыё чужой дзіды заўсёды нацэльвалася ў сэрца яе народа — яго Слова. Украінскае Слова. Беларускае Слова.

Даводзіцца шкадаваць, што апошнім часам і знешні і ўнутраны франты «халоднай вайны» супраць украінскай мовы злучыліся і, здаецца, пайшлі ў свой апошні і рашучы бой за «Украіну без украінцаў», «Беларусь без беларусаў», выкарыстоўваючы ўвесь шматгадовы арсенал барацьбы за сусветную рэвалюцыю.

А фашыстоўскі покліч найноўшага часу «Добры хахол — мёртвы хахол» атрымлівае інтэлектуальнае падсілкаванне колаў велікарускага істэблішменту. Супраць спеючага разладу паміж Украінай і Расіяй выступілі пісьменнікі Украіны і Расіі — прабіцца на старонкі нават «Литгазеты», як гэта ні дзіўна, немагчыма. Нам горка бачыць, што вядуць яго (змаганне супраць Украіны. — **Рэд.**) не толькі палітыкі, палітыканы, генералы ды чынавенства, але і прызнаныя майстры суседняй культуры. Дальбог, у псіхалагічнай вайне з Захадам іх удзельнічала намнога меней, чым у антыўкраінскай. І зноў задумваешся — а можа, і сапраўды існуе асобага роду духоўнасць насілля, адмысловая ідэалогія і культура смерці, калі яе апосталам і пракокам не адмаўляюць у прыстойных дамах сусветнага інтэлектуалізму і мастацкасці?..

У заключэнне хачу ўсё-такі сказаць, што я перакананы праціўнік хаджэння пісьменнікаў у палітыку. За чатыры гады працы ў парламенце я сабе давёў гэта. Хай бы ўсе аблудныя сыны, як кажуць на Украіне, «краснага пісьменства» вярнуліся да сваіх алтароў — пісьмовых сталоў. Мабыць, гэта магчыма. Але, напэўна, у адным выпадку. Калі іх алтары не спаганьваюцца заваёўнікамі, калі іх дом не панаджваюцца падпаліць з усіх бакоў.

---

*Гэтыя публікацыі зроблены паводле выступленняў на Міжнародным кангрэсе ў абарону дэмакратыі і культуры пад эгідай Беларускага ПЭН-цэнтра (Менск, травень г. г.)*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ПРЫВІТАННЯМІ З НАГОДЫ...

25 сакавіка адкрываецца чарговы, другі ў сёлетнім годзе нумар часопіса «Полацак». Да гэтай даты прымеркавана і публікацыя артыкула В. Кажана «Маркі БНР». Змешчаны артыкул Л. Дучыц «Вобразы нашых продкаў у старажытным мастацтве», Р. Гарэцкага «Лёс і даты жыцця братоў Гарэцкіх», С. Белай «Віленскія беларусы расказваюць...» (гэтым разам падаюцца ўспаміны М. Шчорса «Беларускі Студэнцкі Саюз»), працяг «Сведчанняў арыштаў А. Смоліча», артыкула М. Белямука «Тапаграфія знаходак манет і аздобаў», рэцэнзіі У. Гніламёдава на кнігу «Туга па Радзіме», рамана М. Кавыля «З агню ды ў полымя», іншыя матэрыялы.

Л. Лыч («Полацак» набірае размах») дзеліцца ўражаннямі аб часопісе.

## З ПЕРАЖЫТАГА...

«Трыццаць другое жніўня» — так нечакана называецца зборнік лірыкі паэта Аляксея Белага, што выйшаў у Баранавічах. Аўтар нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Міхнавічы Івацэвіцкага раёна. Жыў на Поўначы, быў матросам, служыў у войску... З 1977 года А. Белы жыве ў Баранавічах, цяпер рэдактар шматтыражнай газеты «Текстильщик». Летась стаў пераможцам рэспубліканскага конкурсу, прысвечанага Паўлюку Багрыму.

І вось — першая кніга:

*... І ўсё шкадую, што не так жыву,*
*Што лісцем хутка зацярушыць рэкі...*
*А ў роспачы кідаешся ў траву,*
*А рэйкі стогнуць. Цяжка стогнуць рэйкі.*

М. МІХАСЬ

## У ПЯТЫМ НУМАРЫ «БЕЛАРУСКАЙ ДУМКІ»

— урывак з аповесці І. Шамякіна «Адна на падмостках», гутарка галоўнага рэдактара У. Вялічкі з першым намеснікам старшыні БелВАКа В. Ціхінем «Без дысертацыі няма атэстацыі», публіцыстычны роздум У. Глушакова «Зерне і мякіна», справаздача з пасяджэння «круглага стала» «Спачатку — хлеб, а маральнасць — потым?», артыкул старшыні Саюза архітэктараў Беларусі Я. Кавалеўскага «Ад упакоўкі для чалавека» — да дойлідства», нарыс Э. Карніловіча «А каб цёмен не быў...» (пра рупліўца на ніве Адраджэння А. Акуліка, імя якога, на жаль, забыта), судовы нарыс Д. Новікава «Ігракі», шэраг матэрыялаў, прысвечаных 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

## ЗАСНАВАНА БЕЛАРУСАМІ КАНАДЫ

У «першай у Канадзе рускай газеце» «Вестник» прэзідэнт Федэрацыі рускіх канадцаў Антон Кульчын дзеліцца ўражаннямі аб Сусветным кангрэсе беларусаў, які прайшоў мінулым летам у Мінску. Нашым чытачам цікавы будзе, бадай, адзін момант у публікацыі. А. Кульчын, між іншым, гаворыць вось што: «Што датычыць Федэрацыі рускіх канадцаў, то яна была заснавана пераважна беларусамі 62 гады назад, і па сённяшні дзень членамі яе з'яўляюцца большасць беларусаў, а пасля ўжо рускія, украінцы і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей. Слова «рускія» ўжываецца ў шырокім сэнсе, і Федэрацыя не робіць адрозненняў па нацыянальнасцях. Федэрацыя не выявіла толькі цяпер існаванне Беларусі. У Федэрацыі заўсёды была цесная сувязь як з Беларуссю, так і з Расіяй у культурных адносінах праз таварыства «Радзіма», «Родина», членаў Федэрацыі, праз іхніх сваякоў. Федэрацыя памагала радзіме, калі гэта было неабходна, з часу ваенных гадоў і да сённяшняга дня, калі мы аказваем дапамогу ахвярам Чарнобыльскай катастрофы».

Пасля гэтага не дзіўна, што прэзідэнт Федэрацыі рускіх канадцаў быў удзельнікам з'езда беларусаў свету.

М. Г.

Віншуем!

# ГРАНЬ ДА ГРАНІ

## Валерыю АНІСЕНКУ — 50



Упэўнены, усім, каму гэты допіс трапіць на вочы, вядома, што Валерый Анісенка ці не трэці ўжо год вечарам кожную сераду вядзе на хвалях Беларускага радыё адметную і своеаблічную асветніцкую праграму «Мост». Мне даводзілася прымаць у ёй удзел, і ў часе запісу нядаўніх яе выпускаў я сказаў яму, помніцца, словы, што сказаць мог бы, буду шчыры, не кожнаму артысту ці дыктару, якіх у перадачах радыё і тэлебачання чую.

Апаратарка запісвала для эфіру мае расказы перад мікрафонам пра эпізоды са звязанай з Беларуссю тэатральнай даўніны. А потым запісвала працяг кожнага расказу Анісенкам — выкананне ім урыўкаў з якой-небудзь маёй рэчы — аповесці, эсэ, — уяўленай па падзеях адлаведнага эпізоду. І калі я слухаў, як арганічна вядзе ён думку таго, што падае, як адчувальна бачыць сам і малюе слухачу карціну таго, пра што апавядае, як смакуе, не баючыся яе, лексіку з подыхам сівой мінуўшчыны, то і сказаў:

— Дзякуй вам, Валерый Данілавіч, што разумееце тое, што чытаеце...

Хто-ніхто можа сцепануць плячамі: хіба ж то камплімент? Хіба бывае, што прафесійны акцёр чытае людзям, не разумеючы таго, што чытае?

Бывае. І ў практыцы радыё і тэлебачання Беларусі апошнія гады — нярэдка. Здараецца, бы неахопны камель выкарчоўвае ў студыі той, хто адольвае там каля мікрафона фразу Чорнага ці Гарэцкага. Дзе ўжо тут атрымліваць асалоду ад багацця гэтай фразы, пагатоў ад інтэрпрэтацыі яе ў гучанні! Або ўзяць інтэлектуальны багаж нямала каго, хто ў нас сейбітам з эфіру культуры і дасведчанасці?! Маладая тэледыктарка нядаўна, сонечна ўсміхаючыся з радасці, што паведамляе гледачам цікавае, адкрыла перадачу пра першую выканаўцу ролі Купалавай Паўлінкі (дарэчы, заўважу ў дужках, не першую, была ранейшая, у Вільні), славутую Мядзёлку, як пра Паўліну **Мя́дзелку.** Так, так, паставіўшы націск у прозвішчы на першым складзе. А дыпламаваная ж, трэба думаць, ці ў Беларускім тэатральна-мастацкім, цяперашняй Акадэміі мастацтваў, ці на філалагічным факультэце Беларускага універсітэта.

Тым больш у гэткіх варунках даражыць трэба майстрамі, слухаючы якіх асалоду такі атрымліваем. Сённяшні ж Валерый Анісенка — з іх ліку безумоўна. Надзелены ад прыроды прыгожым, гнуткім, здатным на разнастайную тэмбравую афарбоўку голасам, ён здолеў дасягнуць пажаданай кожнаму, хто гэтым займаецца, але дастунпай, што зробіш, не кожнаму ступені свабоды ў валоданні словам, з якім сядае да мікрафона або выходзіць у канцэрце на сцэну. Ступені, калі тэкст аўтара становіцца ўласным тэкстам чытальніка. Калі ён, зразумела, і любуецца самацветнасцю слова, якое вымаўляе, і ў меры любавання вельмі чуйны. Каб любаванне не зашкодзіла, не адцягнула на сябе ўвагу слухачоў ад галоўнага — думкі, што пад краскамі мовы. Бо як умець пісаць — гэта ўмець мысліць, так і ўмець чытаць, тым больш па-мастацку, — таксама значыць умець мысліць.

Аднак чытальнік і вядучы папулярнай радыёперадачы — адна толькі грань самавыяўлення Анісенкі, як артыста. Паводле цяперашняй службовай пасады, ён галоўны рэжысёр рэспубліканскага радыё. Дык не ведаю, як у яго ладзіцца з адміністрацыйнымі функцыямі, у творчых жа гэта ўдумлівы, самапатрабавальны шукальнік. Ва ўсякім разе, у лепшых з радыёспектакляў, якія ажыццявіў.

Ён прыйшоў у рэжысуру радыё, маючы багаты вопыт работы драматычным акцёрам — на сцэнах спачатку коласаўскага, потым купалаўскага тэатраў. Паднабраўшы пэўнай хваткі пастаноўшчыка і, чаго грахі таіць, паднахапаўшы шышак у сезоны, калі ўзначальваў мастацкае кіраўніцтва тэтра юнага гледача, тэатра-студыі кінаакцёра. Але з досыць павярхоўным разуменнем тэатральнага дзейства, разлічанага на ўспрыманне выключна слыхам. Разуменнем, заснаваным адно на тым, што раней удзельнічаў у перадачах рознага жанру як акцёр — чытальнікам паэзіі і нарысаў, выканаўцам роляў у інсцэніроўках, спеваком. Між тым, гукавы тэатр мае ладна законаў і адметнасцей, уласцівых толькі яму. У магчымасцях у яго і менш, і больш, чым у тэатра са сцэнай ці тэлевізійнага. Дзею прапануецца **бачыць вухам.** Зрокавае відовішча павінна нараджацца ў фантазіі таго, хто спектакль слухае. І разварушыць тую фантазію, даць ёй на гэта імпульс мажліва трыма-чатырма секундамі музычнага мазка, дакладна знойдзеным шумавым эфектам. Толькі ж ты, рэжысёр, мазок адшукай менавіта той, што патрэбен, шумавы эфект — той, што пераконвае.

Я быў тады, калі на радыё ён асвойваўся, калегам Анісенкі, рэдактарам, адказным за тэатральную дзялянку ў радыёпраграмах, што дасылаліся ў эфір з Мінска. І бачыў, як ён спецыфікай новага для сябе мастацтва з цікавасцю авалодваў. А знакам, якога дасягнуў у гэтым поспеху, — прысуджэнне яму праз колькі гадоў Дзяржаўнай прэміі рэспублікі за шэраг радыёпастановак.

Выяўляе ён свае рэжысёрскія магчымасці таксама ў кіно — як у іграым, так і ў дакументальным. Два гады назад у Мінску са скрухай адзначана была жалобная дата — пяцідзесяцігоддзе з часу найкрывавага пагрому ў створаным у горадзе падчас акупацыі гітлераўскай зграяй гета, пагрому 2 сакавіка 1942 года. Уражаныя тым, што аб трагедыі гета даведаліся, знайшоўшы спонсара, які ініцыятыву іх падтрымаў, Анісенка і прызнаны наш кінадакументаліст Ю. Цвяткоў знялі відэафільм «Кадыш». Прадзюсерскія выдаткі спонсару не вярнуліся; ні пракат, ні тэлебачанне фільма не набылі. Але так атрымалася, што я неаднойчы быў сведкам, як забірае ён гледачоў, і ў думках зноў і зноў паціскаў стваральнікам руку.

Словам, працуе ў беларускім мастацтве дзейны, цікавы творца. У гэтыя дні ён пераступае цераз свае пяцьдзесят. Цераз рубеж, калі ў яго ёсць багата на што азірнуцца і далёка-далёка відно ўперадзе.

**Уладзімір МЕХАЎ**

# НЕ БЛІЗНЯТЫ, АЛЕ — БРАТЫ

*(Пачатак на стар. 5)*

інтарэсах падабароннага «адвакат» забыўся, што да 1939 года ўжо адбыўся грамадзянскі халакаўст яўрэяў. Натуральна, што апаненты Нольтэ напомнілі яму і пра гітлераўскую «Майн кампф» і пра настаўніка Гітлера Дзітрыха Экарта, які задоўга да заявы Сусветнага яўрэйскага савета тлумачыў будучаму фюрэру, чаму павінна быць канчаткова вырашана яўрэйскае пытанне.

Каб даказаць пераймальны характар злачынстваў Гітлера, варта было б як мінімум вызначыць, ці ведаў ён наогул пра метады карнай палітыкі Леніна і Сталіна. Публіцыст Рыхард Лёвенталь заўважыў у лісце ў «Франкфутэр альгемайне», што ў 20-я і нават у 30-я гады мала хто ведаў у Еўропе пра архіпелаг ГУЛАГ. Эрнст Нольтэ падрабязна разважае пра «азіятчыну» бальшавікоў (што праявілася, маўляў, і ў іх лютай расправе з царскай сям'ёй, і ў практыцы заложніцтва ў часе чырвонага тэрору, і ў іншых злачынствах). Ён самым падрабязным чынам пералічвае і зверскія акцыі нацыстаў. Але неяк у яго выходзіць, што Гітлер заразіўся гэтай «азіяцкай чумой» ад рускіх бальшавікоў. Болей жа сур'ёзныя даследчыкі звяртаюць увагу на заходняе паходжанне самой камуністычнай ідэі, а сённяшнія расійскія нацысты апелююць не да рускіх нацыянальных традыцый, а да вопыту нямецкіх фашыстаў.

Сотні гістарычных даследаванняў паказалі, што нямецкі нацызм — гэта вынік перш за ўсё ўнутранага, нацыянальнага развіцця Германіі, а не злепак з нейкага ўзору. Гэтая выснова зроблена з дастатковай пераканальнасцю ў працах нямецкага гісторыка расійскага паходжання Леаніда Люкса. Сваю рэцэнзію на кнігу Нольтэ «Еўрапейская грамадзянская вайна» ён не без іроніі назваў: «Браты? Ворагі? Ці — браты-ворагі?» Як і паасобныя іншыя гісторыкі, Леанід Люкс з поўнай падставай гаворыць пра адрозненні ідэалагічных установак нацызму і камунізму і пра рознанакіраванасць у функцыянаванні гэтых дзвюх сістэм. Але ўзнікнуўшы (рускі бальшавізм на рускай глебе, а нямецкі нацызм — на нямецкай), гэтыя дзве плыні выявілі не толькі падобнасць, але і гатоўнасць прызнаць пэўнае сваяцтва між сабою. Малады Гебельс, які належаў да сацыялістычнага крыла нацыянал-сацыялізму (ідэолагі — браты Оскар і Грэгар Штрасеры), крычаў у 20-я гады, калі ў Расіі ўзніклі нацыянал-бальшавіцкія настроі, што Савецкі Саюз — натуральны партнёр нямецкага нацыянал-сацыялізму ў барацьбе з прагнілай заходняй дэмакратыяй. Сустрэчныя меркаванні выказваліся і з камуністычнага боку. Так, у адным артыкуле часопіса «Коммунистический интернационал» гаварылася: «... у фашызма і бальшавізма — аднолькавыя метады. І той, і другі разглядаюць пэўныя палітычныя акцыі не з таго пункту гледжання — законныя яны ці незаконныя, дэмакратычныя яны ці не. Яны ідуць да сваёй мэты, топчучы законы». Аб падобнасці метадаў фашызму і бальшавізму гаварыў і Бухарын на XII з'ездзе РКП(б) у 1923 годзе. Зрэшты, тады не магло ісці гаворкі пра нацыянал-сацыялізм, меўся на ўвазе фашызм, галоўным чынам — італьянскі. На працягу 30-х і 40-х гадоў бывалі і выпадкі яўнага пераймання: так, старшыня нацысцкага «народнага» суда над змоўшчыкамі 20 ліпеня Роланд Фрайслер даказаў, што ён здольны вучань Вышынскага.

Падзеі 1991—1993 гадоў у Расіі паказалі, што нацызм і камунізм куды бліжэй адзін да аднаго, чым гэта ўяўлялі сабе нават ідэолагі гэтых дзвюх плыняў у 20—30-я гады. У сённяшняй Расіі рускія камуністы і рускія нацысты без усялякай цяжкасці, без трэнняў (прынамсі, відавочных) аб'ядналіся ў супрацьстаянні дэмакратыі. І тыя і другія ўвайшлі ў Фронт нацыянальнага выратавання і ў адных шэрагах вырваліся з Белага дома, атакуючы ўрадавыя будынкі. Суддзя-камуніст (хай і ў мінулым) дазваляе друкаваць і распаўсюджваць «Майн кампф». Няма адрозненняў паміж расійскімі камуністамі і нацыстамі ў вызначэнні задач знешняй палітыкі; яны стаяць за аднаўленне Расійскай імперыі (нацыяналісты) ці Савецкага Саюза (камуністы), яны бачаць галоўнага ворага ў заходняй, перш за ўсё амерыканскай дэмакратыі, а саюзнікаў — у дзеячах, кшталтам Садама Хусейна ці Мілошавіча.

Самым балючым пытаннем для нямецкіх гісторыкаў застаецца ўсё ж пытанне аб унікальнасці нацысцкіх злачынстваў. Нацызм не унікальны, сцвярджае Эрнст Нольтэ, пералічваючы факты нечуванай бесчалавечнасці, практыкуемай не толькі нацыстамі, але і камуністамі. У Германіі такі тэзіс нязменна выклікае алергічную рэакцыю, а палітык ці публіцыст, які выступіў з ім, трапляе — на вельмі спрэчных падставах — у разрад неанацыстаў. Варта было, напрыклад, кандыдату ў прэзідэнты Германіі ад ХДС/ХСС Хайтману выказацца ў тым духу, што злачынствы нацыстаў жахлівыя, што яны ўпісваюцца ў агульнаеўрапейскае развіццё XX стагоддзя, як ягоныя шанцы быць выбраным знізіліся ледзь не да нуля. Ужо згаданы рэдактар часопіса «Шпігель» Рудольф Аўгштэйн абазваў гісторыка Хільгрубера, які падтрымаў тэзіс Нольтэ, «прыродным нацыстам».

Думаецца, што спрэчка гэтая выклікана невыразнасцю самога паняцця «унікальны». Вядома, ніводная гістарычная з'ява не мае блізняці. Канешне ж, само паходжанне нацызму і камунізму робіць іх калі і сваякамі, дык досыць далёкімі: камунізм, напрыклад, выйшаў з еўрапейскай Асветы, а нацызм — з плыняў, ёй варожых (адсюль, між іншым, і схільнасць еўрапейскіх інтэлектуалаў 20—50-х гадоў да камунізму і непрыняцце імі нацызму). Наўрад ці трэба шмат намаганняў, каб убачыць у нямецкім нацызме праяўленне ментальнасці аднаго народа, а ў рускім бальшавізме — другога. Так што ні пра якую тоеснасць, з навуковага пункту гледжання, паміж нацызмам і бальшавізмам гаварыць не варта было б. Ды Нольтэ і не гаворыць пра тоеснасць.

Усё ж больш пераканаўчай выглядае пазіцыя тых удзельнікаў спрэчкі гісторыкаў, якія разглядаюць камунізм і нацызм як дзве розныя праявы еўрапейскага таталітарызму. Карл Дзітрых Брахер пісаў: «Сорам з-за паражэння якраз культурнага народа, які развіваўся на асновах каштоўнасцей хрысціянства, гуманізму і асветы, можа памагчы распазнанню небяспек таталітарных маніпуляцый. Указанні на такія ж феномены ў іншых народаў аніяк не рэлятывуюць гэты вопыт, але пашыраюць яго і робяць агульназначным. Гэта азначае не толькі ўспаміны аб мінулым, але і папярэджанне сучаснасці і будучыні».

Сёння можна даць адказ на пытанне Леаніда Люкса, ці былі нацызм і камунізм сваякамі. Так, былі, хоць і не прамымі і адзін час варагавалі (зрэшты, цяпер гэтая варожасць мінавала і сваяцкія, аб'ядноўваючыя рысы і ўласцівасці бяруць верх над ранейшымі сямейнымі непаразуменнямі).

Але вось з пункту гледжання тэорыі таталітарызму, распрацаванай Ханнай Арэнт, камунізм і фашызм — блізняты-браты. Светапоглядная аснова ў іх агульная: міфалагізацыя надасабовых структур нацыі, дзяржавы, класа, партыі; замена паняцця асабістай віны і асабістай адказнасці калектыўнымі («яўрэі вінаваты», «буржуі вінаваты»). Ствараемыя нацызмам і камунізмам сістэмы носяць відочна крымінальны характар. Нацызм і рэалізаваны камунізм знаходзяцца на роўнай аддаленасці ад дэмакратыі, права, гуманізму, духоўнасці...

Для мільёнаў яўрэяў, знішчаных нацыстамі ў газавых камерах, і мільёнаў рускіх сялян, даведзеных камуністамі да галоднай смерці ці замардаваных у сібірскіх лагерах, спрэчка гісторыкаў ужо не актуальная...

**Герман АНДРЭЕЎ**

*Гермесгейм, Германія*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ВЫЗВАЛЕННЮ ПРЫСВЕЧАНЫ



Агляд самадзейных калектываў «Палескі карагод», прысвечаны 50-годдзю вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, праходзіць на Брэстчыне. У Пінску, Баранавічах, абласным цэнтры паказалі сваё мастацтва спевакі і танцоры. У праграме, у асноўным, фальклорныя творы, многія з якіх глядач убачыў упершыню. Яны адроджаны з памяці народнай.

Лепшыя калектывы прымуць удзел у святкаванні 50-годдзя вызвалення Прыбужжа, якое адбудзецца ў прыгранічным Брэсце.

На здымку: на аглядзе ў абласным цэнтры выступае народны ансамбль песні і танца «Сузор'е» будтрэста N 8 г. Брэста.

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ*

## І ГІСТОРЫЯ, І КУЛЬТУРА



З цікавымі экспанатамі, што апавядаюць пра гісторыю, традыцыі і самабытную культуру беларусаў, можна пазнаёміцца ў краязнаўчым музеі Салігорска. Дзесяць гадоў назад намаганнямі энтузіястаў-краязнаўцаў і этнографаў створана тут першая экспазіцыя. Пачыналі пошукі з экспедыцый па Салігорскім раёне. Сёння ў музеі сабрана багатая калекцыя вырабаў народнага ткацтва і вышыўкі. Многім тканым матэрыялам больш за сто гадоў.

На здымку: старшы захавальнік музейных фондаў Вольга Хаміцэвіч дэманструе ручнікі, створаныя рукамі майстрых раёна яшчэ сто гадоў назад.

*Фота Уладзіміра АМЯЛЬЧЭНІ, БЕЛІНФАРМ*

## МАСТОК ПРАЗ АКІЯН

Уэслі Тауэр — кампазітар, дырыжор, выканаўца на духавых прыехаў у Мінск па запрашэнні Акадэміі музыкі. У штаце Ілінойс, што ў цэнтры Амерыкі, ён выкладае музыку, кіруе аркестрам. У рэпертуары яго калектыву творы аўтараў усяго свету. Не было толькі твораў калег з Беларусі. І вось з'явіўся шанц... У зале Саюза кампазітараў госць сустрэўся з беларускімі кампазітарамі, пагутарыў, паслухаў творы і... вельмі здзівіўся, што іх музычны почырк вельмі падобны да ягонага. Гэтае ж падабенства прыкмеціў і беларускі кампазітар Віктар Войцік, які пабыў на аўтарскім вечары сп. Таўэра ў Беларускай акадэміі музыкі. Сапраўды, свет цесны, мелодыі лётаюць у космасе і прызямляюцца то на Беларусі, то ў Амерыцы, ці яшчэ дзе... Уразіла амерыканца партытура Канцэрта для ўдарных Алега Залётнева, ён нават папрасіў у аўтара экземпляр, каб выконваць у сябе, у Амерыцы. Вельмі натхнілі яго творы В. Войціка, У. Кур'яна, У. Дарохіна. Гэта прыемна і, магчыма, дзякуючы такім непасрэдным кантактам пра нашу музычную культуру больш даведаюцца там, за акіянам.

Наталля ЗАХАРАВА

# ШТО ЧАКАЕ ПЕРШАГА ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ

*(Пачатак на стар. 3)*

калабарацыянізме няма нікога, нават Новікаў не можа на гэта прэтэндаваць, бо, пры ўсім імперыялізме камуністаў, яны не ўпісваюцца ў сучасны курс расійскай палітыкі.

Прагматызм усіх астатніх кандыдатаў ссоўвае іх усіх бліжэй да Пазняка і Шушкевіча. Хоць паасобныя з іх, напрыклад, Лукашэнка, могуць падыгрываць пазіцыі Кебіча, каб пры выпадку прыцягнуць на свой бок частку ягонага электарата.

Таму асноўнай праблемай выбару становяцца фармулёўкі перадвыбарчых праграм у адносінах да суверэнітэту Пазняка і Шушкевіча. Яны ўжо навязалі ўсім астатнім кандыдатам сваю гульню і лідзіруюць у ёй. Пры гэтым, адносіны Пазняка і БНФ добра артыкуляваныя і зразумелыя ўсім пластам выбаршчыкаў, а адносіны Шушкевіча — толькі інтэлігентам і тым, хто непасрэдна слухаў яго на сходах. Беларусь не антычныя Афіны і не сярэдневечная Фларэнцыя, Шушкевічу не ўдасца пагаварыць асабіста з усім электаратам. Па гэтым параметры ён відочна саступае першынства.

2. У шахматах усё проста па гэтым крытэрыі — перамагае той, хто бачыць на большую колькасць хадоў наперад. У палітыцы больш складана. Трэба глядзець далёка наперад і быць адначасова дакладным у дробязях бягучага моманту. Вілі Брант рыхтаваў аб'яднанне Германіі за дваццаць гадоў да таго, як яно магло быць рэальным, але не забываўся на паўсядзённыя патрэбы абывацеляў. Не кіруючыся тэорыяй стратэгічнага планавання і праграмавання, сфармулюем гэты крытэрый максімальна проста: добры той прэзідэнт, які «рыхтуе сані ўлетку, а калёсы зімою», дрэнны той, хто «корміць сабак, калі на паляванне трэба ісці». Сумніцельны той, хто, турбуючыся аб далёкай будучыні, не бачыць задач бліжэйшай перспектывы.

Сённяшняя выканаўчая ўлада Рэспублікі Беларусь ужо прадэманстравала сваю няздольнасць глядзець нават на некалькі месяцаў наперад, прыгадаем апошні сюжэт з новай Канстытуцыяй. БНФ удаецца пачынаць і ажыццяўляць працы, вынікі якіх праявяцца толькі праз дзесяцігоддзі. Аптымальная адзінка адліку часу для прэзідэнта — 3—5 гадоў. Гэта тэрмін, за які можна пачаць і скончыць вялікія працы. Гэта тэрмін, які дазваляе не траціць далёкую перспектыву і не ўпускаць пажарных аварыйных сітуацый. Хай выбаршчыкі пачытаюць перадвыбарчыя праграмы кандыдатаў з гэтага пункту гледжання, і многае стане на свае месцы.

Каб зручней было разглядаць канкрэтных персанажаў, вылучым тры тыпы адзінак адліку часу: кароткатэрміновыя праекты і праграмы — да 1 года; сярэднетэрміновыя — 3—5 гадоў; доўгатэрміновыя — 5—10 і больш гадоў.

Прэзідэнт як увасабленне паўнаты выканаўчай улады павінен працаваць на сярэднетэрміновую перспектыву, паколькі такі час яму прадастаўлены Канстытуцыяй. Праграмы працягам 3—5 гадоў рэалістычныя для выканаўчай улады. Акцэнт на больш працяглыя тэрміны ўказвае на ўтапічнасць падыходу кандыдата ў прэзідэнты і схільнасць да фантазіравання, а ўпор на кароткатэрміновыя праграмы выдае дробязнасць і парог узроўню кампетэнтнасці.

З часам і перспектывай ува ўсіх кандыдатаў і іх каманд справы выглядаюць вельмі дрэнна. Пачнём з Кебіча. Сённяшняя адміністрацыя відочна «перасядзела» свой час. Яна ўжо даўно анахранізм, яе дзеянні больш за год зусім не ўпісваюцца ў працэсы палітыкі, гаспадаркі і жыцця Беларусі і рэгіёна Усходняй Еўропы. Апошні магікан размеркавальнага сацыялізму Кебіч хранічна не здольны бачыць нават на два тыдні наперад. Ён і яго каманда не маюць нават кароткатэрміновых праграм, не здольныя зрабіць прагноз на самы кароткі перыяд. Гэтая няздольнасць кампенсуецца манаполіяй на інфармацыю і прымітыўнасцю задач, якія ставіць перад сабой наменклатурны апарат прэм'ера, для рашэння гэтых задач асаблівага розуму і прадбачлівасці не трэба. Гэтая каманда не разумее, што манаполія на інфармацыю сёння ўжо ўяўная, на ёй можна сядзець, як сабака на сапрэлым сене, і не мець магчымасці ёю карыстацца. Не разумеюць яны і таго, што сілавыя дзеянні сёння ўжо нічога не вырашаюць. Гэтая каманда проста нецікавая для аналізу, там усё зразумела.

Што датычыць астатніх кандыдатаў, дык там стан не надта выяўлены. Вядомы доўгатэрміновыя перспектывы і гарызонты, якія адкрывае Народны фронт. Гэта, безумоўна, моцны бок Пазняка, але да гэтага ўсе ставяцца насцярожана. Выразныя доўгатэрміновыя перспектывы забяспечваюць рост падтрымкі і папулярнасці БНФ, але не кандыдату ў прэзідэнты, які, як ужо сказана, ацэньваецца па сярэднетэрміновых праграмах. Гэтая акалічнасць змушае выбаршчыкаў і аналітыкаў прыглядацца да кандыдатаў-прагматыкаў. Хай яны і не маюць такіх доўгатэрміновых перспектыў, затое мацнейшыя ў кароткатэрміновых і сярэднетэрміновых. Сярод прагматыкаў лідзіруюць Шушкевіч і Карпенка. У адносінах да іх канкурэнцыі між сабой неабходна высветліць два пытанні: хто з іх зможа стварыць кааліцыю з БНФ, што ўзмоцніць абодва бакі? Хто зможа прадставіць для незалежнай экспертызы моцныя сярэднетэрміновыя праекты і праграмы, а для выбаршчыкаў каманду выканаўцаў гэтых праграм? Пры чым, такое прадстаўленне павінна быць прамым — каманды трэба ведаць «у твар», а праграмы павінны быць апублікаваны і экспертыза заказана самім кандыдатам і ягонай камандай. Нам уяўляецца, што пакуль ніводзін кандыдат з ліку прагматыкаў да гэтага не гатовы. Што азначае — яны аддаюць свае шанцы і дзеляцца моцнымі бакамі з Лукашэнкам і яго просценькімі, але актуальнымі «праекцікамі». На бязрыб'е і Лукашэнка кандыдат у прэзідэнты, пры чым такі, што пакідае па гэтым параметры ззаду ўсіх сур'ёзных палітыкаў.

Каб не абыходзіць увагай камуністаў, заўважым, што магчымасці праграмавання і прагнозу ў рамках камуністычнага падыходу гістарычна цалкам вычарпаны яшчэ ў 1958 годзе. Камуністы ўтрымліваліся на палітычным экране да 1991 года толькі па інерцыі масавай свядомасці. Хоць яны яшчэ доўга будуць папулярныя ў пэўных колах, пытанне можа стаяць толькі па адносінах да ўплыву на камуністычны электарат і па адносінах да нейтралізацыі іх экстрэмізму.

...юцца на гэтую тэму вельмі няўцямна. Было б няправільна патрабаваць ад кандыдатаў тэарэтычнай прапрацоўкі гэтых пытанняў, але каманды прэзідэнтаў павінны мець напрацоўкі і выяўленыя падыходы. Няма ніводнага навуковага калектыву ў Беларусі, якому б каманды кандыдатаў у прэзідэнты заказвалі б гэтую працу.

Таму параўнаўчы аналіз перадвыбарчых праграм можа будавацца толькі на ўліку агульнаідэалагічных арыентацый кандыдатаў. Вядомы практычныя адносіны камуністаў да функцыі дзяржавы. Камуністычная дзяржава татальна распаўсюджвае свой уплыў на ўсе сферы жыцця, на свабоды і правы чалавека, на прадпрымальніцкую ініцыятыву і г. д. Не маючы выказванняў Новікава на гэтую тэму, можна прагназаваць тып яго дзеянняў. Камуністычны таталітарызм задае адзін полюс адносін да дзяржавы, а другі полюс размыты. Альбо кандыдатам няма чаго сказаць, альбо, на іх думку, выбаршчыкі не цікавяцца гэтым пытаннем. Гэта вынік агульнай нізкай палітычнай культуры ў Беларусі, альбо, хутчэй за ўсё, свядомага прыніжэння яе ўзроўню. Існуе ілюзія, што на фоне нізкага культурнага ўзроўню лягчэй «уладжваць свае справы». Гэта самападман.

Пакуль кандыдаты ў перадвыбарчых абяцаннях робяць выгляд, што прэзідэнт Беларусі зможа ўсё, варта заключыць, што ўсе яны схіляюцца да пазіцыі камуністаў і Новікава. Пытанне толькі ў тым, як яны пасля будуць апраўдвацца. Шушкевіча папракаюць у тым, што ён нічога не зрабіў за тры гады знаходжання пры ўладзе. Ён дае фармальна правільны адказ, што ўлады ў яго было мала. Але варта спытаць больш канкрэтна: чаму ён нічога не зрабіў для павышэння ўзроўню палітычнай культуры ў Беларусі, каб усе гэта разумелі? Чаму сёння кандыдаты працуюць не на павышэнне палітычнай культуры беларускага грамадства, а на паніжэнне? Чаму выраз «беларускі менталітэт» чытаецца як «недахоп культуры»? Таму, што ў мутнай вадзе лягчэй лавіць рыбку.

## ТАБЛІЦА ПАРАЎНАЎЧЫХ ХАРАКТАРЫСТЫК КАНДЫДАТАЎ ПАВОДЛЕ ЗАДАЧ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ ПЕРАД КРАІНАЙ

| кандыдаты / задачы | Шушкевіч | Пазняк | Карпенка | Лукашэнка | Кебіч | Новікаў |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дэсаветызацыя | можа зрабіць | будзе рабіць | можа зрабіць | не | зможа, але не будзе | не |
| Урэгуляванне грашовага звароту | можа | можа, калі даручыць спец. | можа | не | не | не |
| Дэмілітарызацыя | так | так | так | не | не | не |
| Дэнацыяналізацыя і прыватызацыя | так | так | так | не | не | не |
| Інстытуты прававога грамадства | так | ? | ? | не | не | не |
| Структурная рэарганізацыя гаспадаркі | так | так | так | не | не | не |
| Знешне-палітычная дактрына | так | так | ? | не | так, але якая? | не |
| Культурна-палітычная дактрына | ? | так | ? | не | не | не |
| Інфармацыйная інфраструктура (свабода СМІ) | так | так | ? | не | не | не |
| Беларусізацыя | так | так | ? | не | не | не |

3. Усім вядомая крытыка таталітарных канцэпцый дзяржавы, якія прыводзяць да таго, што дзяржава распаўсюджвае свой кантроль на галіны жыцця і дзейнасці, з якімі не здольная справіцца. Дзяржава не можа зрабіць тое, што ёсць справай царквы, сям'і, школы, прыватнай ініцыятывы прадпрымальнікаў і абывацеляў, грамадскіх структур. Паглядзіце на абяцанні кандыдатаў: у іх часта ўтрымліваецца тое, што можна выканаць, толькі «наклаўшы лапу» на галіны, куды дзяржаву ўжо ніхто не пусціць. Прыклады — кантроль цэн, сфера размеркавання грошай, тавараў. Абяцаюць перамогу над карупцыяй, на якую хварэе сам дзяржапарат, але ж гэта тое самае, што выцягванне Мюнхгаўзенам самога сябе за валасы з балота. Паспрабуйце даручыць чыноўніку, асноўны прыбытак якога складаецца з хабару, змагацца з хабарам, папрасіце лісу вартаваць куратнік, і глядзіце, што з гэтага выйдзе. Сённяшняя адміністрацыя спрабуе даручыць Расіі тое, з чым не спраўляецца сама (грашовая стабілізацыя — толькі самы характэрны прыклад, але не адзіны), замест таго, каб стымуляваць самастойнасць і актыўнасць недзяржаўных структур і суб'ектаў у Беларусі, якія зробяць гэта хутчэй і лепш, чым дзяржавы і беларуская, і расійская і паасобку, і сумеснымі намаганнямі.

Тут жа неабходна разглядаць патэрналізм і падтрымку асобных галін прамысловасці і гаспадаркі наогул.

Выбаршчыкі могуць узважыць: ці не шмат кандыдаты ў прэзідэнты на сябе бяруць? З'есці то яны з'ядуць, але хто ім дасць?

Ніхто з прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла не выказваўся па канцэпцыі дзяржавы. Нават на Украіне ўрад заказаў сваім інтэлектуалам распрацоўку канцэпцыі дзяржаўнасці Украіны. А ў Беларусі кандыдаты ў прэзідэнты выказва-

4. Гэты крытэрый просты, трэба толькі ўсё старанна ўзважыць.

4а. Фондавыя біржы чуйна рэагуюць на палітычную кан'юнктуру. Сёння Беларусь на 100-м месцы па бяспецы інвестыцый, сюды могуць укладваць грошы толькі вар'яты і тыя, у каго няма іншай магчымасці. Грошы сплываюць з Беларусі туды, дзе больш надзейна і больш бяспечна.

Пад каго з кандыдатаў могуць даць грошы знешнія і ўнутраныя інвестары? Пад аўтарытэтнага Шушкевіча, нікому невядомага Новікава, ці пад Кебіча, які забяспечыў «ганаровае» сотае месца? Адназначна, што камуністам грошай даваць нельга, ад іх грошы трэба хаваць — раскулачаць у любы момант. Лічыце, прыкідвайце.

Агульнавядома таксама, што грошы не даюць проста так. Грошы атрымліваюцца ад продажу тавараў, маёмасці, рэсурсаў і паслуг альбо іх можна атрымаць пад інвестыцыйныя праекты развіцця. Акрамя таго, патрэбна яшчэ страхоўка і перастрахоўка інвестыцыйных укладаў, крэдытаў і фінансавання здзелак.

Табліца параўнаўчых характарыстык кандыдатаў

датаў па адносінах да задач, што стаяць перад краінай

Зразумела, што камуністам грошай не дасць больш ніхто. Таму Новікава мы выключаем з разгляду па гэтым пункце. З астатнімі трэба разбірацца канкрэтна.

Кебіч: Расія расплачваецца (калі пагадненне аб аб'яднанні грашовых сістэм будзе даведзена да рэалізацыі, што сумніцельна) з Беларуссю двума трыльёнамі рублёў. Па адносінах да гэтых грошай можа быць пастаўлена два пытанні: за што плаціць Расія? колькі каштуе тое, што яна купляе? У Кебіча не было на перамовах з Расіяй ніякіх інвестыцыйных праектаў, здзелка разавая, нічога, акрамя 2 000 000 000 рублёў, не будзе. Што ж прадаў Кебіч Чарнамырдзіну?

Нацыянальны банк з вантробамі: цана — ?
Ваенныя базы расійскай арміі: цана — ?
Рэжым мытнага спрыяння: цана — ?
Усяго: 2 000 000 000.

Можа быць, адзін Нацыянальны банк каштуе больш за 2 трыльёны, тады дзве іншыя адзінкі тавару «падкінулі Расіі ў нагрузку». А можа — наадварот, усе тры аб'екты продажу не вартыя гэтых грошай, тады можна меркаваць аб наяўнасці сакрэтнага дадатку да пагаднення, у якім указаны паслугі адміністрацыі Кебіча Чарнамырдзіну, пра якія беларускі народ даведаецца толькі праз шмат гадоў. Прадзешавіў Кебіч ці «зрабіў гешэфт»? Гэта стане зразумела вельмі хутка, але ў любым выпадку позна, бо папярэдняй калькуляцыі няма. Тое, што гаворыцца ў газетах пра вынікі пагаднення, — суцэльная хлусня.

Паколькі гэтая здзелка самім Кебічам разглядаецца як галоўная справа яго жыцця, то і яго можна выключыць з далейшага аналізу. Ні Захад, ні ўнутраныя, ні расійскія інвестары нічога пад Кебіча, акрамя гэтых вартых жалю 2 000 000 000, не дадуць.

Найбольшую цікавасць уяўляюць у сэнсе крэдытаздольнасці Шушкевіч, Пазняк і Карпенка (імідж Лукашэнкі зближае яго з камуністамі, а яго каманда, якая можа прапанаваць новыя ідэі і больш дакладную пазіцыю, пакуль сябе не праявіла), у меншай ступені — Карагін. Усе яны маюць свае козыры. Больш падрабязна іх магчымасці мы разгледзім у наступных аналітычных матэрыялах, а пакуль адзначым толькі аўтарытэт, які ўжо зароблены Шушкевічам, і тое, што Карагін і Карпенка, будучы вылучэнцамі пэўных колаў, мацней, чым Шушкевіч і Пазняк, завязаны на свае лобі.

З гэтых чатырох постацей перавагу ў сэнсе крэдытаздольнасці Рэспублікі Беларусь, на чале якой яны маюць шанц стаць, атрымае той, хто зможа зрабіць гаспадарчую сітуацыю краіны і інвестыцыйны клімат зразумелымі і прачытваемымі для патэнцыяльных інвестараў і крэдытораў. Бо нягледзячы на тое, што прыбыткі ў Беларусі (як і ў астатняй Усходняй Еўропе) адны з самых высокіх у свеце, сюды ніхто не спяшаецца, таму што ўмовы і эфектыўнасць інвестыцый не паддаюцца падліку, а рызыка вялікая і — ніякай страхоўкі. Пакуль шанцы ўсёй чацвёркі роўныя, усе яны, у прынцыпе, здольныя забяспечыць інвестыцыйную прывабнасць Беларусі і страхаванне крэдытаў і інвестыцый.

4б. Хто з кандыдатаў можа прыцягнуць спецыялістаў і прафесіяналаў да рашэння праблем краіны? Той, хто ўсё спрабуе рашаць сам, ці той, хто дэлегуе паўнамоцтвы прафесіяналам? Той, хто прымае рашэнні на аснове метадаў аналізу «кухарак», ці той, хто здольны працаваць на ўзроўні сучаснай навукі і метадалогіі? За кім пойдуць інтэлектуалы і прафесіяналы? За тым, хто даказаў, што іх ні ў грош не ставіць, альбо за тым, хто адкрывае дарогу для ініцыятывы?

Паглядзім на магчымасці кандыдатаў у гэтым плане. У Беларусі існуе пагардлівае стаўленне да інтэлекту і інтэлектуальнай працы. Усе прагнуць жыць толькі сваім розумам, інтэлект разглядаецца не як прафесійная сфера, а як статус у навуковых «тусоўках». Не склалася сфера інтэлектуальных паслуг: кансалтынга, аналітыкі, маніторынга, прагназавання і г. д. Як вынік — сёння інтэлектуалы размяркоўваюць сваю падтрымку кандыдатам выпадкова альбор наогул застаюцца збоку. Рэзкую перавагу атрымае той кандыдат, які першым зразумее неабходнасць прафесійнага забеспячэння як перадвыбарчай праграмы, так і праграмы дзеянняў у якасці прэзідэнта. А інтэлектуалы і прафесіяналы пойдуць за тым з кандыдатаў, які прапануе ім мэту і сэнс іх існавання ў новай Беларусі.

Новікаў — камунізм ужо ані ў якім выглядзе не можа прывабіць інтэлектуалаў і прафесіяналаў.

Лукашэнка — вельмі зваблівая постаць для маргінальных прафесіяналаў і інтэлектуалаў.

Пазняк — карыстаецца пэўнай падтрымкай у інтэлектуальных сферах, але, пакуль не будзе яго прамых зносін, ад свайго імя і пэўнай карэкцыі стаўлення да прафесійных сфер з боку БНФ, гэтая падтрымка будзе заставацца пасіўнай. Голай ідэалогіяй інтэлектуалаў не возьмеш.

Шушкевіч — актыўна губляе падтрымку інтэлектуалаў, пры гэтым ён, здаецца, адзіны, каму гэтая падтрымка актыўна прапануецца. Стаўка на метады і прынцыпы палітычнага жыцця і барацьбы чатырохгадовай даўнасці робіць яго становішча досыць няўстойлівым.

Прагматыкі (Карпенка, Карагін, Козік) як новыя постаці прываблiваюць некаторую ўвагу да сябе з боку інтэлектуальных і прафесійных колаў. Прафесіяналы бачаць у іх «раскрутцы» пэўны шанц для сябе, але без сустрэчнага руху альянс не адбудзецца, хоць такі альянс быў бы неабходны ўсім бакам і новай Беларусі, нават калі ніхто з іх не стане прэзідэнтам, а толькі «раскруціцца».

4в. Хто з кандыдатаў можа прапанаваць насельніцтву асэнсаваны план дзеянняў і сур'ёзныя мэты? Не «светлую будучыню» з пыльных кніг і злінялых лозунгаў, не далёкі рай на зямлі, але і не прыземленыя кілбасу і 15 сотак.

Толькі двое могуць прадставіць грамадству развітыя ідэалогіі, мэты і перспектывы: Пазняк — нацыяналізм, Новікаў — камунізм. Зразумела, што гэтыя дзве сістэмы каштоўнасцей знаходзяцца на розных фазах сваёй эвалюцыі. Сацыяльная і інтэлектуальная база нацыяналізму пашыраецца, колькасць яго прыхільнікаў будзе расці, а камунізм знаходзіцца ў заняпадзе, колькасць яго прыхільнікаў скарачаецца і стабілізуецца на пэўным узроўні. Адпаведна, гэтыя дзве ідэалогіі адрозніваюцца ўзроставай і пакаленцкай прадстаўнічасцю. Але затое абодва гэтыя кандыдаты маюць магчымасці весці перадвыбарчую барацьбу на сваіх «ідэалагічных тэрыторыях». Гэта дае ім пэўныя перавагі пры загадзя няроўных шанцах.

Яшчэ два кандыдаты ўвасабляюць сабой сітуатыўна прывабныя квазіідэалогіі-аднадзёнкі: Лукашэнка — парадак і справядлівае пакаранне, Кебіч — калабарацыянізм і рэстаўрацыю звычнага ладу жыцця. Ясна, што гэтыя каштоўнасці папулісцкія, яны не маюць пад сабой аніякай рэальнай асновы, але ў канкрэтнай сітуацыі могуць быць вельмі эфектыўнымі. Усе астатнія кандыдаты вымушаны тузацца паміж сабой і з чатырма ўжо названымі, альбо пераймаючы, пазычаючы мэты і ідэалогіі, пералічаныя вышэй, і папулісцкія лозунгі, альбо канкурыруючы ў прагматызме. Прагматызм і рацыянальнасць уяўляюць найбольшую цікавасць для аналізу, але вымагаюць значных інтэлектуальных і прафесійных намаганняў з боку кандыдатаў і іх каманд. І тое, і другое пакуль што ўва ўсіх кандыдатаў у дэфіцыце.

4г. Хто з кандыдатаў, клапоцячыся пра заводскіх рабочых, не забудзецца на прадпрымальнікаў, зможа аднолькава ўлічыць інтарэсы моладзі і ветэранаў, чарнобыльцаў і людзей мастацтва? Як наогул кандыдаты і іх каманды бачаць структуру беларускага грамадства?

Іх апеляцыі да інтарэсаў асобных пластоў і груп пакуль вельмі бязадрасныя і абстрактныя. Больш канкрэтна можна было б сказаць па гэтым крытэрыі, прааналізаваўшы лобі, што стаіць за кожным кандыдатам (да чаго мы вернемся ў наступных матэрыялах).

Тут з кандыдатамі злы жарт іграе ўжо пазначаная намі пагарда да інтэлекту. У Беларусі адсутнічае хоць бы збольшага здавальняючая сацыяльна-структурная канцэпцыя альбо сацыялагічная тэорыя ў дачыненні да сённяшняга грамадства, і ніхто з кандыдатаў не здагадаўся заказаць іх распрацоўку загадзя. Таму ніводнаму сацыялагічнаму апытанню нельга давяраць. Пры бяздарнасці і абстрактнасці беларускай сацыялогіі шанцы вышэйшыя ў папулісцкіх кандыдатаў і тых, хто працуе на ўзроўні інстынктаў, сацыяльных забабонаў і савецкіх ідэалагем.

5. Ці ёсць у кандыдата і яго каманды тое, з чым ён можа звярнуцца да грамадзян краіны? Дзеля чаго патрэбна гэтая краіна? Калі суверэнітэт — вымушаная мера і памылка, дык навошта ў такой краіне прэзідэнт? Хто з кандыдатаў можа адказаць на гэтыя пытанні і як яны на іх адказваюць? Ці трэба выбіраць прэзідэнта, які заўтра захоча стаць губернатарам Паўночна-Заходняга краю? Калі загадзя задаць такое пытанне, дык хітрасць і шчырасць кандыдатаў стануць відавочныя. Але, можа, выбаршчыкі і хочуць мець прэзідэнта з кукішам у кішэні? Усе разам кажам адно, а ў галаве іншае.

Вось ужо 130 гадоў у Беларусі няма ўласнай ідэалогіі. Нацыяналізм яшчэ вельмі малады, не забяспечаны інтэлектуальна і праграмна. І тым не менш Пазняк мае неаспрэчную перавагу перад усімі астатнімі кандыдатамі. Кандыдаты-прагматыкі могуць узмацняць свой ідэалагічны ўплыў, падкрэсліваючы ідэі суверэнітэту, тым самым узмацняючы і пазіцыі Пазняка. У адваротным выпадку яны апыньваюцца ў двухсэнсоўнай пазіцыі калабарацыяністаў, дамагаючыся пасады марыянетачнага прэзідэнта. Кебіч ужо адназначна паставіў сябе ў гэтую сітуацыю, не заўважаць гэта ён можа, толькі чытаючы ў газетах вернападданніцкія тэлеграмы праўленняў калгасаў у падтрымку сваіх дзеянняў і ігнаруючы ўсё астатняе. Калі іншыя кандыдаты не хочуць апынуцца ў ідэалагічнай ізаляцыі, як Кебіч, яны ўсе вымушаны стаць у апазіцыю да яго.

6. Ласкавае цялятка дзвюх матак ссе. Беларусь не можа жыць у ізаляцыі ад свету, чым шырэйшыя міжнародныя сувязі, тым багацейшая краіна. Калі Беларусь, нават зберагаючы суверэнітэт, становіцца сатэлітам Расіі, яна не можа карыстацца падтрымкай, дапамогай і разлічваць на супрацоўніцтва з іншымі краінамі: Германіяй, ЗША, Японіяй і г.д. Магчымасці кандыдатаў і іх каманд у гэтым сэнсе вельмі розныя. Для сённяшняй адміністрацыі ўжо ўсё вядома (прыгадаем тое ж 100-е месца), камуністы прывядуць да поўнай ізаляцыі краіны, нават ад Расіі.

Лідзіруючае становішча па гэтым крытэрыі мае Шушкевіч. Яго казырныя карты: нейтралітэт, бяз'ядзерны статус, дэмілітарызацыя і асабісты аўтарытэт. Усё гэта робіць яго зусім свабодным у пытаннях знешнепалітычнай дактрыны і дазволіць яму ў якасці патэнцыяльнага прэзідэнта высоўваць выгадныя для Беларусі лозунгі.

Вядомасць Кебіча амаль такая ж, хоць да апошняга часу ён заставаўся ў цені Шушкевіча. Але гэтая вядомасць зусім з адваротным знакам. Карысным для Беларусі ў якасці патэнцыяльнага прэзідэнта ён можа быць толькі ў адносінах з Расіяй, бо ўжо зарэкамендаваў сябе як фігура, зручная для Расіі ў навязваемай ёю Беларусі гульні. У адносінах з іншымі краінамі гэта будзе выклікаць вялікія цяжкасці.

Досыць пэўнай з'яўляецца кандыдатура Новікава. У якасці патэнцыяльнага прэзідэнта ён ускладніць становішча Беларусі з усімі краінамі, уключаючы Расію з яе антыкамуністычнымі настроямі.

Усім астатнім кандыдатам яшчэ трэба будзе зарэкамендаваць сябе па гэтым крытэрыі. У выйгрышы застанецца той, хто зможа прапанаваць знешнепалітычную дактрыну Беларусі, якая будзе адэкватная працэсам, што адбываюцца ў сучаснай Усходняй Еўропе, выразную і рацыянальную. Беларусь павінна заняць сваё месца ў сучасным свеце, а не быць сатэлітам Расіі. Тое, што магло б быць выгадна Беларусі, калі б яна была правінцыяй Расіі, у корані супярэчыць яе інтарэсам як суверэннай дзяржавы. Уваходжанне ж Беларусі ў Расію і адмову ад суверэнітэту мы разглядаць адмаўляемся.

7. У гэтым крытэрыі маецца на ўвазе не псіхалагічная характарыстыка асобы кандыдата, а палітычная «воля», якая вызначаецца наяўнасцю выразных доўгатэрміновых мэт, стратэгіі і праграмы. Калі доўгатэрміновая перспектыва ясная, дык часовыя няўдачы і цяжкасці не перашкаджаюць рабоце і рэалізацыі праграм і ўсяго, што задумана. Калі гэтага няма, дык нават дробныя цяжкасці і памылкі прымушаюць мітусіцца і пастаянна мяняць курс і палітыку. У такога прэзідэнта будзе абавязкова «сем пятніц на тыдні» і нават крыху больш. Мітуслівасць сённяшняй адміністрацыі (а асабліва Вярхоўнага Савета) ёсць вынік таго, што ў яе няма будучыні — як рэальнай, так і ўяўлення аб будучыні. Яны жывуць сённяшнім днём, таму не здольныя на працоўныя высілкі, што вымагаюць часу, які перавышае працягласць аднаго пасяджэння.

Палітычная воля складаецца з некалькіх фактараў: рамкі і прапісанасці доўгатэрміновых праграм; рэсурсы, якія маюцца ў распараджэнні дзеючага палітыка; дзейснасць грамадскага, партыйнага і інтэлектуальнага кантролю; сацыяльная база і апірышча. Усе гэтыя фактары мы зробім матэрыялам марфалагічнага аналізу ў адной з бліжэйшых публікацый.

8. Пры апеляцыі да выбаршчыкаў кандыдаты часта выцягваюць канцэпцыі і праграмы, ужо апрабаваныя ў мінулым і састарэлыя, але зберагаючыя прывабнасць для абывацеля. Ідэал Андропава яшчэ доўга будзе ачышчацца ад «нафталіна» і падавацца як «апошні піск моды». Задача інтэлектуалаў і прафесійных незалежных аналітыкаў расстаўляць у гэтых адносінах усё па сваіх месцах. Не так нават для выбаршчыкаў, як для рэфлексіі саміх кандыдатаў і іх каманд. Беларусь вымушана жыць у сучаснай Еўропе, а не ў адсталым «трэцім свеце», куды яе спрабуюць перацягнуць каманды некаторых кандыдатаў, што распрацоўваюць праграмы з выкарыстаннем «леташняга снегу», пасля чаго не даводзіцца здзіўляцца, адкуль у праграмах столькі «вады». Як гаварыў Габрыэль Гарсія Маркес, сённяшняя гразь утвараецца з учарашняга пылу. Не высушвайце сённяшнюю гразь, усё адно нічога, акрамя ўчарашняга пылу, не атрымаецца, і заўтра ўсё застанецца гэтак, як і раней.

Простыя адказы на пытанне аб сучаснасці праграм банальныя і прымітыўныя. Праблема заключаецца не ў тым, каб абазваць каго-небудзь з кандыдатаў несучасным, а ў тым, хто і чаму можа ўзяць на сябе смеласць пра гэта меркаваць. У філасофскім плане гэтае пытанне можа быць пастаўлена як праблема крытыкі здольнасці меркавання. Але прэзідэнту давядзецца не дыскутаваць з Кантам, а практычна забяспечваць баланс паміж сучаснасцю і архаічнасцю форм мыслення і дзейнасці такім чынам, каб быць адэкватным сусветным і еўрапейскім працэсам — з аднаго боку, і актуальнай сітуацыі ў Беларусі — з другога. Акрамя таго, яму неабходна пазбягаць заганнай стратэгіі мадэрнізацыі, якая, будучы прынятай, робіць краіну навек адсталай і даганяючай. Здольнасць прэзідэнта рашыць гэтыя задачы можа быць дыягнаставана па рэакцыі на інтэлектуальную крытыку (у тым ліку і на дадзеную). Недальнабачнасць усіх сённяшніх кандыдатаў у прэзідэнты праяўляецца ў слабасці іх інтэлектуальных каманд, у тым, што ніхто з іх не стымулюе павышэнне палітычнага і культурнага ўзроўню ў Беларусі, і ў тым, што амаль усе яны рэагуюць выключна на ахлакратычныя думкі і меркаванні, а не на прафесійныя. Тут, наколькі нам вядома, існуюць супярэчнасці і трэнні паміж кандыдатамі ў прэзідэнты і камандамі. Каманды, зазвычай, больш прафесійныя за сваіх лідэраў (што ані не адмяняе сказанага вышэй пра слабасць гэтых каманд), але не могуць без іх абысціся.

У рэшце рэшт, гэты крытэрый адаб'ецца не на поспеху перадвыбарчай барацьбы, а на тым, ці зможа пераможца пратрымацца ў прэзідэнцкім крэсле адведзены Канстытуцыяй тэрмін і рэалізаваць свае паўнамоцтвы. Сітуацыя ў Беларусі перасяпела, кантроль над ёй ужо даўно страчаны, хада падзей у любы момант можа стаць стыхійнай. Кебіч ужо назваў у друку патэнцыяльнага прэзідэнта камікадзэ.

**ГРУПА ЭКСПЕРТАЎ АГЕНЦТВА ГУМАНІТАРНЫХ ІНІЦЫЯТЫЎ**

ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі**
**і Міністэрства культуры і друку**
**Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

***Газету рэдагавалі***

| | |
|---|---|
| Х.Дунец | (1932–35) |
| І.Гурскі | (1935–41) |
| А.Куляшоў | (1945–46) |
| М.Горцаў | (1947–49) |
| П.Кавалёў | (1949–50) |
| В.Вітка | (1951–57) |
| М.Ткачоў | (1957–59) |
| Я.Шарахоўскі | (1959–61) |
| Н.Пашкевіч | (1961–69) |
| Л.Прокша | (1969–72) |
| Х.Жычка | (1972–76) |
| А.Асіпенка | (1976–80) |
| А.Жук | (1980–86) |
| А.Вярцінскі | (1986–90) |

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась ЗАЛОСКА
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*



**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня "Беларускі Дом друку"**
**Індэкс 63856. Наклад 17.000.**
**Нумар падпісаны 2.06.1994 г.**

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

